—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
17
КРАСАВІКА
1992 г.
№ 16 (3634)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ШТО ЗАМІНАЕ СУВЕРЭНІТЭТУ БЕЛАРУСІ

**Вадзім АЛЕКСАНДРОВІЧ: «Згубіўшы лепшыя адзнакі сялянскай напорыстай хітрасці, узоры якой выдатна дэманструюць нашы паўночныя суседзі — прыбалты, мы, беларусы, патрапілі захаваць нейкі светлы наіў. Мы, у асобе першых кіраўнікоў, не прамінаем амаль ніводнае нагоды, каб не падкрэсліць незвычайную адданасць ды ўдзячнасць кіраўніцтву Расіі».**

СТАРОНКА 4

## ПАДАРОЖЖА Ў КУЛЬТУРУ

**Міхась ЗАМСКІ: «...Пачынаеш міжволі думаць пра марнасць працы нашага афіцыйнага культуртрэгерства, што акапаўся ў сценах клубаў і тэатраў. Мо трэба было пачынаць, фігуральна кажучы, з піўнога ларка! Мо не было б тады паміж бытавой культурай і культурай афіцыйнай дыстанцыі такога памеру!»**

СТАРОНКІ 5, 12

## ТАК І ЖЫВЁМ...

**Спроба нарыса літаратурных нораваў.**

СТАРОНКА 6

## «УЗЫДЗЕ НАША ЗЕРНЕ»

**Новая старонка творчасці Каруся Каганца.**

СТАРОНКА 7



## ВОСЬ ТАКАЯ «КАЗКА»...

**Нататкі пра новы дзіцячы музычны тэатр.**

СТАРОНКІ 10—11

## У ПОЛЬШЧУ— ДА БЕЛАРУСАЎ



**Вандроўка па Беласточчыне.**

СТАРОНКІ 14—15

**На думку аўтара, скульптара Валяр'яна Янушкевіча, над гэтым помнікам яшчэ працаваць ды працаваць... Але ўжо зараз відаць, што праца мае плён і, дай Божа, праз пэўны час гістарычны цэнтр Ліды будзе ўпрыгожаны бронзавай постаццю Францішка Скарыны, першадрукара ўсходніх славян.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

**9 КРАСАВІКА**

Апошнія красавіцкія дні сталі для Рэспублікі Беларусь, без перабольшання, днямі вялікай дыпламатыі.

Падпісаннем Парыжскай хартыі вольнай Еўропы завяршыўся афіцыйны візіт у Францыю дэлегацыі на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевічам. Дэлегацыя, у якую ўваходзілі міністр замежных спраў Беларусі П. Краўчанка і старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Н. Гілевіч, была прынята Прэзідэнтам Францыі Ф. Мітэранам. Адбыліся перамовы з прэм'ер-міністрам Францыі П. Берагавуа, іншымі членамі кабінета міністраў, парламентарыямі, вядомымі прадпрымальнікамі, у ходзе якіх закраналіся пытанні двухбаковых адносін, у прыватнасці — эканамічнага супрацоўніцтва.

**10 КРАСАВІКА**

У сталіцы Беларусі адбылася падзея, якую можна аднесці да разраду кур'ёзных. Нечарговая сесія гарадскога Савета, якая сабралася па патрабаванні групы дэпутатаў, каб разгледзець пытанне «Аб адпаведнасці кіраўнікоў гарсавета займаемай пасадзе», працягвалася... усяго некалькі хвілін. Большасць дэпутатаў прагаласавала супраць разгляду прапанаванага пытання.

**11 КРАСАВІКА**

Чатыры ядзерныя дзяржавы СНД — Беларусь, Казахстан, Расія і Украіна паспрабавалі выпрацаваць агульны падыход да выканання Дагавора па скарачэнні стратэгічных ядзерных узбраенняў. Але сустрэча прадстаўнікоў знешнепалітычных ведамстваў у Маскве скончылася безвынікова.

Тамсама прайшла сустрэча міністраў замежных спраў Расіі і Украіны па пытаннях Чарнаморскага флоту. (Як вядома, напярэдадні прэзідэнты абедзвюх дзяржаў прыпынілі свае ўказы адносна прыналежнасці флоту, якія выключаюць адзін аднаго). А ў Мінску прайшлі адразу два з'езды — чарговы (другі) з'езд Сялянскай партыі Беларусі і ўстаноўчы з'езд Партыі народнай згоды. Звыш ста дэлегатаў апошняга, сярод якіх былі навукоўцы, выкладчыкі вышэйшых навучальных установаў, прадпрымальнікі, кааператары, рабочыя, прынялі статут новай партыі і выбралі кіруючыя органы. Старшынёй партыі выбраны народны дэпутат Беларусі Г. Карпенка.

**12 КРАСАВІКА**

На перамовы ў Рым накіравалася дэлегацыя Беларусі на чале са Старшынёй Савета Міністраў РБ В. Кебічам. У ходзе візіту адбылася сустрэча з Прэзідэнтам Італіі Дж. Андрэоці.

**13 КРАСАВІКА**

Панядзелак, вядома, цяжкі дзень. Відаць, гэтае правіла дзейнічае і ў палітыцы. (Невыпадкова ж менавіта ў гэты дзень узнікла рэальная пагроза ўрадавага крызісу ў Расіі і канфрантацыі паміж з'ездам народных дэпутатаў і ўрадам Ельцына-Гайдара.) Было над чым задумацца і народным дэпутатам Беларусі. Ініцыятыўная група БНФ па правядзенні рэферэндуму аб будучыні парламента прадставіла ў Цэнтральную выбарчую камісію больш як 446 тысяч подпісаў у падтрымку рэферэндуму.

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі прымаў тым часам вярыцельныя граматы ў надзвычайнага і паўнамоцнага пасла ФРГ у Рэспубліцы Беларусь Р. Краўса.

**14 КРАСАВІКА**

Вярыцельныя граматы ўручыў Старшыні ВС Беларусі К. О. Ф. Хоўг — надзвычайны і паўнамоцны пасол Аўстраліі ў Рэспубліцы Беларусь...

У рэспубліку ў гэты дзень прыбыла вялікая (каля ста пяцідзесяці чалавек) дэлегацыя Сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі. А тым часам драматычныя падзеі разгортваліся ў Вярхоўным Савеце (дзе працягвалася абмеркаванне справаздачы Прэзідыума) і каля яго — на плошчы Незалежнасці, дзе разбілі палаткі гарнякі з Салігорска, якія трымаюць галадоўку пратэсту...

**15 КРАСАВІКА**

Удзельнікі міжнароднага кангрэса «Свет пасля Чарнобыля» пабывалі ў лекавых і навуковых установах Мінска, а таксама ў забруджанай радыяцыяй зоне Беларусі з тым, каб на практыцы яшчэ раз убачыць, а пры магчымасці—паспрабаваць вырашыць праблемы гуманітарнай дапамогі пацярпелым ад Чарнобыля. Напярэдадні ўдзельнікаў кангрэса віталі патрыяршы экзарх Беларусі Філарэт, Васіль Быкаў, пасол Германіі ў Беларусі Р. Краўс. Кангрэс, які працягваўся тры дні, завяршыўся ў чацвер стварэннем Сусветнага савета «Дапамога дзецям Чарнобыля».

# ПАЧАКАЕМ МЕСЯЦ...

Гістарычная падзея, што адбылася ў Менску ў панядзелак 13 красавіка, выглядала даволі будзённа. Да аднаго з пад'ездаў былога Дома палітасветы падышоў аўтобус у суправаджэнні міліцэйскага «газіка». Гэта прадстаўнікі ініцыятыўнай групы прывезлі ў Цэнтральную выбарчую камісію падпісныя лісты за рэферэндум.

Пасля таго, як закончылася афіцыйная працэдура перадачы падпісных лістоў, адбылася прэс-канферэнцыя. У ёй бралі ўдзел В. Вячорка (ён прадстаўляў прэс-службу ініцыятыўнай групы па правядзенні рэферэндуму), старшыня групы У. Анцулевіч, лідэр БНФ З. Пазняк, прадстаўнікі партый, што падтрымліваюць ідэю рэферэндуму. 446061 — такая дакладная лічба подпісаў, сабраных дзякуючы працы 1200 членаў ініцыятыўнай групы. 48% ад агульнай колькасці даў Мінск і Мінская вобласць. Другі па актыўнасці горад—Гродна. Тут за рэферэндум выказаліся 32 тысячы чалавек (пры насельніцтве — 170 тысяч). Найбольш актыўна падтрымлівае ідэю рэферэндуму інтэлігенцыя. Рэзка адмоўна ставяцца да яго былая партыйная наменклатура і работнікі гандлю.

На прэс-канферэнцыі быў зачытаны заключны акт (яго ініцыятыўная група перадала ЦВК разам з падпіснымі лістамі), афіцыйны дакумент, што заверае подпіс сп. Анцулевіча на падпісных лістах, заява ініцыятыўнай групы па фактах парушэння ўладамі Беларусі правоў чалавека, уціску супраць тых, хто ставіў свой подпіс за рэферэндум. Цяпер на працягу месяца падпісныя лісты будуць знаходзіцца ў цэнтральнай камісіі на праверцы. А што потым? Ці захоча Вярхоўны Савет—апошняя інстанцыя—разглядаць пытанне аб рэферэндуме?

У Вярхоўнага Савета няма выйсця: альбо зацвердзіць дату рэферэндуму, альбо адмовіцца разглядаць гэта пытанне і тым самым сцвердзіць сваю недзеяздольнасць і самараспусціцца, лічыць Зянон Пазняк. Што ж, пачакаем месяц.

П. ВАСІЛЕЎСКІ.



На прэс-канферэнцыі.



У такім пакунку—1000 падпісных лістоў.

РЭХА РЭСПУБЛІКІ

# ДЗІЎНЫЯ РЭКАМЕНДАЦЫІ,

## альбо Такое бывае толькі ў нас

У штотыднёвік на імя рэдактара прыйшоў ліст наступнага зместу: «В связи с тем, что Ваша газета систематически клевещет на русский народ, я вынужден был обратиться в комиссию Верховного Совета с жалобой. От председателя комиссии М. А. Слемнева получен был следующий ответ:

«Вы не единственный, кто обращается с жалобами на газеты «ЛіМ», «Добры вечар», «Народная газета». Об этом мы поставили в известность указанные издания. Одновременно сообщаю, что вы можете непосредственно обратиться в Прокуратуру Республики Беларусь с просьбой провести проверку соответствующих публикаций на предмет возможного нарушения Закона о печати и привлечения упомянутых изданий к уголовной ответственности». (І ўказваецца адпаведны артыкул.)

Далей аўтар ліста Г. Власаў у якасці «яркого примера русофобства» прыводзіць мой матэрыял пад назвай «Лямант на развалінах дзяржавы» («ЛіМ» за 20 сакавіка г. г.).

Праз пэўны час ён звярнуўся і да мяне асабіста — з развагамі пра «разгулявшийся и оголтелый» нацыяналізм, пра некаторых прадстаўнікоў «творчай» (так у пісьме) інтэлігенцыі, якія шукаюць у рускім народзе «причины вселенского зла», пра з'яву месіянства, якая падаецца аўтару допіса выключна плодам фантазіі лімаўскага супрацоўніка. У заключэнне мяне запрашаюць у «Белпроект» на адкрыты дыспут і абяцаюць паказаць пры сустрэчы ўжо працытаваны афіцыйны ліст старшыні камісіі, дзе рэкамендуецца «собирать материал о разжигании газетой «ЛіМ» межнациональной вражды».

У Г. Власава, па ўсёй бачнасці, гіпертрафіравана нацыянальнае пачуццё. Інакш бы ён не праігнараваў той момант, што мае высновы абапіраюцца на канкрэтныя публікацыі з расійскай прэсы, што ні злосці, ні надрыву, ні тым больш абраз у адрас рускага народа ў лімаўскім матэрыяле няма і блізка. Не адчуваю я ні да кога з рускіх аніякай асабістай варожасці, і зусім ужо не ўваходзіць у мае планы распальваць варожасць «паміж народамі».

Так, сама тэма маіх нататкаў сёння надзвычай «выбуховая». Многія лічаць за лепшае яе проста абмінаць, каб не было, як у той прымаўцы: памяні воўка... Аднак маладаследаваным пытаннем нацыянальнага характару я цікаўлюся даўно, чытаю адпаведную літаратуру, сачу за працэсамі, якія адбываюцца ў Расійскай дзяржаве і іншых. Пра беларусаў мне таксама даводзілася пісаць у крытычным плане. Бо доўгае знаходжанне пад жалезнай пятой, як і панаванне над народамі, фарміруе пэўнае светаадчуванне і адметны нораў. Не будзе ж адмаўляць Генадзь Іванавіч Власаў, што ў нашых народаў розныя характары? І калі ў народа ёсць душа, то і душы розныя? (Той самы менталітэт.) Адзінае, чым, на маю думку, можна змагацца з няўхільнай пагрозай асіміляцыі — гэта называць рэчы сваімі імёнамі, чаго б гэта ні тычылася. Што ўвогуле нязвыкла пасля дзесяцігоддзяў хлусні і прытворства, што не ўсім падабаецца і з-за чаго на нас пачынаюць вешаць бірку нацыяналістаў, паклёпнікаў і да т. п.

Калі ўжо Г. Власаў настолькі адчувальны, то чаму ён дасюль не «крыўдзіўся» за беларускі народ, на зямлі якога яго родны дзядзька склаў галаву ў вайну і дзе жыве, працуе ён сам? У нас, беларусаў, цяпер занадта сур'ёзнае становішча, каб ва ўсіх выпадках быць бездакорна ветлівымі і тактоўнымі ў адносінах да тых, каму мы ў пераважнай ступені абавязаны шырока распаўсюджаным манкуртствам.

Ну, прадстаўніка рускага народа яшчэ можна зразумець, увайсці, як кажуць, у становішча. Але як нам расцэньваць «рэкамендацыі» старшыні камісіі па нацыянальнай палітыцы і нацыянальных адносінах М. Слямнёва? Хіба не яго прамы абавязак — разбірацца з кожнай аналагічнай скаргай па сутнасці справы, а не быць перасылачнай інстанцыяй паміж лёгкаранімымі прадстаўнікамі меншасцей (што паводзяць сябе ў нас, як «большасці») і пракуратурай? Не ведаю, як паміж народамі, а паміж чытачамі і выданнямі ён пэўна сее варожасць, стараючыся, акрамя таго, ублытаць і без таго занятыя праваахоўныя органы. Дзіўнавата ўсё ж спадар Слямнёў разумее свае службовыя абавязкі...

Такое, пагадзіцеся, толькі ў беларускім парламенце можа мець месца, дзе добрая палова абраннікаў дасюль не ўсвядоміла, якому народу належыць служыць. Але ж вось які парадокс назіраецца: старонняя пазіцыя старшыні камісіі ВС сведчыць усё ж на карысць лімаўскай лініі. Так што закрываць нацыянальную тэму нам пакуль не выпадае...

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.

# ЗЯМЛЯ ЧАКАЕ ГАСПАДАРА

## 2-гі з'езд Беларускай сялянскай партыі

Гісторыя ўсіх краін сведчыць: калі блага селяніну — блага ўсяму народу. Камуністычны рэжым ісціна гэтая нічому не навучыла. Праводзячы прымусовую калектывізацыю, ён фізічна знішчыў самую працавітую частку сялянства, астатнюю ператварыўшы ў наёмных работнікаў.

Рабаўнічая палітыка ў адносінах да сялянства працягваецца і па сённяшні дзень. Думку гэтую развіў у сваім дакладзе на з'ездзе старшыня Беларускай сялянскай партыі Я. Лугін, адзначыўшы, у прыватнасці, што каманднаадміністрацыйная сістэма ў сельскай мясцовасці засталася нязменнай. У асноўным па гэтай прычыне не «працуюць» прынятыя Вярхоўным Саветам Беларусі Зямельны кодэкс, законы аб фермерскай гаспадарцы, аб прыватнай уласнасці на зямлю! Законы—самі па сабе, жыццё ж ідзе па даўно пракладзенай каляіне, якая вядзе ў нікуды.

Ну, а што Беларуская сялянская партыя, заснаваная 23 лютага мінулага года, што ўдалося ёй, як новай палітычнай сіле, зрабіць за год з нечым для адраджэння сялянства, ажыццяўлення зямельнай рэформы, перадачы зямлі ва ўласнасць сялян, для абароны іх палітычных і эканамічных інтарэсаў? Як адзначыў дакладчык, пэўныя здабыткі ў партыі ёсць — па-першае, павялічыўся яе колькасны склад — членамі БСП сёння з'яўляюцца 6 тысяч чалавек, узрос яе аўтарытэт і ўплыў. Я. Лугін назваў некалькі раёнаў, у прыватнасці, Калінкавіцкі і Кіраўскі, дзе плённа працуюць арганізацыі сялянскай партыі, абараняючы правы і інтарэсы мясцовых сялян.

Але агульная карціна не спараджае вялікага аптымізму — на месцах рычагі ўлады ў руках учарашняй партыйна-дзяржаўнай наменклатуры, якая, фактычна, сабатуе ажыццяўленне зямельнай рэформы, закон аб фермерскай гаспадарцы, жорстка падаўляючы ўсякае праяўленне сялянскай самастойнасці, жаданне вырвацца з акасцянелых рамак калгаснага спосабу гаспадарання, даўно і канчаткова сябе скампраметаваўшага. І хоць сёння ў рэспубліцы каля 700 фермерскіх гаспадарак — надвор'я ў сельскай гаспадарцы яны не робяць, тым больш, што большасць з іх яшчэ ледзь ліпяць, ніяк не могуць трывала стаць на ногі.

Трэба было паслухаць прамоўцаў на з'ездзе, каб зразумець, якія, часам, вытанчаныя, каварныя прыёмы ўжывае мясцовая наменклатура, каб паставіць цяжка пераадольную заслону перад кожным, хто захацеў прыдбаць кавалак зямлі ва ўласнае карыстанне.

Пра тое, што гэта з'яўляецца тыповай для рэспублікі карцінай, сведчыла і рэакцыя большасці дэлегатаў на выступленне старшыні Кіраўскай раённай рады партыі Б. Белавуса, які займае афіцыйную пасаду намесніка начальніка райаграпрома. Калі ён, расказаўшы аб здабытках кіруемай ім раённай арганізацыі БСП, падкрэсліў, што мясцовыя ўлады з усёй душой спрыяюць ажыццяўленню зямельнай рэформы, заўсёды гатовыя дапамагчы тым, хто захацеў стаць фермерам, і зямлёй, і тэхнікай, і насеннем, і складскімі памяшканнямі, зала ўзарвалася недаверлівымі воклічамі.

«У калгасе, на тэрыторыі якога я жыву, — расказаў у сваім выступленні фермер з Дрыбінскага раёна А. Цімошчанка, — мясцовае начальства запалохвае людзей, скажам, тым, што пажылыя вяскоўцы, якія адасобяцца ад калгаса, будуць пазбаўлены пенсій, а маладзейшыя сем'і хай забудуцца пра існаванне дзіцячых садкоў... Быццам, і тыя пенсіі, і карыстанне дзіцячымі садкамі, сельскімі клубамі з бібліятэкамі сяляне не заслужылі сваёй шматгадовай катаржнай працай на карысць сваёй «калектыўнай» гаспадаркі.

Дэлегат з'езда з Кобрынскага раёна М. Марыневіч расказваў аб сваіх хаджэннях па пакутах у спробах набыць зямлю для арганізацыі фермерскай гаспадаркі. Згодна з існуючым палажэннем, менавіта сельскі Савет валодае правам распараджацца дзесяццю працэнтамі зямлі, на якую распаўсюджваецца яго адміністрацыйная ўлада. Але ёсць у гэтым палажэнні адно даволі хітрае ўдакладненне — сельсавет можа перадаць зямлю селяніну, які вырашыў абзавесціся фермерскай гаспадаркай, толькі з дазволу асноўнага землекарыстальніка, г. зн. мясцовага калгаса ці саўгаса. А там мясцовыя кіраўнікі даўно навучыліся маніпуляваць думкай хлебаробаў. Вось і ў выпадку з Марыневічам калгасны сход вырашыў адмовіць яму, што тлумачылася досыць проста — старшыня сказаў калгаснікам, што калі таму ж Марыневічу аддадуць кавалак зямлі, які ён просіць, ім не будзе дзе пасвіць сваіх кароў...

Некаторыя прамоўцы на з'ездзе задаваліся пытаннем —чаму не набываюць практычнага ўвасаблення ўвогуле быццам бы і неблагія законы, накіраваныя на адраджэнне беларускай вёскі? Чаму так лёгка яны ігнаруюцца мясцовымі ўладамі? Пэўныя адказы на гэтыя пытанні былі ў выступленні сябра БСП, народ-

(Працяг на стар. 15).

# «Я ПАРАЎНОЎВАЎ ФРАНЦУЗСКІЯ ГАРАДЫ І ВЁСКІ З БЕЛАРУСКІМІ...»

На пачатку года ў Міністэрстве юстыцыі Беларусі зарэгістравана новая грамадская арганізацыя — міжнародная асацыяцыя «Беларусь—Францыя». Галоўныя яе мэты — наладжванне цесных эканамічных і культурных адносін паміж дзвюма краінамі.

Бізнесмены, банкіры, навукоўцы, палітыкі, дзеячы мастацтва, што аб'ядналіся ў яе радах, распачынаюць кантакты з французскімі прадпрыемствамі, рыхтуюць сумеснае выданне кніг, абменьваюцца рэкламай і інфармацыяй.

А зусім нядаўна адбыўся першы візіт у Парыж дэлегацыі «Белфранса» на чале з прэзідэнтам асацыяцыі народным дэпутатам Беларусі Уладзімірам Новікам. Арганізаваў яго Саюз беларусаў Францыі «Хаўрус».

Пасля вяртання ў Мінск карэспандэнт «ЛіМа» сустрэўся са спадаром Новікам.

**— Уладзімір Уладзіміравіч, перш за ўсё цікава будзе ведаць, што ўяўляе сабой беларуская дыяспара ў Францыі?**

— Яна ў Францыі невялікая. Нашых суайчыннікаў аб'ядноўвае Саюз беларусаў «Хаўрус», утвораны ў 1931 годзе. Пры суполцы існуе найцікавейшы архіў эміграцыі (вось дзе велізарнае поле дзейнасці для гісторыкаў!), працуе бібліятэка, ёсць штаб-кватэра. Адзін з сяброў «Хаўруса» Лявон Шыманец — вельмі аўтарытэтная фігура сярод нашай дыяспары, фактычна кіруе гэтай арганізацыяй.

Прыемна, што французскія беларусы — людзі вельмі адукаваныя і нацыянальна свядомыя. У меру сваіх сіл і магчымасцей яны шчыра клапоцяцца аб іміджы Беларусі ў свеце.

**— А як наогул у Францыі ставяцца да Беларусі?**

— Як гэта ні сорамна і ні балюча, але ж амаль што ў суседняй краіне, да якой і на машыне не так доўга ехаць, нас мала ведаюць. І калі падчас сустрэч з даволі ўплывовымі бізнесменамі і палітыкамі мы гаварылі, што прыехалі з Беларусі, то адразу ж сыпаліся пытанні: дзе ваша пасольства, хто прадстаўляе вашы інтарэсы ў Францыі? Што на гэта можна было адказаць? Што старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі даручыў абараняць нашы інтарэсы расійскай дыпламатыі? Хацеў бы зазначыць, што пасольства Расіі ў Францыі робіць гэта вельмі дрэнна, а калі сказаць прама, то ўвогуле стараецца не паказваць французскай грамадскасці, што такая дзяржава, як Беларусь, існуе.

Ужо ў першыя дні візіту я зразумеў: мы павінны як мага хутчэй адкрыць сваё пасольства альбо консульства. Пакуль бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня не знойдуць пастаяннай «прапіскі» ў Парыжы, ніхто там не будзе ўспрымаць Беларусь як суверэнную дзяржаву.

**— Адкрыць пасольства, можна, але ж, прабачце, гэта вельмі дорага.**

— Так, у нас зараз цяжкае эканамічнае становішча, але выйсце можна знайсці і яго ўжо адшукалі краіны Балтыі. Па просьбе іх урадаў мэрыя Парыжа часова, пакуль Расія не верне забраную маёмасць, адвяла пасольствам Эстоніі, Латвіі і Літвы цэлы будынак на Манмартры. Украіна размясціла сваё знешнепалітычнае прадстаўніцтва на тэрыторыі пасольства былога СССР. Мы ж і ў гэтай надзвычай важнай справе зноў плящёмся ў хвасце...

Чаму б нашаму ўраду не звярнуцца з аналагічнай просьбай? А каб не траціць лішне грошай, часовым паверанным можна было б прызначыць каго-небудзь з французскіх беларусаў, тым больш, што сумленных, адукаваных і свядомых людзей сярод іх багата.

У Францыі, я яшчэ раз упэўніўся, Расія дбае толькі пра сябе. Ідзе час, і мы губляем на знешняй палітыцы вельмі шмат, хаця даўно вядома: той, хто прайграе на гэтым фронце, вымушаны ісці ў рэчышчы палітыкі другой дзяржавы.

**— Саюза больш няма, імкліва рвуцца сувязі паміж рэгіёнамі, і для Беларусі сёння надзвычай важна наладжванне непасрэдных дзелавых кантактаў з замежнымі краінамі-суседзямі. Якімі яны бачацца вам у французскім кантэксце?**

— Як міжнароднай грамадскай арганізацыі, нашы магчымасці тут, вядома ж, абмежаваныя. Але праз Саюз беларусаў мы ўжо ў недалёкай перспектыве можам наладзіць узаемавыгаднае эканамічнае супрацоўніцтва. Найбольш перспектыўныя накірункі — аказанне пасрэдніцкіх паслуг, дзелавы турызм, арганізацыя выстаў і гастроляў, стварэнне сумесных прадпрыемстваў і інфармацыйных служб.

Думаю, што Беларусь — адна з самых высокаразвітых краін садружнасці, павінна выклікаць да сябе вялікі інтарэс у французаў. У час сустрэч з прадстаўнікамі дзелавых колаў быў выказаны шэраг цікавых прапаноў. Так, Жан Курто, член праўлення Аграбанка Францыі, гатовы арганізаваць стажыроўку беларускіх фермераў на працягу 1—2 гадоў, Жан Мюрг — вядомы лётчык-выпрабавальнік і дырэктар незалежнай экспертнай фірмы — выказаў жаданне працаваць над праектам мадэрнізацыі сістэм кіравання паветраным рухам. Сваю шчырую зацікаўленасць у пашырэнні кантактаў паміж дзвюма краінамі выказаў і член французскага парламента, намеснік старшыні Камітэта па міжнародных справах Андрэ Бялон.

**— А вашы асабістыя ўражанні ад Францыі?**

— Гэта вельмі прыгожая краіна, краіна высокай культуры, скарбонка чалавечай гісторыі. Я ўвесь час параўноўваў французскія гарады і вёскі з беларускімі і станавілася балюча — да чаго ж будаўнікі «светлага будучага» давялі Бацькаўшчыну за сем дзесяцігоддзяў!..

Але ж, як бы ні было сумна і крыўдна, галоўнае зараз — працай і канкрэтнымі справамі мацаваць незалежнасць Беларусі, тады і ў нас усё будзе добра. Думаю, што асацыяцыя «Беларусь — Францыя» ўнясе ў гэтую справу няхай невялічкі, але свой уклад.

**— Дзякуй вам за гутарку і — поспехаў «Белфрансу»!**

Гутарыў
**Вацлаў БАГДАНОВІЧ.**

# У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ — «ЛіМ»

## З пасяджэння рады СП Беларусі

**«Літаратура і мастацтва»: пытанні літаратурнага жыцця» — гэта было ці не галоўным на парадку дня апошняга пасяджэння рады Саюза пісьменнікаў Беларусі. М. Тычына, які падрабязна прааналізаваў лімаўскія публікацыі апошняга часу; намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў У. Паўлаў (ён вёў пасяджэнне), К. Цвірка, П. Макаль, Я. Брыль, Л. Дайнека, С. Грахоўскі і іншыя адзначылі набыткі штотыднёвіка, што належыць, як адзначалі прамоўцы, да выданняў у добрым сэнсе апазіцыйных. Гэта пачалося з прыходам на пасаду галоўнага рэдактара А. Вярцінскага, калі ў «ЛіМе» з'явіліся смелыя публікацыі ў абарону мовы, беларускасці, артыкулы пра сталінскія рэпрэсіі. Добрыя традыцыі працягваюцца і зараз, на старонках «ЛіМа» ідзе гаворка пра вострыя праблемы, якімі жыве сёння рэспубліка.**

**Тым не менш, некаторыя ўдзельнікі гаворкі лічаць «ЛіМ» занадта палітызаваным. Выказваліся пажаданні шырэй адлюстроўваць мерапрыемствы, якія праходзяць у Доме літаратара, наогул шырэй асвятляць літаратурнае жыццё, больш друкаваць рэцэнзій, весці літаратурную палеміку, пазбаўляцца публікацый, у якіх паўтараюцца бясспрэчныя ісціны, друкаваць артыкулы, у якіх па-новаму, больш патрабавальна і аб'ектыўна разглядаецца творчасць пісьменнікаў, што сталі «мэтрамі» не па творчых заслугах. Гучалі крытычныя заўвагі наконт лімаўскіх аглядаў часопісаў, падборак «Кола Дзён». Адзначалася, што «ЛіМ» недастаткова асвятляе жыццё іншых творчых саюзаў.**

**Галоўны рэдактар «ЛіМа» М. Гіль расказаў аб праблемах, з якімі сутыкаецца сёння калектыў—урэшце, як і іншыя беларускамоўныя выданні, падзякаваў за заўвагі і пажаданні.**

**На пасяджэнні былі прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі Ф. Баторын, Н. Гублер, З. Марозаў, Ц. Панцюшанка, Л. Савік.**

**Пасля інфармацыі У. Паўлава аб лісце беластоцкіх літаратараў-беларусаў вырашана падтрымаць іх просьбу аб прыёме ў СП Беларусі.**

**На будучы IX з'езд пісьменнікаў колішняга Савецкага Саюза, які мае адбыцца летам, рада вырашыла паслаць усіх выбраных дэлегатаў.**

**С. Законнікаў, як старшыня спецыяльнай «ганарарнай» камісіі, паведаміў аб намаганнях, якія робяцца па павышэнні аўтарскіх ганарараў, вырашэння іншых праблем з выданнем газет і часопісаў.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# З чужога погляду

**Расійскі канал «Астанкіна» паказаў 13 сакавіка вельмі цікавую перадачу для школьнікаў «Образ» (у 16 гадзін). Там адна з тульскіх школ і адна з маскоўскіх спаборнічалі ў ведах аб часах Пятра І. Школьнікам патрэбны былі вельмі глыбокія веды аб тым часе, каб перамагчы. Але ні аб царыцы Тамары ў Грузіі, ні аб гетманах Вялікага княства Літоўскага гаворкі не было, а аб падзелах Польшчы толькі скорагаворка. Мала хто і з жыхароў Беларусі ведае, калі і якія землі Вялікага княства былі захоплены пры так званым першым разборы Польшчы, што папярэднічала другому раздзелу Польшчы і калі ён быў, якія землі былі захоплены і з кім у саюзе была Расія, каб нейтралізаваць супраціўленне польскіх уладаў (саюз усё з тымі ж прусакамі, дзеля абароны ад якіх і была створана Рэч Паспалітая—саюз Вялікага княства Літоўскага з Польшчай). Затое пра рэформы, захопы земель Пятром І гаварылася многа і з пахвалою. Я даведаўся, напрыклад, што пры выбарах Маскоўскага патрыярха Пётр тыцнуў пальцам сабе ў грудзі і сказаў: «...вось вам патрыярх» і аб'яднаў такім чынам дзяржаўную і царкоўную ўлады. Многа чаго я не ведаў, аб чым было вядома маскоўскім школьнікам. І я падумаў: а што было б, калі б па ведах з гісторыі Беларусі спаборнічалі вучні школ, напрыклад, Мінска і Магілёва? І ці былі б школьнікі такімі дасведчанымі? Я не змог дастаць кнігу «Старажытная Беларусь» аўтара з Маладзечна (М. Ермаловіча. — Рэд.). Яна проста ў нашу кнігарню не паступіла. А калі я паехаў у раён і спытаў, то мне адказалі: «Што вы, мы таргавалі імі мінут 15, нам далі ўсяго 10—15 экземпляраў». Вось гэтак мы распаўсюджваем веды аб сваёй гісторыі. А між тым я магу хоць зараз купіць 10 экз. выдадзенай у Мінску кнігі В. Максімава «Звезда адмирала Колчака» (літаратурна-выдавецкае агенцтва «Эрыдан»). Гэта цікавая аповесць пра чалавека, пра якога мы чулі толькі хлусню, але ж яна далёкая ад гісторыі нашай айчыны. Атрымліваецца, што на другое выданне «Старажытнай Беларусі» паперы няма, а на кнігу аб правінцыях Сібіры —ёсць.**

**Было паведамленне аб тым, што выдадзена «Гісторыя Беларусі» Ігнатоўскага. А ці ёсць у выдаўцоў упэўненасць, што тыражу хопіць для ўсіх жадаючых? Яго будуць купляць не толькі настаўнікі. Трэба было б улічваць гэта пры вызначэнні велічыні накладу.**

**А цяпер трохі аб гісторыі Беларусі на Беларускім тэлебачанні. Вось я прыклаў да пісьма выразку з праграмы БТ на студзень. Двойчы запар была перадача для школ на тэму «Беларусь у айчыннай вайне 1812 года». Пачакайце, для каго яна была айчыннай? Для нас, беларусаў? У артыкуле «Народнай газеты» за 12 сакавіка г.г. пад назвай «Забытая слава» добра сказана пра тое, чым скончылася для беларусаў гэтая вайна: паражэннем Рэчы Паспалітай і другім падзелам. Да Расіі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя—Пінск. Дарэчы, адным з баёў на рэчцы Буг кіраваў Тадэвуш Касцюшка, будучы кіраўнік паўстання супраць Расіі, які аб'явіў лозунг «Воля, цэласць, незалежнасць» у 1794 годзе.**

**Гэта лекцыя па тэлебачанні была лепшай, чым дзесяць гадоў назад, калі гаварылі, што беларускі народ змагаўся, як мог, з Напалеонам. Але і сёння ў перадачах для школьнікаў усё ж погляд расійскі, ён не адлюстроўвае праўды аб падзеях у нашай краіне.**

**Аляксандр БАХАНЧЫК.**
Гарадзея, Нясвіжскі раён.

ДУМКА ЧЫТАЧА

# Што замінае суверэнітэту Беларусі

Прыведзеныя ў артыкуле спасылкі на сродкі масавай інфармацыі крыху састарэлі, але, беручы пад увагу развіццё падзей у СНД, паліталагічна застаюцца актуальнымі. Так, сп. Кебіч нарэшце пачаў «грукатаць чаравікам» на нарадах прэм'ер-міністраў «былых братэрскіх рэспублік», сп. Шушкевіч ужо радзей прыгадвае пра «асаблівы характар адносін з Расейскай Федэрацыяй». Час вучыць. Толькі вось чаму можа навучыцца пасажыр, які спазніўся на свой цягнік? Ельцын, Бурбуліс, Гайдар і К° не збіраюцца чакаць на наступнай станцыі. Ды і «Нэнька-Украіна», паводле апошніх звестак з Кіева, ужо набывае квіткі на наступны экспрэс. Здаецца, сталі ў чаргу да касы Ерэван з Ташкентам — дастаюць з кішэні ўласную валюту. Ну а родны Мінск усё стаіць ды стаіць на прывакзальным пляцы пад лозунгам «Мы дружбою, братством, единством крепки» ды мяркуе — ехаць альбо усё ж такі здарыцца цуд — не спадабаецца Маскве, Кіеву, Ерэвану без Мінску, і вернуцца яны назад, пад мілы сэрцу лозунг. І як файна тады можна будзе «шукаць згоду»! У гэтым мы дакладна «впереди планеты всей». Усходнееўрапейскі Брусель як-ніяк...

На маю думку, згубіўшы лепшыя адзнакі сялянскай напорыстай хітрасці, узоры якой выдатна дэманструюць нашы паўночныя суседзі — прыбалты, мы, беларусы, патрапілі захаваць нейкі светлы наіў. Мы, у асобе першых кіраўнікоў, не прамінаем амаль ніводнае нагоды, каб не падкрэсліць надзвычайную аддзячнасць ды ўдзячнасць кіраўніцтву Расіі. У лютым сп. Кебіч даў інтэрв'ю расійскай праграме радыёстанцыі «Свабода». Проста сорамна было слухаць, як беларускі прэм'ер-міністр дзякаваў маскоўскаму ўраду за 6 мільярдаў рублёў, выдаткаваных на антычарнобыльскія мерапрыемствы ў нашай рэспубліцы. Напэўна, Вячаслаў Францавіч «забыўся» на тое, што «Россия не вернула нам валюту со счетов белорусских предприятий во Внешэкономбанке СССР». («Добры вечар» ад 20. 2. 92). Ну, а сп. Шушкевіч не прамінуў выказаць у інтэрв'ю газеце «Монд» наступную думку: «Неабходна пераканаць расійскае кіраўніцтва ў тым, што суверэнітэт Беларусі не супярэчыць інтарэсам Расіі». («Звязда» ад 25.2. 92). А ці не можна гэта разумець так, што інтарэсам Расіі не будзе супярэчыць суверэнітэт Беларусі толькі ў выпадку ператварэння апошняй у Северо-Западный край, ці, пажырыноўску, у пару губерняў?

Прыклады можна доўжыць. Ды і рэч у прынцыпе не ў іх — мы, простыя людзі, шмат чаго можам не ведаць, можа быць гэта «высокая палітыка». Горш за ўсё тое, што гэтая «далікатнасць» да «старшей сестры» пераходзіць і на ніжэйстаячых адказных асоб. І вось ужо па чыноўных кабінетах Мінска вандруюць «паслы» так званай «Приднестровской республики», інспіраванай і падтрымліваемай з Масквы пры маўклівай згодзе Кіева (каторы не супраць «на халяву» пашырыць тэрыторыю Украіны). Там справа дайшла да пасылання данскіх ды кубанскіх казакоў на дапамогу «тираспольским товарищам»...

І што самае сумнае — відаць, наша нацыянальная мараль пацярпела мацней, чым гэта здавалася раней, за імперскім часам. Нам замала проста адмовіцца ад звыклага, «роднага да болю» расійскага «хозяина», трэба шчэ навучыцца не шукаць новага, хай больш заможнага. Вядомы палітычны дзеяч Вялікабрытаніі мінулага стагоддзя вызначыў яшчэ адзін паліталагічны пастулат — «Няма сталых сяброў, але ёсць сталыя інтарэсы». Згодна свайму геапалітычнаму становішчу і нацыянальнаму менталітэту Беларусь (па-за жадання «господ и товарищей» з аднаго боку, і «панув», з другога) аб'ектыўна мусіць арыентавацца на краіны так званага «германскага паса»—Нарвегія, Швецыя, Данія, Галандыя, Нямеччына, Аўстрыя (уласна германскія паводле моўнае сям'і) ды Чэха-Славаччыну, Вугоршчыну, Славенію, Харватыю (народы якіх гісторыка - культурна блізкія да аўстрыякаў і немцаў). І вось, дастаткова было сп. Бейкеру неяк апошняй восенню назваць нашага міністра замежных спраў «сваім сябрам», і наш край да гэтага часу (!) не прызнае незалежнасці Харватыі, парламент якой у ліку першых вітаў абвяшчэнне незалежнасці Беларусі. Нават ужо Расія, спяшаючыся падвысіць свой імідж у вачах Бона пасля саратаўскіх выказаў Ельцына па пытанні нямецкай аўтаноміі на Волзе, забылася на сваю традыцыйную балканскую крэатуру — Сербію з яе практычна аналагічным маскоўскаму посткамунімперскім рэжымам ды артадаксальным праваслаўем — і прызнала Загрэб. І гэта пры выразнай праамерыканскай арыентацыі ў знешняй палітыцы (ЗША яўна не даспадобы ўзмацненне ролі ФРГ у Еўропе і таму Вашынгтон спрыяе імперскім высілкам Бялграда, «падобнае спрыяе падобнаму», вялікая імперская структура дапамагае малой...). Тут, на маю думку, трэба аддаць належнае апарату пана Козырава, хаця, зрэшты, пры колькасці ў тры тысячы спрактыкаваных супрацоўнікаў мець добрую прадуманасць дзеянняў знешнепалітычнага ведамства нескладана. А Міністэрства замежных спраў незалежнай Беларусі не мае і сотні чалавек для стварэння асновы асноў існавання суверэннай дзяржавы — агульнай знешнепалітычнай канцэпцыі, на падставе якой і будзе грунтавацца стратэгія (свайго роду касцяк) ды тактыка (крывятворная ды дыхальная сістэма) міжнародных зносін рэспублікі. Нездарма кажуць, што добры дыпламат варты некалькіх вайсковых дывізій. Але каб гэтая канцэпцыя была створана, трэба дапамагчы новаму і, на маю думку, перспектыўнаму кіраўніцтву МЗС Беларусі як матэрыяльна — пашырэнне штатных адзінак ды забеспячэнне неабходнай аргтэхнікай, гэтак і праз міжнароднае супрацоўніцтва — накіраванне супрацоўнікаў міністэрства ды перспектыўнай моладзі на заходнія паліталагічныя курсы, балазе пачатак гэтаму дзякуючы ініцыятыве А. Мальдзіса, Дж. Дынглі і пайшоўшай ім насустрач адміністрацыі Лонданскага універсітэта ўжо ёсць. А то і надалей Мінск будзе выпадаць з «абоймы» Масквы, Кіева і Алма-Аты падчас наведвання СНД уплывовымі асобамі развітых краін — прыгадаем візіты міністра замежных спраў Вялікабрытаніі ды міністра эканомікі Нямеччыны...

Падкрэслю яшчэ раз — без рэалізацыі прадуманай палітычнай праграмы дзеянняў на міжнароднай арэне ў бліжэйшыя дзесяць гадоў наўрад ці магчыма існаванне сапраўды суверэннай Беларусі. Само існаванне такой праграмы, безумоўна, у спалучэнні з яе паступовай, але няўхільнай рэалізацыяй, пакажа беларускаму народу магчымасць інтэгравання нашага краю ў Еўропу. Гэта, ў сваю чаргу, рэзка звузіць сацыяльную базу для гэткіх прамаскоўскіх, бальшавіцкіх ды адкрыта імпершавіністычных фармаванняў на Беларусі (свайго роду «пятая калона»), як — «Движение за демократические реформы — Демократическая Беларусь», «Движение за демократию и социальный прогресс», «Русь», «Белая Россия», «Славянский собор» і да т. п., знізіць колькасць падпісчыкаў у выданняў кшталту «7 дней», «Мы и время», «Славянские ведомости». Можа быць, і нашы кіраўнікі пераканаюцца на ўласным досведзе, што ніякім «віляннем хваста» Расію не задобрыць на льготныя кошты за сыравіну, бо калі ў Масквы і з'явяцца нейкія лішкі, то яна іх «прэзентуе» Шэварднадзе для ўмацавання сваіх пазіцый на Каўказе. А Беларусь што, яна і так «почти наша, русская». Ну, а пакуль, на вялікі жаль, занадта шмат яшчэ тых на Беларусі, хто вельмі ўпадабаў співаць на розныя матывы (ад «Гэй, славяне» да «Інтэрнацыяналу»). Зрэшты, можа быць і добра, калі ёсць каму казаць «спасибо»? Ды і мясцовым уладам зручна — заўсёды можна зваліць віну за няўдалую хаду рэформ на «московских господ». Але ці не занадта мы звыклыя да гэтага? Як той казаў, «за державу обидно»...

**Вадзім АЛЕКСАНДРОВІЧ.**
г. Мінск.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# Беларуская нацыя—гістарычны блеф?

Пра тое, што некаторую частку жыхароў майго роднага Віцебска адольвае непрыяцельскі сверб ад беларусізацыі, я ведаю даўно і не толькі з перыёдыкі, і адношуся да такіх блазенскіх праяў даволі скептычна, як да неразумнай валтузні дамарослых нігілістаў, якім бракуе пэўнай адукаванасці і выхавання. Вельмі ж мала часу прайшло, каб начыста выветрылася гэтае гнюснае рабскае мысленне аб нацыянальнай непаўнацэннасці беларусаў, якое ўпарта, ужо пару стагоддзяў, убівалася насільна ў галовы маіх пакладзістых землякоў.

Заканамерныя рэаліі сённяшняга беларускага нацыянальнага Адраджэння прыйшліся многім не па густу. У тым ліку і знамянальны акт 19 верасня 1991 г., калі Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў тры жыццёва важныя гістарычныя пастановы: аб новай назве суверэннай дзяржавы — «Рэспубліка Беларусь», аб дзяржаўным сцягу — бел-чырвона-белым і дзяржаўным гербе «Пагоня». Мне тады падумалася, што пад дабратворным уздзеяннем прынятых прагрэсіўных законаў былыя непрыяцелі беларушчыны перайначацца, зразумеюць, што займаліся датуль несумленнымі дзеяннямі.

На жаль, я памыліўся. І сёння ў Віцебску можна не толькі пачуць, але і прачытаць на старонках некаторых гарадскіх газет недарэчнае плявузганне на гэту тэму найбольш актыўных зласліўцаў. У друку амаль аднaчасова (12 і 13 сакавіка) з'явіліся публікацыі фальсіфікатарскай сутнасці: у «Витебском курьере» — «Кто мы и откуда?» і ў «Віцьбічах» — «О «несвядомых у спадчыне манкуртах» и не только» Ю. Пазнякова. Нельга было мне, грамадзяніну Рэспублікі Беларусь (у каторы ўжо раз!), моўчкі праглынуць чарговую гнюсную абразу ў бок майго працавітага і міралюбівага народа. Уражвае здзіўляючая неперабарлівасць рэдакцый газет, што ахвяравалі немалую газетную плошчу пасквілянцкім пасрэднасцям.

Скампраметаваць беларускае нацыянальнае Адраджэнне, якое хаця і марудна яшчэ, але ўсё ж упэўнена і трывала мкне наперад, задача, магчыма, з галоўнейшых у сённяшніх непрыяцеляў беларусізацыі.

Перачытваючы тэкст ананімкі «Кто мы и откуда?», міжволі звяртаеш увагу на вострую катэгарычнасць сцвярджэнняў: «Внутренняя национальная политика нашей республики **не отвечает** ни потребностям времени, ни запросам большинства населения. За основу этой политики совершенно **неоправданно** взята идея национального государства»... якая «...**просто абсурдна**, ибо в основу ее заложена **несуществующая нация,** существует всего-навсего немногочисленная прослойка населения, коей в силу определенных причин... нужен т. н. белорусский язык. Основной же массе населения, говорящей по-русски, эта национальная политика чужда. При настойчивом насаждении ее может быть и **враждебной».**

Здаецца, гэткую «праўду» аб сабе мы чытаем упершыню.

Ёсць «соль» і ў другім аднатыпным тварэнні. Напрыклад, такое: «...Но великий отец народов в интересах высшей политики решил из шести уездов Минской губернии создать большую республику. Для большей верности в 1924 году он включил в ее состав Витебскую, Могилевскую, Гомельскую и Смоленскую области, а всех не помнящих родства жителей поголовно записал белорусами».

Хоць інсінуацыйная зададзенасць разглядаемых публікацый і не вымушае апанента рабіць нейкія доказныя акцыі, я ўсё ж скірую ўвагу іх аўтараў і шаноўных чытачоў да шырокадаступнага дарэвалюцыйнага выдання «Россия. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. 1905 г.», напісанага ў агульнапрынятым тады расійска-імперскім накірунку. Асобныя вытрымкі з гэтай змястоўнай кнігі, магчыма, зацікавяць тых маіх землякоў, што яшчэ не зусім разабраліся ў беларускім пытанні, у якім яшчэ больш могуць заблытаць іх наваяўленыя «гісторыкі».

«Что касается этнографического состава населения области, то в крае преобладает белорусский элемент, составляющий 66,3% всего населения области или 4769032 чел., затем следуют великорусы, малорусы, евреи, поляки, латыши. Больше всего белоруссов в Могилевской губ. — 84%, меньше в Смоленской губ. — 46,7%...» «Общий колорит белорусской речи, фигура и одежда белоруса резко выделяют его от великоруса и малоруса». «...Белорусская речь слышится далеко за пределами рассматриваемых белорусских губерний (Могилевской, Минской, Витебской, Смоленской), в большей части Виленской губ., в северной части Черниговской, в Гродненской (половина), в Сувалкской (Августовский уезд), на западных окраинах Тверской, Калужской и Орловской, в отдельных поселениях Курляндской и Ковенской...» «...Итак Белоруссия была присоединена к России ослабленною во всех отношениях. Огромное большинство населения состояло из крестьян и мещан, говоривших по-белорусски, принадлежавших к православной или грекоуниатской церкви».

А вось кароткая вытрымка савецкага афіцыйнага пункту гледжання, узятая з БелСЭ: «Беларусы мелі значны ўплыў на развіццё феадальных адносін Вялікага княства Літоўскага і культуру яго народаў. Беларуская мова юрыдычна стала мовай справаводства і судаводства, на ёй пісаліся дзяржаўныя дакументы, статуты, граматы, летапісы і хронікі, мастацкія, царкоўныя, перакладныя і іншыя творы. У 16 ст. з'явілася беларускае кнігадрукаванне...»

Можа, хопіць прыкладаў? Як можна бачыць з вышэйпрыведзеных матэрыялаў, нават чыста афіцыёзныя выданні з нялепшых для Беларусі часоў мусілі лічыцца з беларусамі, як самастойнай грамадскай фармацыяй.

Даўно чакаў народ наш, вялікі жыццялюб і пакутнік, светлага дня свайго нацыянальнага Адраджэння, доўгія часіны гібеў ён то пад ярмом заходняга, то ўсходняга—больш магутных і нахабных суседзяў, страчваў лепшыя свае якасці і сілы ў сталінісцка-застойныя часы. І вось, дачакаўшыся жаданага моманту, з вялікай цяжкасцю ўзаконіўшы сваю дзяржаўнасць, родную мову, сімволіку, зноў апынуўся перад няпростай дылемай, на гэты раз эканамічнай, апошняй, мабыць, ад таго і жудаснай, адрыжкай агульнага падімперскага існавання. Ды на шляху да лепшага жыцця, акрамя эканамічнай праблемы, узнікаюць, бы грыбы-паганкі пасля дажджу, дзе-нідзе і дадатковыя — ужо маральнай скіраванасці, як у выпадку са згаданымі публікацыямі.

Дарэчы, нешта я нідзе пакуль не чытаў і не чуў нават, каб беларусы, жывучы ў чужых краях, напрыклад, у Расіі, дзе іх звыш мільёна чалавек, асмеліліся рабіць карэнным жыхарам патрабавальныя заўвагі, накшталт, якою будаваць ім дзяржаву, якую мову прызначыць дзяржаўнаю і г. д. Беларусы на чужыне паважна адносяцца да суседскага ладу жыцця, звычаяў, мовы і, пэўна, заслужылі такога ж стаўлення ў сябе дома з боку прадстаўнікоў іншых нацый. Прынамсі, нічога благога не здарыцца, пэўна, калі кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як звязную паміж насельнікамі ўсіх нацый, вывучыць беларускую мову.

Думаць так ці інакш чалавеку ніхто не забароніць. А вось публікацыі тыпу «Кто мы и откуда?» з відавочнай мэтай зняславіць беларускую нацыю абразлівай фальсіфікацыяй гістарычнага мінулага, самога паходжання беларусаў ёсць ні што іншае, як спланаваны варожы акт. Гэта ўжо вымагае ад аўтара і ад рэдакцыі пэўных тлумачэнняў і адпаведнай адказнасці за благі ўчынак.

**Мікола ПЛАВІНСКІ,**
**краязнаўца.**
г. Віцебск.

# ПАДАРОЖЖА Ў КУЛЬТУРУ,

## або Сумныя думкі, абуджаныя адным канфліктам

МАБЫЦЬ, кожны, хто ў канцы сямідзесятых — пачатку васьмідзесятых гадоў меў дачыненне да «культурнага будаўніцтва» на Беларусі, чуў пра Галіну Іонаўну Клёсаву, якая шмат гадоў узначальвала Віцебскае абласное ўпраўленне культуры і вядома была, як нястомны аўтар вялікай колькасці ўсемагчымых пачынаў і ініцыятыў у сваёй галіне. Клёсава, якая, як мала хто, умела паказаць «товар лицом», карысталася вялікім аўтарытэтам у тагачаснага міністра культуры Юрыя Міхайлавіча Міхневіча, і, мабыць, нідзе не праводзілася па лініі міністэрства столькі розных рэспубліканскіх нарад па абмене вопытам, семінараў і іншых гэткага ж гатунку мерапрыемстваў, як у Віцебску.

Праходзілі яны, звычайна, па адным, здаўна заведзеным сцэнарыі: спачатку ўдзельнікі, скажам, той жа нарады, з падкрэсленай увагай выслухоўвалі даклад начальніка ўпраўлення, потым «шумною толпою» ў аўтобусах ехалі ў якую-небудзь культурную ўстанову, каб на месцы пабачыць, як той перадавы вопыт выглядае на практыцы. Заканчвалася нарада звычайна шумным застоллем (прадуктаў і віна тады хапала), пасля якога дужа задаволеныя ўдзельнікі раз'язджаліся па дамах, каб па прыездзе забыць пра ўсё бачанае і пачутае (у нас не гарай!)

На адной з такіх нарад аднойчы давялося пабыць і мне (заўважу, між іншым, што Галіна Іонаўна заўсёды прывячала прэсу, не змяніла свайму правілу і на гэты раз, асабіста запрасіўшы мяне паехаць з імі ў адзін з сельскіх клубаў на «агеньчык», дадаўшы са значэннем: «Гэта будзе цікава, не пашкадуеце!).

Не помню ўжо, як называўся калгас, куды мы паехалі, але, мяркуючы па новым гмаху Дома культуры, быў ён у раёне, відаць, з самых заможных. У прасторнай, па-святочнаму прыбранай зале стаялі столікі з бутэлькамі ліманаду і спадачкамі з пячэннем і цукеркамі (потым даведаюся— усе за кошт калгасаў). Нарэшце пачалася ўрачыстасць. На сцэну, пад музыку духавога аркестра, пачалі выходзіць вясковыя дзядзькі і цёткі з цёмнымі ад несыходзячага загару тварамі і няўклюдна, саромеючыся ад нязвыклай абстаноўкі, рассаджвацца на крэслах.

Далей было — як на «Огоньку» на Цэнтральным тэлебачанні. Вядучая, капіруючы маскоўскую тэлезорку, нейкай віхлястай паходачкай набліжалася да чарговага героя ўрачыстасці і, адрэкамендаваўшы яго, задавала адно і тое ж дзяжурнае пытанне аб поспехах у жыцці і працы. У адказ чулася: «Надаіла... Адкарміла... Вырасціла...» У кожнага «імяніннікa» вядучая пыталася, якую песню ён хацеў бы паслухаць, і яна тут жа выконвалася самадзейным хорам, які стаяў ля сцэны. Фокус быў у тым, што ўсе названыя песні акурат супадалі з рэпертуарам самадзейнага калектыву, што наводзіла на думку аб ранейшай дамоўленасці.

Усё гэта слухаў я на паўвуха, бо позірк мой быў прыкаваны да сям'і (а тут сабраны былі хлебаробскія сем'і), што сядзела на ўскрайку сцэны—двое старых, пэўна, маці і бацька, дзве сярэдніх гадоў жанчыны і хлопец гадоў дваццаці, страшэнна схуднелы, як кажуць, скура ды косьці, са змярцвела-жоўтым тварам. Вядучая, між тым, падышла да іх і бадзёрым тонам пачала распавядаць нешта накшталт таго, што гэтыя старыя выгадавалі выдатных дзяцей: адна з дачок — перадавая цялятніца, другая руплівa працуе ў бухгалтэрыі, а сын Сяргей пасля школы вывучыўся на шафёра і таксама быў з лепшых, праўда, апошнім часам ён крыху занядужаў, але цяпер адчувае сябе добра і хутка зноў сядзе за баранку машыны. «Правда, Сережа?» — вядучая падсунула да яго мікрафон. «Праўда»,—ледзь чутна адказаў ён.

— Што з ім? — спытаў я ў загадчыцы Дома культуры, якая разам з Клёсавай сядзела за маім столікам.

— Рак пячонкі, — нахіліўшыся да мяне, сказала яна. — Пачалі было ў бальніцы рабіць аперацыю, ды аказалася — позна, яго і выпісалі дамоў... Сястра яго мне казала, што папярэдзілі ўрачы, — жыць хлопцу засталося некалькі дзён...

Нешта скаланула мяне ў грудзях, чамусьці спытаў:

— А вядучая пра гэта ведае?

— Усе ведаюць, — адказала загадчыца,—вёска ж...

— Навошта ж было яго прыводзіць сюды? І як бацькам на ўсё гэта глядзець? — не мог супакоіцца я.

— А хай пад канец хлопец і парадуецца, — сказала мая субяседніца, гледзячы на мяне чыстымі нявіннымі вачамі.

Не папытаўся, але чамусьці быў упэўнены, што адмаўлялася гэтая сям'я ўдзельнічаць у «агеньчыку», а пагадзілася, паддалася на ўгаворы, а мо і пагрозы: у калгасе была жорсткая дысцыпліна, што ў полі, што ў Доме культуры — за ўсім сачыў асабіста старшыня...

Думаю, усім даўно стала зразумела, што камуністычны эксперымент па стварэнні новай чалавечай супольнасці — савецкага народа скончыўся крахам. Але ў чым «преуспел» савецкі лад, дык гэта ў стварэнні асаблівага тыпу чыноўніцтва — з незвычайнай вынаходлівасцю, уменнем заўсёды трымаць нос па ветры, абсалютнай непатапляльнасцю.

Роднае, любімае дзіцё нашага чыноўніцтва — паказуха, за якой часта хаваецца элементарны падман. Не абмінула паказуха і культуру, дзе яна набыла, я б сказаў, асабліва вытанчаныя формы— многае тут разлічана толькі на вонкавае ўражанне.

Успомнім, колькі казённага захаплення выклікала будаўніцтва ў заможных калгасах палацаў культуры, у якія ўбухвалі мільёны рублёў і якія потым, фактычна, пуставалі. Такія палацы перш за ўсё выкарыстоўваліся як дэманстрацыя пераваг сацыялістычнага ладу жыцця перад замежнымі дэлегацыямі, якіх нямала наязджала ў рэспубліку.

Помню адно такое наведванне славутага на Магілёўшчыне калгаса дэлегацыяй французскіх камуністаў. Мне акурат надарылася ў гэты дзень быць па справах у сто разоў апісаным нашай прэсай велічным Палацы культуры, якім гаспадарка славілася на ўсю рэспубліку, і я бачыў, з якім непадробным захапленнем госці аглядалі інтэр'еры шматлікіх залаў, холаў і пакояў палаца, аздобленых адмысловай чаканкай, чыгунным ліццём, мастацкімі пано і карцінамі на сценах (над калгасам трымаў шэфства Саюз мастакоў рэспублікі). А калі французаў завялі ў зімовы сад, у іх адбылося, гаворачы сучасным маладзёжным сленгам, «полное выпадение в осадок» — толькі і чулася: «Шарман, шарман!».

Ім, вядома, не прыходзіла ў галаву, што больш у раёне не толькі няма нічога і падобнага на гэты палац, што нават і звычайны, больш-менш прыстойны клуб адшукаць цяжка.

Асаблівы гонар нашых саноўных культуртрэгераў — мастацкая самадзейнасць. Што і казаць, я і сам неаднойчы адбіваў далоні на розных аглядах і фестывалях, слухаючы выдатных, надзіва таленавітых спевакоў і музык, наглядаючы за танцорамі, майстэрства якіх было амаль прафесійным.

Прафесійным... Зараз, успамінаючы тыя фестывалі, я, прызнацца, не ўпэўнены, што там выступалі толькі аматары. Гэта ж стала сакрэтам палішынеля, што ў час адказных аглядаў, а найперш замежных паездак самадзейныя калектывы «падмацоўвалі» прафесіяналамі — музыкантамі, спевакамі, драматычнымі акцёрамі. З таго часу, прызнаюся, я з пэўным скепсісам адношуся да захапляльных водгукаў, пад акампанемент якіх выступаюць нашы аматарскія калектывы ў парыжах-лонданах. Мо зноў паказуха?..

Тут я падыходжу да справы, якая, уласна кажучы, падштурхнула мяне да напісання гэтых нататак.

«Упраўленню культуры Мінскага аблвыканкома, Прэзідыуму Чэрвеньскага раённага Савета народных дэпутатаў, Чэрвеньскай райгазеце «Раённы веснік», рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

Зварот работнікаў культуры Чэрвеньскага раёна і г. Чэрвеня.

Мы абураны келейнасцю ў вырашэнні пытання аб назначэнні загадчыка аддзела культуры сесіяй Чэрвеньскага райсавета народных дэпутатаў, якая адбылася 12 лютага г. г. Работнікаў культуры паставілі перад адбыўшымся фактам. Кандыдатура загадчыка абмяркоўвалася на безальтэрнатыўнай аснове, хоць работнікі культуры раёна рэкамендавалі сесіі ўлічыць іх думку і абмеркаваць кандыдатуру Кучынскай Галіны Іванаўны. Думка работнікаў культуры была праігнаравана, на абмеркаванне сесіі была пастаўлена кандыдатура Габернік Л. П., якая і была зацверджана сесіяй на пасадзе загадчыка аддзела культуры.

14 лютага г. г. агульны сход работнікаў культуры, на якім прысутнічала 55 чалавек, аднадушна выказаў недавер сесіі ў рашэнні гэтага пытання. Мы патрабуем улічыць думку работнікаў культуры і жаданне Кучынскай працаваць на пасадзе загадчыка. На чарговай сесіі вярнуцца да абмеркавання гэтага пытання.

За апошнія гады культура ў раёне знаходзіцца на апошнім месцы ў вобласці. Кіраўнікі аддзела культуры мяняюцца амаль кожны год. Мы лічым, што прычыны рэзкага спаду культуры крыецца ў некваліфікаваным кіраўніцтве культурай з боку райвыканкома. Просім паведаміць аб часе і месцы пасяджэння Прэзідыума Чэрвеньскага раённага Савета для дэлегавання прадстаўнікоў сходу работнікаў культуры пад старшынствам заслужанага работніка культуры рэспублікі Шутава.

Н. Бурдзіна дырэктар Любішынскага СДК, Н. Таболіна, дырэктар Азярноўскага СДК, М. Арцімовіч, загадчыца Руднянскай бібліятэкі, А. Троіцкая, дырэктар РДК, Л. Квяткоўская, загадчыца Стараплудскага СК і іншыя—усяго 50 подпісаў».

Што робіць журналіст, атрымаўшы такі ліст? Ён выпісвае камандзіроўку і едзе на месца, каб высветліць ісціну (калі ўдасца).

Трэба сказаць, што змест гэтага «Звароту» падаўся мне досыць цьмяным, за знешнім слоўным напалам цяжка было ўцямніць, што тут адбылося на самай справе. Хто такая Г. Кучынская, якую дэпутаты райсавета не пажадалі зацвердзіць на пасадзе загадчыка аддзела культуры, чаму аддалі перавагу Габернік? Незразумелыя былі і іншыя дэталі канфлікту.



Фота А. КЛЕШЧУКА.

У Чэрвеньскі раённы аддзел культуры я патрапіў акурат у час, калі там ішло пасяджэнне Савета аддзела з удзелам некаторых з тых, хто падпісаў «Зварот». Акалічнасць гэтая, з аднаго боку, маю задачу спрашчала — можна было пагутарыць адразу з некалькімі падпісантамі, з другога, я разумеў, што прыйдзецца размаўляць адразу з двума «варожымі» бакамі, а гэта,маючы на ўвазе жаночы калектыў, не абяцала нічога добрага. Але, дзякуй Богу, абышлося. Новы загадчык аддзела культуры Ларыса Паўлаўна Габернік, убачыўшы, як акружылі карэспандэнта яе падначаленыя, па-змоўніцку запрашаючы яго ў суседні пакой, тактоўна адышла ўбок.

Галіна Іванаўна Кучынская, сярэдніх гадоў паўнаватая жанчына, якая цяпер займае пасаду дырэктара аргметадцэнтра пры аддзеле культуры, як мне падалося, з тых апантаных аматараў мастацкай самадзейнасці, на якіх гэта справа трымаецца. Акрамя ўсяго іншага, яна сама няблага спявае, іграе на музычным інструменце. Галіна Іванаўна ахвотна пачала пералічваць, колькі самадзейных калектываў яна падрыхтавала, у якіх аглядах і фестывалях яе падапечныя прымалі ўдзел, якія ўзнагароды атрымалі. Да прызначэння Габернік яна амаль год выконвала абавязкі загадчыка аддзела культуры.

— І справы ішлі добра! — устаўляе Настасія Бурдзіна, дырэктар Любішынскага СДК, якая прысутнічае пры нашай размове (дарэчы, яе подпіс стаіць у «Звароце» першым). — Але што да гэтага раённаму начальству?

Тут упершыню ўсплывае прозвішча Надзеі Іванаўны Краўцовай, намесніка старшыні райвыканкома, якая курыруе культуру, народную асвету і спорт. Гэта яна, па словах маіх субяседніц, заварыла ўсю кашу, спачатку паабяцаўшы пасаду загадчыка аддзела Кучынскай, а потым чамусьці спыніла выбар на сваёй нібыта сяброўцы Габернік, якая працавала ў пасёлку Смілавічы дырэктарам школы і ніякага дачынення да «культуры» ніколі не мела.

У мяне неўзабаве будзе доўгая размова з Краўцовай. Яна катэгарычна адмаўляла, што абяцала Кучынскай пасаду загадчыцы аддзела. Так, яна ўмее арганізаваць мастацкую самадзейнасць, але для загадчыцы раённага аддзела культуры гэтага мала, тут, акрамя ўсяго іншага, трэба быць добрым гаспадарнікам, ведаць фінансавую справу, умець трымаць дысцыпліну ў калектыве — усяго гэтага Галіне Іванаўне бракуе.

— А Габернік? — цікаўлюся я.

— Габернік зусім іншы чалавек. Ведалі б вы, які парадак быў у яе школе! Школа была адна з лепшых у раёне. І наогул, Ларыса Паўлаўна ўмее мысліць па-дзяржаўнаму, яна, дарэчы, дэпутат райсавета, узначальвае пастаянную камісію райсавета па народнай асвеце і культуры...

У сваім утульным кабінеце маладжавая, прыгожа апранутая Надзея Іванаўна паводзіць сябе вельмі карэктна, хоць тады-сяды ў голасе яе прарываюцца ўладарныя ноткі, але, спахапіўшыся, яна зноў адорвае мяне лагоднай усмешкай. На развітанне Надзея Іванаўна папытае ў мяне, пра што я, пабыўшы ў Чэрвені, буду пісаць? «Пра тое, што бачыў»,—неакрэслена скажу я.

Тут, у Чэрвені, я чуў пра Краўцову рознае. Што вельмі энергічная, ініцыятыўная,—гэта і з вуснаў «пакрыўджаных» ёю культработнікаў. Але чуў і іншае: звычкі, стыль работы ў Краўцовай захаваліся з тае пары, калі яна працавала сакратаром райкома КПБ па ідэалогіі. А было гэта не так і даўно — летась.

(Працяг на стар. 12).




Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ. Невымоўнае. Вершы. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1991.

**Лепшыя творы Галіны Каржанеўскай з папярэдніх кніг, а таксама газетныя і часопісныя публікацыі апошняга часу склалі гэтую кнігу выбранага. Вершы аб'яднаны ў раздзелы «На мове шчасця размаўляла», «Усе мы новыя штодзень», «І зразумела: мы жывем!» і іншыя. З іх бачна, як развіваўся і сталеў талент Г. Каржанеўскай, а паэзія яе — лірычная, прачулая — набывала публіцыстычныя адценні, асабліва ў творах, гераіня якіх паўстае чалавекам, які блізка да сэрца прымае адраджэнскія працэсы ў грамадстве.**




А. МАРЦІНОВІЧ. Ля Каменкі бруістай. Мінск, «Полымя», 1992.

**Кніга краязнаўчых нарысаў, артыкулаў Алеся Марціновіча папоўніла серыю «Па родным краі», якую выдавецтва «Полымя» выпускае з 1985 года. Аўтар расказвае пра ўчарашні і сённяшні дзень Капыльшчыны, знаёміць з асноўнымі падзеямі, што адбываліся тут у розныя часы. У раздзеле «Зямля талентаў», у прыватнасці, гаворыцца пра знакамітых людзей, якія нарадзіліся на капыльшчыне: класіка яўрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер-Сфорыма, польска-беларускую пісьменніцу Зоф'ю Тшашчкоўскую, крытыка Льва Кленбарта, які першым падтрымаў С. Ясеніна, Цішку Гартнага, Кузьму Чорнага і Алеся Адамовіча, Адама Бабарэку і Сцяпана Александравіча...**




В. ГАРДЗЕЙ. Зай, які лічыў варон. Вершы, небыліцы, пацешкі. Для дашкольнага ўзросту. Мінск, «Юнацтва», 1991.

**Чарговая кніжка Віктара Гардзея, як і яго папярэднія зборнікі, напісаныя для дзяцей, прываблівае шчодрасцю аўтарскай фантазіі, добрым веданнем псіхалогіі «чамучак» і дасціпным гумарам. Героі яго вершаў, небыліц, пацешак у меру гарэзлівыя, часам непаслухмяныя. А калі ўлічыць. што ўся кніжка «Зай, які лічыў варон», аб'яднана адзінствам аўтарскай задумы — захапляльна расказаць пра жывёльны і раслінны свет, жыццё самой прыроды, дык няцяжка здагадацца, колькі адкрыццяў чакае маленькіх.**

**Пра норавы літаратурнага асяроддзя мы пішам куды меней, чым пра ўласна літаратуру (што ўвогуле заканамерна). А між тым паразважаць ёсць пра што і адносна гэтай сферы. Ну, хаця б пра групаўшчыну і злоўжыванне пасадамі (напрыклад, у выдавецтвах), пра штучна раздзьмутую папулярнасць некаторых творцаў і няздатнасць — зноў жа некаторых — інтарэсы беларушчыны паставіць вышэй уласных антыпатый, і пра многае іншае.**

**Нататкі наваполацкага паэта і журналіста Навума Гальпяровіча якраз пра нашы ўнутраныя стасункі. Напэўна, збоку відаць лепш...**

# Так і жывём...

## Спроба нарыса літаратурных нораваў

— Хто ўжо цяпер памятае Стральцова? — спытаў мяне неяк знаёмы літаратар. — А Янішчыц? — І шматзначна дадаў: — Каб быць у гісторыі, трэба працаваць на імідж. Ёсць імідж — ёсць асоба. Няма іміджу — ты ніхто, каліф на гадзіну.

Не сказаць, каб пачутае было для мяне надта нечаканым. Нават больш: шмат з таго, пра што гаварыў суразмоўца, — на жаль, праўда. Але, смею думаць, не ўся, бо інакш усё, што мы робім на зямлі, траціць сэнс.

Каманды, гурты, імідж — гэтыя словы сёння ў літаратурным жыцці актуальныя. Зрэшты, яны існавалі заўсёды, проста называлася гэта інакш. І вось ужо прадстаўнікі адной каманды не хочуць і слухаць пра «чужога», не кажучы пра ўдзельніка альтэрнатыўнай групы.

— Я калі ўбачу прозвішча N, — сказаў мне адзін суразмоўца, — нават не гляну ў той бок. — Ну што можа напісаць людскага N, калі ён сябруе з NN?

Прызнаюся шчыра, ёсць і ў мяне любімыя аўтары. Ёсць і такія, знаёмства з творамі якіх лічу марнай тратай часу. Ды нешта страшнавата становіцца, калі і мяне чытаць не будуць, бо для некага ты — «не з той каманды».

Я зусім не супраць «каманднай барацьбы», але з доказамі, аргументамі, з уважлівым высвятленнем пазіцыі. Думаю, што бяда тут значна прасцейшая, бо, як гэта ні парадаксальна, чытаць адзін аднаго, а тым больш выслухаць у спрэчцы мы проста не жадаем. І тут мне прыгадваецца даўняе выказванне Анатоля Сідарэвіча, што творы маладых чытае хіба адзін Іван Антонавіч Брыль. Дарэчы, неўпапад падумалася: ці ёсць цяпер самому Сідарэвічу за яго партыйнымі клопатамі час сачыць за навінкамі літаратуры?

Але ўсё было б урэшце драбязой і пустым сатрасеннем паветра, калі б не адбываліся гэтыя працэсы на фоне нашай роднай, такой шматпакутнай літаратуры — літаратуры, якая насуперак сваім здабыткам і талентам, якія працуюць у ёй, пастаянна губляе чытача, страчвае сваю папулярнасць сярод людзей. Адзін мой калега-журналіст не без злараднай іроніі любіць паўтараць: «Вы толькі адзін аднаго і ведаеце, хваліце, і думаеце, што такія папулярныя і славутыя. А хто вас ведае на самай справе?». У горкай яго праўдзе я пераканаўся аднойчы сам, калі ў гарадской даведцы паспрабаваў удакладніць нумар тэлефона аднаго з нашых «жывых класікаў». Доўга дыктаваў па тэлефоне прозвішча па літарах, а на завяршэнне дадаў, што гэта вядомы пісьменнік. Народны пісьменнік Беларусі. А ў адказ пачуў: «Таких писателей не слыхала».

І вось на гэтым бядотным фоне нашай здзічэласці і несвядомасці мы пачынаем гуляць у геніяў і бездараў, у «светлейших» і «чернь». Гэта калі трэба аб'яднацца, адчуць падтрымку і сяброўскую ўвагу равесніка, старэйшага пісьменніка, проста калегі па пяру. Канешне, падтрымку, а не крытыку, хаця без яе, відаць, нельга. Дык калі крытыку, то як у песні: «если смерти, то мгновенной, если раны — небольшой».

Ды ўсё ж таму, хто жыве не ў сталіцы, крыху лягчэй. Бо ўдалечыні ад штодзённых зносін «на Алімпе» менш ведаеш плётак, менш чуеш брыдкасці і больш, відаць, чытаеш сяброў. І калі побач усяго двое-трое аднадумцаў, таварышаў па цэху, то не п'едэсталы з імі дзеліш, а свае думкі, сумненні, творчыя пакуты.

Але вось мы прыязджаем на пісьменніцкі сход, у рэдакцыю часопіса, у выдавецтва. Хочацца пагутарыць, абмяняцца, як той казаў, думкамі, паспрачацца, ды што гэта?.. Нашым стомленым «алімпійцам» заўсёды няма калі, ды і як высвятляецца, яны не толькі нічога твайго не чыталі, ды і сваіх хаўруснікаў таксама. А твае спробы пагутарыць аб нейкіх навінках выглядаюць у лепшым выпадку як войканне правінцыйнай цётухны, што прыехала ў сям'ю бліскучага сталічнага льва.

Але вернемся да літаратуры, або, як казаў заўсёды адзін наш мэтр, — «яго вялікасці літаратуры», паніжаючы пры гэтым голас і падымаючы палец уверх. Думаецца ўсё ж, хоць рынак — рэч, безумоўна, магутная, злучыць цалкам яго законы і законы творчасці — спроба не вельмі ўдалая. Так, імёны Стральцова ці Янішчыц могуць выпасці з размоў, артыкулаў і выступленняў, нават памяці братоў па цэху, але з літаратуры іх можа выкрасліць толькі гісторыя. Як і некаторых іншых, імёны якіх не палошчуцца на штандарах літаратурных палкоў і дывізій.

Канешне, прыемна адчуваць, што ўсё пачынаецца з цябе і тваіх сяброў, што да гэтага нічога не было і без вас нічога не будзе. Але ці праўда гэта — ведаць не нам. Памятаю, як любіў адзін славуты літаратар прысвячаць свае творы чарговаму ўлюбёнцу з пачаткоўцаў, далучаючы яго гэтым актам адразу ў хаўрус выбраных, ставячы на ім таўро будучага класіка. А тыя, як назло, пахадзіўшы ў маладых геніях, назаўсёды знікалі ў хвалях шэрага і мутнага літпатоку.

Падобнае я бачу сёння ў артыкулах і выступленнях аднаго таленавітага крытыка, які акрамя двух-трох імёнаў сваіх блізкіх сяброў, «ва ўпор» нікога ў роднай літаратуры бачыць не хоча.

А як жа быць тады з аўтаноміяй таленту? Ну, не падзяляю я, скажам, поглядаў Распуціна ці Бондарава, ці каго з іншых. Дык што: рабіць выгляд, што іх не існуе, што яны творы не пішуць? Пішуць — і досыць таленавітыя, дарэчы, творы.

Увогуле, паводзім сябе, як быццам маем індульгенцыю ад нябёсаў, як быццам не стаім разам перад агульнай бядой і страшнай навалай дэнацыяналізацыі, пошласці, бездухоўнасці, непрафесіяналізму. Мы зноў гатовыя, як у гады таталітарызму, падзяліць нашу творчасць на творчасць «для натоўпу» (сёння гэта значыць — для продажу) і «для душы», ігнаруючы ісціну, што нельга адначасова выходзіць на панель і марыць аб прынцы, які забярэ цябе ў брыганціну з пунсовымі ветразямі.

Мяне дзівіць, чаму мы не можам аб'яднацца ў клопаце за роднае слова, за высокі дух, за прэстыж сваёй літаратуры. Мяне палохае, што мы займаемся самаедствам, што мы церпім побач шэрасць і пыху, манкурцтва і люмпенства. Мяне трывожыць, што нам ёсць пра што гаварыць і нават крычаць, а мы скачам у нейкіх рытуальных танцах племені мумба-юмба.

Для чаго я гэта ўсё пішу? Не першы і, спадзяюся, не апошні падымаю зноў лямант у пустэльні. Але трывожаць цені нашых апосталаў і герояў, але баліць душа за набытае і выпакутаванае роднае слова, за народ, які хочуць пазбавіць памяці, гордасці, годнасці і культуры. І хочацца адчуць локаць сябра і таварыскую падтрымку, веру ў вартасць таго, што робіш.

Так вось і жывём...

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ.**

г. Наваполацк.

# ПЕРАМАГЛА... ЗАДАДЗЕНАСЦЬ

Старшага лейтэнанта Кацырыніча Апанаса Цімохавіча, які пасля вайны толькі-толькі дэмабілізаваўся з войска і таму яшчэ незнаёмы ў горадзе, нашы «ворганы» «ўводзяць у курс» і ўкараняюць на млынзавод для выкрыцця групы злодзеяў.

Так інтрыгуюча пачынаецца аповесць Віталія Галавача «Арыядніна ніць», названая ў анатацыі да кнігі творам, які носіць дэтэктыўны характар.

І, трэба пагадзіцца, гэта вельмі трапнае азначэнне.

Сапраўды, да «дзюдзіка», як у прастамоўі зараз называюць дэтэктывы, напісаныя і чытаемыя дзеля адпачынку, аповесці не хапае прыгод і дзеяння.

Ды якое можа быць дзеянне, калі, каб чытач зразумеў спосаб крадзяжу, аўтару даводзіцца скрупулёзна апісваць канструкцыю вагаў на млынзаводзе, ледзь не па пальцах вылічваць і тлумачыць працэнты вільгаці зерня.

Вострым, праблемным творам аповесць таксама не назавеш. Скарыстаюся вобразам самой аповесці — усе дзеянні «каварных» злачынцаў і разумных міліцыянераў адбываюцца на ўзроўні дробных «верхаводаў».

Шэрыя, безыніцыятыўныя старшы лейтэнант з аддзела па барацьбе з дзяржаўнымі крадзяжамі Дронаў, начальнік міліцыі падпалкоўнік Ананьеў. Такі ж і Кацырыніч, які павінен выкрыць злачынства; ён піша цэлыя сшыткі данясенняў і потым бездапаможна пытаецца, што рабіць далей.

Безаблічнасць, альбо нават антыаблічнасць «ворганаў» і людзей на вытворчасці (канкрэтна — на млынзаводзе), няздольнасць загадчыка цэха Архіпава абараніць сябе, зацюканасць і бяссілле спецыяліста Захарава — усё гэта аўтарскае ўспрыманне і шчырае ілюстраванне пасляваенных часоў, калі калектыўная (таталітарная) свядомасць цалкам падпарадкоўвала сабе асобу.

На жаль, гэтая моцная праблемная тэма — страта індывідуальных валявых рыс пад прэсам сістэмы — праходзіць міма ўвагі аўтара, становіцца непрыкметным фонам для пераказу іншых, больш дробных падзей. Таму канфліктныя і асуджальна-крытычныя матывы ў творы застаюцца ў зачаткавым стане.

Партызанская тэма, што эпізадычна ўплятаецца ў дзеянне твора, падаецца праз успаміны сялян і здагадкі следчага гарадской пракуратуры Супруна. Паступова высвятляецца, што ў раёне, адкуль родам падазраваемыя, дзейнічаў ілжэпартызанскі атрад, які карыстаўся дапамогай немцаў.

Супрун, ва ўчынках якога прарываюцца рашучасць і самастойнасць, усё ж не дапамагае аўтару прааналізаваць з'яву лжэпартызаншчыны. Таксама аўтару не ўдаецца бязлітасна-праўдзіва паказаць злачынствы супраць партызан, выявіць заганы партызанскага руху, развеяць міфы і адказаць, чаму ў яго нетрах маглі нараджацца цімчанкі, швайко і іншыя. (Ці хаця б не адказваць, а вострa паставіць гэтае пытанне). Праўда, у аповесці робяцца падобныя спробы: у сведчаннях селяніна Савелія Ігнатавіча, у прызнанні Кацырыніча, што да яго дзеля папаўнення штрафной роты адправілі цэлы атрад партызан.

Праблемны патэнцыял так і застаецца не выкарыстаны, затое, як заўсёды, перамагае зададзенасць: якія б ні былі хітрыя, дзейныя злачынцы, усё ж наша няхай безаблічная, але доблесная міліцыя іх зловіць і пакарае. І як недарэчна — чыстая падгонка пад вынік — выглядае апошняя сцэна, калі разважлівыя і прадбачлівыя злодзеі Швайко і Цімчанка, ведаючы, што даказаць іх віну будзе цяжка, раптам робяцца дурнямі і перад міліцыянерамі, лаючы адзін аднаго, ва ўсім прызнаюцца. Тым самым яны спрашчаюць задачу «ворганам» і, безумоўна, самому аўтару (каб, напэўна, не заблытацца і не пайсці супраць тэндэнцыі). Дарэчы, тое, што ў фінале дзве сюжэтныя лініі зліваюцца, таксама выглядае непераканаўча і ўспрымаецца як яшчэ адзін доказ таго, што савецкая міліцыя пачэсна выконвае свой абавязак.

Не ўзбуджае цікавасці да кнігі і лёгкасць у прагназаванні падзей, занадта лёгка пазнаюцца злачынцы, часта адсутнічаюць псіхалагічныя падставы ва ўчынках персанажаў. Што ж да стылю аповесці, то яна з-за суцэльных дыялогаў нагадвае сабой нейкую расцягнутую п'есу.

А галоўнае, аўтар сам не разабраўся ва ўласных пачуццях, не паказаў, што менавіта для яго было важна, што цікава, што хвалявала. Шкада. Даводзілася чуць, што ў яго самога няпростая і цікавая біяграфія. Часам жыццё пераўзыходзіць па вастрыні падзей самую багатую фантазію...

**Сяргей МІНСКЕВІЧ.**

Віталій Галавач. «Арыядніна ніць». Аповесць. Мн., «Мастацкая літаратура», 1991.

# „Узыдзе наша зерне“

**Новая старонка творчасці Каруся КАГАНЦА**

Гісторыя сама ствара себе загадкі, адказы на якія часам немагчымыя без пэўных алегорый, вобразаў, сімвалаў. У многім так і з творчасцю Каруся Каганца.

Усё жыццё чакаў гэты чалавек выхаду сваёй кніжкі, намаляваў нават вокладку для яе. Але кніжка выйшла толькі праз 60 гадоў пасля яго смерці.

Таму, калі я вывучаў архіў пісьменніка, маю ўвагу прыцягнуў найперш сшытак з вершамі Каруся Каганца. Бліскуча-чорная вокладка з прыклееным пасярод белым квадрацікам, на якім чарнілам напісана: «Карусь Каганец. Вершы. (1894—1911)».

Я марудна перагортваў пажаўцелыя старонкі загадкавага сшытка, учытваўся ў роўна-лёгкі почырк Каруся Каганца, паглыбляўся ў невядомыя мне дасюль вершы. З кожнай прачытанай старонкай праз адкрыццё новага расло маё здзіўленне: зусім незвычайным паўстаў перада мной творчы вобраз Каруся Каганца— вобраз народнага прапаведніка, які даносіў да людзей веру Божую.

Тэма Бога і ўвогуле клерыкальныя матывы надзвычай шырока (шырэй, відаць, чым у астатніх беларускіх пісьменнікаў таго часу, нават святароў-паэтаў А. Зязюлі і К. Сваяка) адлюстраваны ў творчасці Каруся Каганца. Толькі творчасць гэтая зусім невядомая сённяшнім чытачам.

У зборы твораў пісьменніка (К. Каганец. Творы. Мн., 1979) яго паэзія прадстаўлена надзвычай няпоўна, і нават некаторыя ўключаныя вершы маюць (па ўжо вядомых ваяўніча-атэістычных і «антынацдэмаўскіх» прычынах) шмат рознага з аўтэнтычнымі.

Так, у вершы «Наш сымболь» чытаем:

**За родну краіну, звычай і мову,**
**За ГОНАР груддзю ставайце!**
**Да будзьце верныя сваему слову,**
**З ПРАЎДАЙ заўсёды трывайце!**

А ў Каруся Каганца замест вылучаных слоў былі (публікацыя верша ў «Беларускім календары «Нашае Нівы» за 1911 г.» «за ВЕРУ груддзю ставайце» і «з БОГАМ заўсёды трывайце».

Карусь Каганец з'яўляецца і аўтарам амаль чыста клерыкальных твораў. Да іх ліку належаць «Малітва ранняя» і «Малітва вячэрня». Пісьменнік перакладаў і кананічныя малітвы. Гэта, як сведчыць аўтарскі запіс у прыгаданым сшытку, адбывалася ў лютым 1910 года ў Вільні. Сярод такіх перакладаў «Малітва Божая», «Паздраўленне Багародзіцы», «К Прэсвятой Тройцы». Акром таго, у менскай турме Карусь Каганец пераклаў з польскай мовы рэлігійны твор «Дайса ў вапеку ты Госпаду свайму...»

Да сённяшняга часу не дайшлі да чытача і вершы «Наша малітва», «Устань, народ, прачухайся!..», невялікая паэмка «Вялікі чацвер», якая была напісана ў турме.

У паэме расказваецца аб ахвяраванні сабой Ісуса Хрыста, апісаны добраахвотны выбар Бога, які «свету соладзь ўсю да краю // мог-бы собе смаковаці», але дзеля выратавання чалавецтва аддае сябе на жахлівае пакаранне:

**І вот у страху і трывозі,**
**Збалеўшы целам і душой,**
**Прыймаў Ён чару з рук Еговы,**
**Украй напоўнену тугой...**

Як бачым, Хрыстос паўстае ачалавечанай асобай, якой уласціва боязь перад смерцю. Але гэта не прыніжае, а, наадварот, яшчэ больш узвышае яго подзвіг.

**І светам з неба азарыла**
**Яго знуроннае ліцо,**
**Агнём бязмернае любові**
**Пылае свято то сэрдцо.**

Нідзе не друкаваўся і верш «Наша Ніўка», датаваны 8-ым вераснем 1906 года і прысвечаны, верагодней за ўсё, газеце «Наша Ніва». Галоўная ідэя гэтага верша — барацьба з цемрай народа і праца на карысць роднай беларушчыны, сваёй занядбанай Радзімы.

Вось урывак, які сведчыць аб досыць высокім узроўні верша:

**Хоч і скіба урадліва,**
**І расу Бог пасылае,**
**Ды заглохла наша ніва,**
**Бо ў нас цемра скрозь вітае.**
**Схамянемася мы, братца,**
**Да імемась як хто можа**
**У сваёй зямлі капацца!**
**А Бог вышні нам паможа:**
**І узыйдзе наша зерне,**
**Зерне свету, і дасць колас...**
**Да працуйма адно верна, —**
**Пойдзе ў неба і наш голас.**

Сірочая доля выпала і вершам «Конь», «Кароўкі», цэламу лірычнаму цыклу «Каханне Каганца», аб якім упамінаў яшчэ ў манаграфічным аглядзе «Карусь Каганец» М. Каспяровіч («Маладняк», 1928 г. № 10) і які не змог адшукаць укладальнік збору твораў Каганца С. Александровіч. «Шкада, што не захаваўся своеасаблівы цыкл вершаў паэта «Каханне Каганца»...» — пісаў укладальнік у сваёй прадмове да кнігі. Між тым ён уключыў (!) у зборнік два вершы гэтага цыкла: «Ой, у полі вецер вее...» і «Выйду на гару высоку...» (Творы, с. 116). У рукапісе гэта першы і апошні верш цыкла, які ўключае ўсяго шэсць адзначаных лічбамі адзінак і адносіцца да пачатку літаратурнай творчасці Каруся Каганца (1894—1896 гг.). Поўны ж назоў цыкла — «Спяванні мілосныя «Каханне Каганца». І сапраўды, вершы гэтага цыкла нагадваюць па сваёй сістэме вобразнасці і пабудове творы народна-песеннага складу:

**Выйду на гару высоку,**
**Пад бярозку адзіноку,**
**Гляну кругам, азірнуся,**
**На свет Божы падзіўлюся...**

Ці ў другім:

**То не жветка у траве,**
**І не птушка сэрца рве,**
**А дзяўчына між нас е**
**Мільша жыцця для мяне...**

Чацвёрты верш «Шумі, лес, шумі, дуброва!..» перакрэслены чырвоным алоўкам. Гэтым жа алоўкам нехта (ці не сам аўтар) вылучыў у сшытку назовы ўсіх вершаў.

Цяжка збіраюцца ў засек нашай літаратуры «зёрны святла» Каруся Каганца. Цэлая старонка творчасці пісьменніка не прачытана яшчэ да сённяшняга часу, марудна адгортваліся ўжо вядомыя...

Творы Каруся Каганца так і не сабраны пад адной вокладкай, хаця такую спробу рабіў яшчэ Язэп Лёсік. У газетах «Вольная Беларусь» і «Беларусь», рэдактарам якіх ён быў, былі надрукаваны некаторыя творы Каруся Каганца. Іх пералік даў у згаданым аглядзе М. Каспяровіч. Ён жа пісаў і аб працы Лёсіка над зборнікам, аб яго стаўленні да аўтара: «Нават невядомы лёс зборніку твораў Каганца, падрыхтаваны да друку Я. Лёсікам яшчэ ў 1922 годзе. Засталіся толькі некаторыя чарнавыя паперы, якія захаваў Лёсік, пасьля атрыманьня іх ад жонкі нябожчыка... Частку іх апублікаваў у свой час Я. Лёсік у розных беларускіх выданьнях, бо асабліва чула адносіўся да памяці Казіміра Карлавіча і найлепш адчуваў вартасьць яго твораў».

Бачыў Язэп Лёсік і той чорны сшытак вершаў Каруся Каганца. Больш таго — выбіраў з яго творы для рыхтуемага зборніка. «Запісана для зборніка яго твораў. 29.5.22 г. Я. Лёсік», — значыцца над шасцю вершамі Каруся Каганца. Ці не з-за гэтых надпісак «знік» быў сшытак?

Я. Лёсік перапісаў вершы «Які-ж то вецер буйны грае...», «Браты мае родныя...», «Купалле (лета)», «Дзяды», «Коляды (зіма)» і «Юр'е (вясна)». Чатыры апошнія мы таксама не знойдзем у зборы твораў Каруся Каганца. Між тым верш «Коляды» быў надрукаваны ў газеце «Беларусь», № 53 за 1919 год. Тры астатнія па ўсіх звестках нідзе не друкаваліся.

Калі пісаўся гэты матэрыял, выйшаў у свет зборнік навуковых прац «Кніжная культура Беларусі» (Цэнтральная бібліятэка імя Я. Коласа), у якім галоўны бібліёграф аддзела рукапісаў, старадрукаў і рэдкіх выданняў Дзяржаўнай бібліятэкі Беларусі Л. Станкевіч звяртаецца да пераліку і агляду захаванай архіўнай спадчыны пісьменніка.

Кур'ёзнымі здаюцца пралікі ў падыходзе да творчасці Каруся Каганца. Сярод вершаў пісьменніка Л. Станкевіч прыводзіць такія, як «Чарка» (1905) і «Думка» (1906). Тое, што іх **запісаў** Карусь Каганец, яшчэ не дае падстаў без іх аналізу «прыпісваць» гэтыя вершы яму, бо «Чарка» і «Думка» — вядомыя вершы Цёткі. Памятаеце:

**Цераз мора, акіяны**
**Палячу ў далёкі край,**
**Бо люблю я вураганы,**
**Бо я ў буры чую рай...**

Ды і пад вершамі значыцца псеўданім паэтэсы — Беларуска з Лідскай зямлі.

Згаданыя вершы «Купалле», «Дзяды», «Коляды» і «Юр'е» ўтвараюць сабой цэлы цыкл, звязаны адзіным матывам Бога, Бог выступае сілай, якая стварыла ўсё і працягвае да апошняга часу фарміраваць сусвет. Да Бога звяртаецца аўтар са сваімі просьбамі аб лепшай долі і жыцці свайго народа, шчыра апявае Божую любоў і моцу, выбраўшы для гэтага асноўныя беларускія каляндарныя рэлігійна-абрадавыя святы.

Белы квадрат на чорным полі... Ці не ўся яго творчасць была такой часткай белі сярод адвечнай цемры? Свяціў у абалоні душэўнай ночы палкі каганец, дзесь на заканчэнні пакутна-цёмнага тунеля (вокладка сшытка) віднелася маленькае вогнца чаканага святла. На канцы гэтай дарогі праз цёмны калідор жыцця раскрываў Карусь Каганец цяжкія аканіцы...

**Алесь ПАШКЕВІЧ,**
**студэнт філфака БДУ.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Поціск рукі з-за Каўказскага хрыбта






Усе мы з хваляваннем сочым за падзеямі, што адбываюцца на Каўказе, у прыватнасці — у сонечнай Грузіі. Ведаем пра братазабойчую бойку, нястачы, эканамічныя цяжкасці. І таму з надзвычайнай радасцю сустракаем кожную добрую вестку адтуль. З асаблівай удзячнасцю — кожную праяву даўняй дружбы паміж нашымі народамі.

Нядаўна з пэўнымі перашкодамі дабраліся да мяне дзве кніжкі, што выйшлі ў Тбілісі ў самым канцы мінулага года. Выдадзеныя сціпла і невялікімі тыражамі (папяровы голад!), яны, тым не менш, хораша і своечасова ўпісваюцца ў летапіс сучасных беларуска-грузінскіх літаратурных узаемаадносін.

Першая з кніг — гэта тбіліскае выданне вядомага гісторыка-дэтэктыўнага рамана Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха». Перакладаў твор на грузінскую мову з беларускага арыгінала і выдаў за свой кошт Вахтанг Салія. Я ведаю Вахтанга яшчэ са студэнцкіх гадоў, калі ён па абмене студэнтамі прыехаў у Беларускі дзяржаўны універсітэт вывучаць беларускую мову (дарэчы, тады ж у Тбілісі засвойваць грузінскую мову накіраваўся Уладзімір Сіўчыкаў, адзіны наш сённяшні грузініст). Пазней Вахтанг напісаў і паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю па грузіна-беларускіх літаратурных узаемасувязях 20—30-х гадоў. І вось яшчэ адзін добры знак яго шчырай, непераходнай увагі да нашай літаратуры.

Другая кніжка — навуковы зборнік «Грузино-белорусские литературные взаимосвязи». У аснову ўсіх артыкулаў зборніка леглі матэрыялы навуковай канферэнцыі, якая была праведзена ў Мінску ў 1986 годзе сумеснымі намаганнямі кафедраў беларускай літаратуры БДУ і літаратур народаў СССР і мастацкага перакладу Тбіліскага універсітэта. Я добра помню тую канферэнцыю (прымаў непасрэдны ўдзел у яе арганізацыі) і адразу выказваю шкадаванне, што ў зборнік па розных прычынах не ўвайшлі некаторыя цікавыя выступленні на ёй (у прыватнасці, прафесараў А. Лойкі і А. Баканідзе, дацэнтаў В. Казловай, М. Яфімавай і інш.). Аднак і тое, што апублікавана ў кніжцы, выразна выяўляе характар, стан і задачы беларуска-грузінскіх міжлітаратурных адносін.

Шэраг артыкулаў зборніка прысвечаны розным відам кантактных узаемасувязяў. Іх вывучаюць К. Хромчанка, Т. Кабржыцкая, В. Салія, аўтар гэтага допісу. У. Сіўчыкаў спыняецца на праблемах успрымання грузінскай дзіцячай літаратуры ў Беларусі. Н. Гапрындашвілі разглядае некаторыя асаблівасці перакладу «Віцязя ў тыгравай шкуры» на беларускую мову. М. Кшондзер даследуе «тэму Грузіі» ў творчасці Давіда Сімановіча, а М. Нікідзе і Т. Мгебрышвілі — «тэму Беларусі» ў творчасці Іла Масашвілі і Раждзена Гветадзе. Асноўная частка навуковых даследаванняў засноўваецца на тыпалагічных супастаўленнях грузінскага і беларускага фальклору (артыкул Р. Кавалёвай) ці — часцей — творчасці вядомых беларускіх і грузінскіх пісьменнікаў. Гэта — артыкулы І. Багамолава («Бессмяротнасць» К. Лордкіпанідзе і «Будучыня» Э. Самуйлёнка — новы аспект асваення іншанацыянальнай тэматыкі»), Г. Гавашэлі («Тыпалагічныя асаблівасці гістарычных раманаў М. Джавахішвілі «Арсен з Марабды» і У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім»), І. Ключановіч («Ад сацыяльнай пазіцыі — да выбару шляху: раманы «Закон вечнасці» Н. Думбадзе і «Атланты і карыятыды» І. Шамякіна»), Л. Ламекі («Надар Думбадзе і Іван Навуменка: вопыт лірычнага апавядання»), У. Навумовіча (маральна-этычныя і філасофскія пошукі ў сучаснай беларускай і грузінскай прозе)...

Пяць гадоў таму назад на згаданай канферэнцыі мы давалі абяцанне мацаваць беларуска-грузінскія навуковыя і творчыя кантакты. І вельмі прыемна, што нашы грузінскія сябры тое абяцанне выконваюць. Нягледзячы ні на што.

**Вячаслаў РАГОЙША.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# АДДАЦЬ ДАНІНУ ПАМЯЦІ

Болей за сто пісьменнікаў, вялікая колькасць навукоўцаў і іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Беларусі былі рэпрэсіраваны сталіністамі. Толькі ў адзін дзень, 29 кастрычніка 1937 года, расстраляны органамі НКУС БССР пісьменнікі і навуковыя дзеячы: Якаў Бранштэйн, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Уладзіслаў Галубок, Алесь Дудар, Васіль Каваль, Тодар Кляшторны, Майсей Кульбак, Валерый Маракоў, Зяма Півавараў, Міхаіл Мікалаевіч Піятуховіч, Васіль Сташэўскі, Уладзімір Хадыка, Ізі Харык, Міхась Чарот...

Дзень 29 кастрычніка 1937 года Адам Мальдзіс, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, назваў «чорным днём» Беларусі. Гэтую дату прапаную абвясціць Днём памяці рэпрэсіраваных пісьменнікаў, навукоўцаў і ўсіх ахвяр сталінізму і ў Доме літаратара, у будынку Акадэміі навук устанавіць мемарыяльныя дошкі з імёнамі ахвяр ГУЛАГа.

Лічу, што даўно настаў час выдаць анталогію твораў рэпрэсіраваных пісьменнікаў, і гэтым самым аддаць яшчэ адну даніну памяці ахвяр сталінізму.

**Яфім ГАВАРУШКА.**
**былы вязень ГУЛАГа.**

Алесь БАДАК



# ПОЙДЗЕМ, ПОЙДЗЕМ МЛЕЧНЫМ ШЛЯХАМ...

●

Пойдзем, пойдзем Млечным Шляхам,
Там спакой і цішыня.
Паляцяць за намі птахі,
Наша лепшая радня.

Паляцяць за намі дрэвы,
Нашы сёстры і браты.
Паплывуць за намі рэкі,
Разбурыўшы ўсе масты.

Там няма згрызот і страху,
І ні фальшу, ні маны.
Пойдзем, пойдзем Млечным Шляхам,
Пойдзем, любая, адны.

— Што такое! Божа мілы! —
Нехта крыкне за спіной.
Пойдзем, пойдзем.
Мы зрабілі,
Што маглі зрабіць з табой.

●

Што яшчэ будзе! Што там далей!
Зноў замест сонца хмара ўзыходзіць.
Мужны схаваўся, а трус у сядле.
Моўчкі сляпыя відушчага водзяць.

Белых, як снег, маладых рысакоў
Зноў абганяе рыжая кляча.
Тыдзень галодны па могілках воўк
Ходзіць пакорна за мною і плача.

●

Конь бяжыць, ды спатыкаецца,
А Радзіма не канчаецца.
Ты — наіўны, ты — дзівак,
Думаў, гэта проста так.
Проста — кінуць і забыць,
На чужое замяніць
Рэкі гэтыя і нівы,
Хай сабе не быць шчаслівым,
Ды займець спакой і волю,
Не вярнуцца ўжо ніколі.
Але вось прайшлі гады,
Ты даўно не малады.
Конь бяжыць і спатыкаецца,
А Радзіма не канчаецца,
Не канчаецца ніяк.
Ты — наіўны, ты — дзівак...

## Свята пахавання

Мы будзем піць гарэлку горкую да ранняя,
У нас з сябрамі сёння свята пахавання.
Замест люстэрка мы завесілі абраз, —
Даруй нам, Божа, не крыўдуй на нас!
Мы будзем піць, смяяцца і спяваць, —
Нас гэтак цяжка ўсіх было сабраць!
І, стаўшы ля жалобнае труны,
Мы скажам тост пра дружбу без маны.
Мы шмат спазналі ў гэтым брудным свеце:
Жыццё ў цане зраўнялася са смерцю.
І мы не ведаем, што лепш, што горш,

---

Леанід Прокша

# ОЙ, ГАНКА, ГАНКА...

*апавяданне*



**Спаўняецца 80 гадоў Леаніду Прокшу. Лімаўцы ад усяго сэрца віншуюць Леаніда Януаравіча, свайго колішняга галоўнага рэдактара са слаўным юбілеем, зычаць яму ўсяго найлепшага.**

ГАНКА зацята маўчала. Усё, што гаварыла маці, тупаючы па хаце, было горкай праўдай. І хоць сэрца паласавалі абразлівыя словы, Ганка не крыўдавала: ведала, усё гэта вырываецца з грудзей маці ад роспачы і клопату за яе лёс. Увогуле ва ўсёй гэтай сумнай гісторыі Ганцы перш за ўсё было шкода маці. Чатырох дачок выгадавала ў цяжкі пасляваенны час, і толькі яна, самая малодшая і любімая ў сям'і, так балюча яе пакрыўдзіла...

Калі хто заходзіў у хату, маці сціхала і сілілася затаіць свой гнеў і роспач.

— Ну, як жа там Ганначка — не ўстае? От беднае дзіцятка, — шкадавалі суседкі. — То ж трэба, так яе скруціла...

Кожная з іх нешта раіла, нешта прапанавала. Маці слухала, уздыхала, дзякавала.

— Ды ж, відаць, ужо трэба адвезці яе да добрага доктара.

— Вязі яе, Зося, у горад. Усё ж там лепшае лячэнне. І сястра там у цябе. Муж яе чалавек вучоны, — не адступалася самая блізкая суседка. — Што нашы местачковыя ўрачы...

Суседка выходзіла, а маці прымалася зноў дакараць дачку.

— Бізуна табе, а не доктара. Каб бацька ведаў, ён бы цябе палячыў пугай. Вернецца з арміі Міхась. Як ты яму ў вочы глянеш? Такі хлопец: і прыгожы, і разумны...

Пад падушкай у Ганны ляжала аблітае яе слязьмі пісьмо ад Міхася. Ганка ўжо вырашыла цвёрда — ёй не давядзецца глянуць Міхасю ў вочы... Шкода толькі маці, бацьку, сясцёр. Ім будзе цяжка гэта перанесці. І Міхась пашкадуе яе, нябожчыцу. Цяпер ёй было шчасцем думаць, што любы хлопец яе пашкадуе...

— Выкінь дурное з галавы, — як бы здагадваючыся, што наўме ў дачкі, прыкрыкнула маці.

З часам, адвёўшы душу, жанчына зразумела, што лаянкай справе не паможаш, і пачала супакойваць дачку:

— Ну, нічога. Неяк будзе. Пакуль не выкрылася твая хвароба, едзь у горад да цёткі Антосі. Я ўжо ёй расказала, якое ў нас гора. Пабудзеш у яе месяцы два, пазбавішся ад гэтага няшчасця і вернешся ў мястэчка, як бы нічога ніякага. А там і Міхась вернецца. І ўсё будзе шыта-крыта. Не звязваць жа табе рукі ў васемнаццаць гадоў. Каб жа ты не таіла, а адразу мне сказала, было б усё прасцей. Ой, Ганка, Ганка, гора маё...

— А як Міхась даведаецца...

— Хто ж яму скажа? А калі пасля вяселля даведаецца, ужо не страшна, адыдзе. Ён хлопец спагадлівы. Не Санька. Ох, як я ненавіджу гэтага лайдака. І трэба ж было табе з ім звязацца.

— Не гаварыце мне, мама, пра Саньку...

— Ды ўжо ж... — уздыхнула маці.

Апошні раз Ганка бачыла Саньку ў маі. На ім быў чорны як з іголачкі гарнітур, бялелі накрухмалены каўнер і манжэты. Ён элегантна за руку выводзіў з таксі дзяўчыну ў вясельнай сукенцы. Машына была ўпрыгожана каляровымі стужкамі. Кінулася ў вочы на кузаве машыны прыгожая лялька.

У мястэчку толькі і гаварылі пра вяселле Санькі. Пра крыўду Ганкі ніхто не ведаў. Маці, калі Ганка прыгнечаная прыйшла ў хату, абыякава, сказала:

— Чула? Санька жэніцца. Падабраў урэшце сабе пару, прыгажунчык...

Тады маці не ведала, як балюча гэта чуць яе дачцэ.

Ганка адчувала, як цяжка будзе маці даведацца пра гэта, і ніяк не магла адкрыць ёй сваю таямніцу. Але ж ці такое можна ўкрыць? Бяда наганяла бяду.

Ганка слухала спагадлівыя словы маці і як бы вярталася да жыцця. Сапраўды — гэта зусім проста. Паедзе да цёткі Антосі, а там горад, тысячы людзей, не тое што ў мястэчку—кожны на вачах.

— А яго возьмуць? — сумнявалася часам Ганка.

— Возьмуць, — супакойвала дачку і сябе Зося. — Там чарга стаіць за немаўлятамі.

І Ганцы ўжо здавалася, што цяжар з яе плеч зваліўся, і яна зноў лёгкая і радасная, якой была зусім нядаўна.

●

У горадзе Ганка амаль забылася пра сваё гора. Цётка Антося — малодшая родная сястра маці — ні пра што ў яе не пытала. Муж цёткі — Аркадзь Сямёнавіч, выкладчык у інстытуце, пры сустрэчы з Ганкай толькі ласкава ўсміхаўся: «А, Ганначка, ты ўсё прыгажэеш...» і зноў вяртаўся да сваіх канспектаў і падручнікаў. Стрыечныя браты Коля і Валодзя пасля заняткаў у школе цягнулі Ганку ў двор, прасілі, каб яна гуляла з імі ў футбол.

Раніцай дом пусцеў. Аркадзь Сямёнавіч, напхаўшы ў партфель кніжак, так, што яго цяжка было зашпіліць, бліснуўшы тоўстымі шкельцамі акуляраў, першым пакідаў дом да самага вечара. Потым з шумам і гоманам беглі ў школу Коля і Валодзя. Адправіўшы ўсіх, цётка брала самага малога Сярожу і па дарозе на работу заводзіла яго ў дзіцячы садок.

Ганка заставалася адна. Работы ў яе амаль не было. Хлопчыкі самі засцілалі свае ложкі і прыбіралі ў сваім пакоі. Цётка да адыходу на працу паспявала прыбраць у пакоі і на кухні.

— Паснедай і ідзі на бераг Дняпра. Там так прыгожа. І хадзіць табе трэба болей, — раіла цётка, узяўшы Сярожу за руку.

Цётка выкладала ў тэхнікуме на паўстаўкі, таму вярталася з работы праз некалькі гадзін і пачынала гатаваць абед. Ганка дапамагала ёй. Гаварылі з ёй пра ўсё, акрамя таго, што хвалявала сястру маці, хоць Антося становішча Ганкі не лічыла трагічным.

— Радуйся, што не звязала лёс на ўсё жыцця з такім лайдаком, — падбадзёрвала Антаніна Пятроўна часам пляменніцу.

І толькі па дарозе ў радзільны дом сказала Ганцы:

— Я не адгаворваю цябе. Рабі так, як хоча маці. Я яе разумею. Але, Ганначка, ведай: тая малая кроха, ад якой ты адмовішся, будзе дакараць тваё сумленне ўсё жыццё. Такое з сэрца не выкінеш...

●

У бальніцы Ганка заявіла ў першую хвіліну:

— Радзіць раджу, але ад дзіцяці адмаўляюся...

— Ну, дзяўчынка, — стрэльнуўшы ў Ганку непрыязным позіркам, сказала ўрач. — Радзіць ты, канешне, родзіш, ні куды не дзенешся. Але чаму ты ад дзіцяці адмаўляешся?

Неўзабаве ўся бальніца ведала, якая зязюля прыляцела ў іх гняздо. «Здаецца, узяла б яе за ногі і разарвала, як жабу», — пачула Ганка нейчы злы голас у калідоры. І той цяжкі камень зноў, яшчэ з большым цяжарам узваліўся на яе кволыя плечы.

Цётцы, калі яна прыйшла наведаць парадзіху, сястра суха сказала:

— Вас запрашае да сябе юрыст.

Яна праводзіла Антаніну Пятроўну ў кабінет урача. За сталом сядзела маладая жанчына. Зірнуўшы на яе модную прычоску і пальцы з доўгімі пафарбаванымі пазногцямі, Антаніна Пятроўна зразумела, што рукі гэтыя не гаспадараць на кухні.

— Сядайце, — запрасіла сястра, пажылая жанчына, і выйшла з пакою.

Юрыст непрыязна агледзела наведвальніцу.

— Ну, што вы маўчыце? — урэшце выцадзіла яна. — Я чакаю.

— Вы мяне запрасілі, вы і пытайце, што вас цікавіць...

— А вас не цікавіць тое, што ваша пляменніца адмаўляецца ад дзіцяці?

— Я не арыштаваная і прашу размаўляць са мной адпаведна, — стрымліваючы сябе, адказала, як магла спакойна, Антаніна Пятроўна.

Юрыст скрывілася і, змяніўшы тон, пачала:

— Дзеці наша будучыня, кветкі нашага жыцця...

— Не расказвайце мне, калі ласка, што такое дзеці. У мяне іх трое...

— Тым больш. І вы схіляеце маладую маці на такі брыдкі ўчынак?

Антаніна Пятроўна памаўчала, каб не адказаць абразай на абразу.

— У Ганны ёсць маці і бацька і гаварыце, калі ласка, з імі.

— А вы не хочаце ёй дапамагчы? Справа ідзе аб лёсе будучага Чалавека!

— Усё гэта больш складана, чым вы сабе ўяўляеце. Мая сястра выгадавала чатырох дачок і трох унукаў. Не адмовілася б яна і ад чацвёртага. Але бацька дзіцяці нялюбы ёй чалавек. Ён зганьбіў яе дачку...

А тым часам пажылая сястра, якая адвяла Антаніну Пятроўну да юрыста і ветліва запрасіла яе сесці, прынесла ў палату немаўлятка і паклала ля Ганкі:

— Паглядзі, які цудоўны хлопчык. Пакармі дзіця. Яно есцікі хоча... І ты ж была малая, цябе так кармілі...

Сястра села на край ложка і чакала. Ганка доўга маўкліва прыглядалася да немаўля. Урэшце ўзяла яго і прытуліла да грудзей...

— Ну вось так... — уздыхнула сястра. — І мяне, калі была такая, як ты, маладая і даверлівая, пакрыўдзілі... Хацела пакінуць дзіцятка людзям, а сама ў лунку. Але неяк не кінула. Выгадавала. У арміі цяпер. Такі чалавек стаў, адна радасць...

У вакно пырснуў прамень сонца і асвятліў смуглы тварык дзіцяці.

— Во і сонейка яго вітае... — усміхнулася сястра.

●

Антаніна Пятроўна ўбачыла сястру ў двары на лавачцы. Падбегла да яе ўсхваляваная:

— Прыехала?..

— Хіба ўсядзіш? Ну як яна там?..

— Ужо нічога. Нарадзіла хлопчыка. Такі ж удалы...

— Яно ж такое нежаданае заўсёды ўдалае, — уздыхнула Зося.

— Супакойся, сястрычка. Усё так будзе, як павінна быць. Хадзем у хату.

Зося ўзяла пакункі з лавачкі.

— Вось купіла. Хоць гадкі чалавек Санька, але ў чым дзіцятка вінавата.

Яны падняліся на трэці паверх. У кватэры было ціха. Два невялікія пакоі зырка асвятляла вясновае сонца.

— Можа, з'ясі што? Ці чаю пап'еш?

— Нічога не есца і не п'ецца, — махнула рукой Зося. Яна паклала свой клунак на столік у прыхожай.

— Дык як там парашылі з дзіцем?— спытала, цяжка апускаючыся ў крэсла.

— Гэта не так проста, дзіця ж... Шмат юрыдычных фармальнасцей.

— А можна так, каб яго на год які ўзялі, а потым зноў забраць? Бо то сэрца век будзе неспакойнае...

— Не кажы, сястрыца. Але як гэта зрабіць? Я Аркадзю нічога не гавару, бо і слухаць не будзе, каб дзіця каму збываць...

— А вось Міхась напісаў, — дастала Зося з-за пазухі пісьмо. — Неўзабаве прыедзе. Заказвае вяселле...

— Ну, гэта не так хутка робіцца. Пакуль што якое, хай Ганка з дзіцем пабудзе ў нас...

— Ой, сястрычка, у цябе ж сваіх трое ды муж, а кватэрка цесная...

— Як-небудзь уладкуемся. Абы Ганка забрала дзіцятка.

— І так дрэнна і так не хораша, — уздыхнула Зося. — Як бяда, дык куды ні сунься, паратунку няма...

Антося зірнула на гадзіннік:

— Ты ляж, адпачні, супакойся. У мяне дзве лекцыі. Я неўзабаве прыйду. Тады і памяркуем, што і як рабіць.

●

Пасля лекцый Антаніна Пятроўна, прыкупіўшы сёе-тое ў гастраноме, прыйшла

Хто шчаслівейшы і жывейшы больш.
Таму й труна стаіць у нас пустая,
І п'е нябожчык з намі і спявае.

●

Па сцежках, якімі ніхто не хадзіў,
Вяртаюцца тыя, каго я забыў.

Я іх сустракаю ў сябе на парозе.
— Прабачце, — уздыхаю, адводзячы
позірк.

— Ды што там! — знаёмыя міма
праходзяць
І позірк, як я, сарамліва адводзяць.

Як я, уздыхаюць сябры мае: — Шкода!
І моўчкі знікаюць, цяпер — назаўсёды.

І ворагі толькі ды іхнія дзеці
Клянуцца за гэта мне помсціць да
смерці.

## Аслы

Два самотныя аслы
Цэлы дзень глядзяць угору,
Дзе свабодныя арлы.
Мудры Бог і вецер горды.

Адарвацца б ад зямлі,
Паглядзець краі чужыя!
Але ведаюць аслы:
Вушы іхнія малыя!

●

Уратуй мяне ад смерці,
Дождж пануры і сляпы,
Уратуй, нябесны вецер,
Уратуй, дарожны пыл.

Уратуй, дурная хмарка,
Ценем зношаным накрый.
Будзе смерць па свеце марна
За сабой цягаць мой крыж.

Уратуй мяне ад шчасця,
Горад брудны і чужы.
Мне аб ім не думаць часта,
Мілы друже, памажы.

Памажы, не дай так хутка
Мне спазнаць і зразумець:
На зямлі маёй пакутнай
Шчасце — міф.
Ці грэх.
Ці смерць.
Уратуй мяне ад смерці...

дадому, пазваніла, ніхто не адчыняе. «Заснула, відаць, бедная». Адчыніла ключом замок: у хаце нікога. «Можа, да Ганкі пабегла?» Паклала ў халадзільнік пакупкі і таксама пайшла ў бальніцу. Сястру не спаткала. Дзяжурная сказала: «Яе ўвогуле тут не было». Вярнулася дадому. Пачала гатаваць абед, а з думкі не выходзіла: дзе яна?

Прыбеглі са школы дзеці. Пакарміла іх, пасадзіла за ўрокі, а Зосі не было. Вярнуўся з работы муж.

— Ты ўсхвалявана нечым? — спытаў.

— Ды так, нічога. Зося прыехала. Ды не ведаю, куды знікла,— стрымлівала сябе, а ў галаву ўжо невядома што пачало лезці.

— Можа, у бальніцу пайшла? Як там Ганка?

Аб тым, што Ганка не ў звыклай бальніцы, а ў радзільным доме Аркадзь Сямёнавіч не ведаў, і гэта ставіла Антаніну Пятроўну ў няёмкае становішча. Як на тое ліха хлопчыкі ўбачылі скрутак і разгарнулі яго.

— Ой, мама, каму ты гэта купіла? — разглядаючы кашулькі для малога, дзівіліся яны.

— Не чапайце. То не наша,— Антаніна Пятроўна адабрала ў дзяцей скрутак і хуценька загарнула ўсё зноў. Добра, што яшчэ муж не зацікавіўся скруткам, бо тады давялося б адкрыць таямніцу. А сястра ж прасіла нічога не гаварыць мужу. «Дарэмна ўсё гэта,— падумала.— Праўда не гэтым, дык другім бокам вылезе. Даведаецца некалі Міхась пра хлусню Ганкі. Дрэнна, што яна пачынае будаваць сваё шчасце з хлусні...»

●

Зося вярнулася позна. У сястры ледзь не выпала з рук талерка, калі яна ўбачыла Зосю на кухні.

— Нарэшце,— як не прастагнала яна. — Дзе ты ходзіш? Я ўжо і не ведала што і думаць.

— Усё добра, сястрычка,— паспяшыла супакоіць яе Зося. І, зачыніўшы за сабою дзверы на кухню, працягвала амаль шэптам: — Знайшла ж я карміліцу. Маладзіца здаровая, пышная. Дзіця ў яе таксама грудное, малака на траіх хопіць. Дамовіліся: яна возьме Ганчынага малога на цэлы год.

Зося прысела на табурэтку:

— Ух, аж на сэрцы палягчэла. Дык слухай далей. Маладзіца тая кажа: «Я ў дэкрэце, мне ўсё роўна што аднаго, што двух карміць і даглядаць». Дамовіліся як след аб усім. Я ёй задатак дала і каляску для байстручка купіла.

Антося глядзела на сястру, і ёй чамусьці не хацелася радавацца.

— Можа, гэта і выйсце,— пацісвула плячамі.

— Яшчэ і якое! — ажывілася Зося. — Забяру малога з бальніцы і адразу туды. Дом яе ў садочку. У хаце чыста, прыбрана. Можна быць за гэта спакойнай. Вернецца Ганка дадому і ўсё будзе, як кажуць, шыта-крыта. Ні ў тваёй, ні ў маёй сям'і ніхто нічога не будзе ведаць.

Антаніна ўспомніла, як дзеці з шумам і гамам раскрылі скрутак.

— Цяжка такое скрыць. А як Міхась даведаецца?

— Потым ужо не страшна. Як ужывуцца, можна будзе і сказаць. А паедуць куды, дык сама забяру хлопчыка. Інакш і не думаю...

— Несумленна ўсё гэта...

— А ўжо ж несумленна. А зганьбіць дзяўчыну — сумленна?

— У нечым жа і Ганка вінавата.

— Я не бараню яе. Вінавата. Такі хлопец любіць яе. Але адно вінаватае ходзіць з каменем на шыі, а другое шпацыруе па мястэчку і яшчэ лыбіцца пры сустрэчы...

Зося выцерла шурпатай далонню слязу.

— Цімох спытае, куды столькі грошай дзела. Таксама даводзіцца хлусіць.

— Ён у цябе добры...

— Тое ж, што добры. Скажы праўду, загадае забраць тут жа дзіця. Каб сваё роднае ды ў чужых расло? А з Ганкай што будзе? Куды ні кінь, дык клін.

За дзвярамі пачуліся крокі, і жанчыны змоўклі.

●

На другі дзень Антося адправіла мужа на работу, хлопчыкаў у школу, прыбрала збольшага ў хаце, забрала Сярожу, каб па дарозе адвесці яго ў садзік, і разам з сястрой пайшла ў бальніцу.

Ля прамтаварнага магазіна Антося спыніла сястру:

— Трэба ж тое-сёе купіць для немаўляткі...

— Я ўсё купіла,— запярэчыла Зося.

— Ты само-сабой, а я таксама не чужая...

Выйшлі з магазіна з невялікім пакункам, не ўсё было тое, што б хацелася купіць. Але набылі патрэбнае — пялёнкі, кашулькі...

— А кажуць, усё для дзяцей,— злавала Антося.

— Было б тое бяды,— не падтрымала яе Зося. У яе быў свой клопат.

Па дарозе працягвалі гаворку пра тое, што больш непакоіла.

— Як бы там ні было, — сказала Зося,— а няхай пакуль так будзе, а там — Бог бацька... Хоць і крывіць душой даводзіцца, а што зробіш. Такое жыццё...

«Можа, сястра і мае рацыю,— думала Антося, ідучы побач з Зосяй. — Лёгка разважаць пра мараль, а жыццё часам дыктуе сваю праўду. Ну, што рабіць Зосі? Прывязе яна Ганку дадому з няшлюбным дзіцем, што скажуць людзі? «Байструка нагуляла дзеўка». Сорам сям'і і ў дзяўчыны лёс пакалечаны».

У бальніцы тая ж пажылая сястра з прыветлівым тварам прыняла падарункі.

— А вы падыдзіце да акна, я ёй скажу пра вас.

Сёстры пайшлі ў сад і сталі чакаць. Сонца ярка свяціла ў шыбы вялікага акна, пад якім яны стаялі. Жоўтае лісце кружылася ў паветры і ціха падала на клумбы з адцвіўшымі кветкамі.

— Вось і лета прайшло, — уздыхнула Зося.— Усё праходзіць, і вясна, і лета, і жыццё, а радасці няма...

Пад ногі Антосі ўпаў жоўты кляновы ліст. Яна нахілілася, падняла яго, пакруціла ў руцэ:

— Які прыгожы. Помніш: маці некалі пякла хлеб на такіх лісцях...— І адказала на словы сястры аб шчасці: — Дзе ж яму быць, Зося, калі кожны грабе да сябе шчасце з крыўдай для другіх...

У акне з дзіцем на руках з'явілася Ганка. Зося прыхілілася да шыбіны. Хуценька словамі і рукамі пачала тлумачыць дачцэ, што ўсё ўладкавана і вельмі добра. Ужо сёння або заўтра можна забраць хлопчыка і адвезці ў надзейнае месца...

Антося маўчала. Яна глядзела на Ганку, якая слухала маці і ўсё мацней прыціскала да грудзей дзіця. І раптам, як бы хто хацеў вырваць з яе рук немаўлятка, крыкнула:

— Не аддам! Я нікому яго не аддам, — і са слязамі скрылася ў палаце.

Сёстры чакалі. Зося то ўсхліпвала, то ўсміхалася праз слёзы. Спадзявалася, што дачка адумаецца, вернецца. Ганка не выйшла. Зося радасна зірнула на сястру:

— Ну, што ты скажаш?

— Ганка ўжо сказала...

— Ой, Ганка, Ганка... Пайду забяру задатак...

**З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ**

Зінаіда ДУДЗЮК

# «ПАДАРУЙ МНЕ ЖЫЦЦЁ»

●

Крый божа ад прароцтваў і прарокаў,
Наперад ведаць і жыццё, і смерць,
Даваць сабе дарэмныя зарокі.
Усё магчы. Нічога не пасмець.

Адмовіцца ад цяжкае дарогі,
Прыспаць жаданні, астудзіць агонь.
Прагнаць надзею кволую з парогу.
Чаго няма... дык і няма таго...

Пачутае прымаць цераз сумненне,
Праз недавер—усмешку, радасць,
жэст.
Нашто яно, заўзятае памкненне,
Якім сябе ад лёсу беражэш!

●

Ты — ураган, што зрушыў і панёс
Маю душу у невядомасць часу.
Мінуласці засохлае быллё
Не просіць ні спагады, ні акрасы.

Я ж для цябе амаль не існую,
Як трэска у стыхіі апантанай.
Яшчэ я мроі светлыя сную,
Хаваю ад вачэй чужых, як тайну.

Не, я сябе спасцігнуць не магу,
Калі бязвольна за табой імкнуся.
Магу разбіцца, спраўдзіцца магу...
Ды як пасля адна назад вярнуся!

## Адпусці

Я цябе сярод тысяч шукала,
Не стуляла стамлёных павек,
Заклінала, маліла, гукала:
Адпусці! Дай мне волю навек.

І прыклікала дух твой нарэшце.
Ты з'явіўся, як прывід, чужы.
Сэрца ўзнёслае грудзі не месціць.
Пра наступнае мне раскажы.

Ты маўчыш, ты мінулым распяты
І не звык ратаваць і гадзіць.
Адпусці! — папрасіла зацята.
Ты пацісну́ў плячыма: ідзі.

Я іду, а наперадзе морак.
Як над прорвай глыбокай стаю.
Не хапае мне сонца і зорак,
Забяры ў мяне памяць маю.

●

Напэўна, я сябе перажыла,
Што не баюся адзіноты хворай.
Мяне не забіць прывіднасць святла.
Я не хачу ні з кім дзяліцца горам.

Я не чакаю радасці здаля,
Не спадзяюся на чужое шчасце.
Былыя мары болей не баляць,
Бо долю ў абяздоленай не ўкрасці.

●

На руінах дарэмна
Слёзы позняя ліць,
Толькі памяць нядрэмна
Даўнім шчасцем баліць.

Я другая, не тая —
Для самой адкрыццё.
Я па кроплі знікаю.
Падаруй мне жыццё.

Дзе скрыжуецца хуткасць
Нашых дзён са святлом,
Яшчэ можна адчуваць
Цеплынёю крыло.
Яшчэ можна адолець
Немату, небыццё.
Уздымліся над доляй,
Падаруй мне жыццё.

Гэта горай ад рабства —
Існаваць, а не жыць.
У мінуласць вяртацца
З прадсмяротнай мяжы.
Страшна рушыцца цемра
Пад праклён і выццё.
Не карай недаверам,
Падаруй мне жыццё.

Хведар ГУРЫНОВІЧ

## Ігнат

Не насушыць грыбоў к зіме
Ні ў нашых печах, ні на плітах.
Фіксуе чуйны дазіметр
Прысутнасць радыенуклідаў.

Глядзіць бясстраснае табло -
У твар наборам лічбаў грозных.
— Збягаць адсюль, унучкі, позна,
Тут гаспадарка, тут жытло.

А вунь за вёскай і клады,
Дзе бацька з маткай пахаваны
І два малодшыя браты.
Такі ўжо лёс наканаваны.

Пара за праведнымі й нам,
Мы наблукаліся па свету,
То быў хапун, а то вайна,
А вось цяпер чарнобыль гэты, —

І заўздыхаў Ігнат стары, —
З Палессем зросся каранямі,
Люблю грыбы вось, хоць памры,
А іх варыць забараняюць.

Дык я сушу іх — і ў мяшок,
Мо той чарнобыль выйдзе з часам!
І зараз бы ў грыбы пайшоў,
Скруціла вось, не знойдзеш спасу.

Эх, нарабілі гора, брат,
У брудзе лес і поле ў брудзе,
Ваду з крынічкі нельга браць...
І хто ж за ўсё адказваць будзе!

Забраць бы ў тых князькоў партфель,
Хто згадзіў сцежкі баравыя...
І з пляшкі піў Ігнат партвейн,
Што ўчора ўзяў за «грабавыя».

## Гусі

У вольнай прасторы маёй Беларусі,
Як толькі адступіць на поўнач зіма,
Бывала, пацягнуцца з выраю гусі,
І краю няма і канца ім няма.

Віслуюць у волкім нябесным прадонні,
Як быццам іх родная рэчка нясе.
І вёска падносіць да броваў далоні,
І позіркам доўгім праводзіць гусей.

На крылах высокіх хвалюецца просінь.
І, дружна задраўшы галовы ўгару,
Мы следам імчымся і горача просім:
— Гэй, гусачкі, скіньце і нам па пяру!

Дзядзькі аглядаюць рассохлыя лодкі,
Аб нечым заўзята гамоняць жанкі,
І родная мова ліецца паводкай —
Вясну сустракае мой край гаваркі.

Гады прамільгнулі, як гусі вясною,
Не помню, ці скідвалі пёркі тады,
А мы абляцелі свой край стараною,
У горад бяздумна ўцяклі назаўжды.

І з іншымі мову сваю памяшалі,
Як падчарка ў роднай хаціне яна,
Бацькоўскія котлішчы ў нас не ў
пашане,
Глядзім на зямлю з гарадскога акна.

Хіба на хаўтуры ды на імяніны
У вёскі свае наязджаем зрэдчас.
Забылі, якога мы поля сцябліны,
Забылі, хто моліцца раннем за нас.

Таму й не крычаць запазнелыя гусі —
Атруцілі мы іх з вадой заадно.
Над лесам, над полем маёй Беларусі
Вісіць радыяцыі страшнай радно.

Мы ж душы закрылі ў надзейныя сховы,
І ў тым найвялікшая наша бяда.
І спее над намі яшчэ і духоўны
Чарнобыль злавесны.
Нашчадкаў шкада.

Сядзім і не смеем за іх заступіцца,
Усе пасобку, як тыя карчы.
І можа пад намі зямля праваліцца,
А мы не заўважым! А мы прамаўчым!

# АДРАС СПАТКАННЯ — ГРОДНА

**«Балтыйская тэатральная вясна» адбудзецца ў Гродне з 18 па 24 красавіка**

Да фестывальных спатканняў раз на год, асвечаных, так бы мовіць, і беларускую прыналежнасцю да Балтыі (рэгіёна, краін, гісторыі і г. д.) мы, здаецца, мусілі прызвычаіцца ўжо. Можна банальна занатаваць, што для нашых тэатраў — гэта своеасаблівы іспыт, што спатканняў гэтых чакаюць, усе ды кожнае з іх — па-свойму значнае ды непаўторнае... У 1956 годзе звышзадачаю фестывалю сталася патрэба ўсталяваць трывалыя тэатральныя дачыненні між рэспублікамі ды, так бы мовіць, зірнуць на сябе вачыма суседзяў. У 1957 сярод узнагароджаных спектакляў — «Аптымістычная трагедыя» У. Вішнеўскага, плён творчых намаганняў Рускага тэатра БССР. У 1986 ён самы прадставіў «Знак бяды» В. Быкава, сёлета распавядзе пра «Хрыста і Антыхрыста» Д. Меражкоўскага.

Калі кінуць вокам на беларускія спектаклі, якімі пазначаліся «Прыбалтыйскія вёсны», дык «першым сярод роўных» выпадае быць драматургу А. Дудараву: менавіта спектаклі паводле ягоных п'ес і ўзнагароджваліся («Вечар» у пастаноўцы Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа), і прызнаваліся найлепшымі («Радавыя» Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы). Ні Шэкспір («Бура» ды «Гамлет»), ні В. Дазорцаў («Апошні наведнік»), ні Бутрамееў («Страсці па Аўдзею») падобнага прыёму не зазналі. Летась, калі мянялася і змянілася ўсё ад жыцця тутэйшага ды тамтэйшага да задач і звышзадач «Балтыйскай вясны», поспех спазналі «Тутэйшыя» Янкі Купалы (упершыню, трэба адзначыць, браў удзел са сваім спектаклем у фестывалі М. Пінігін, — і адразу не толькі «скочыў» на прапанаваную вышыню, але і моцна ўзняў планку для тых беларускіх спектакляў, што цяпер прапануюцца да ўдзелу). Палітыка паступова саступала месца мастацтву. Можна сказаць, у чымсьці фестываль вярнуўся на «кругі своя» — вочы суседзяў усё яшчэ глядзяць проста (з крывымі вачамі мы даўно асвойталіся), але як ніколі зацікаўлена. Фестываль выразна набывае рынкавыя абрысы і рысы — часіна маленькіх творчых «міжсабойчыкаў», клуба па інтарэсах ці тэатральнае гасцёўні мінулася. У 1989 годзе ў Вільні ўпершыню прадставілі свае спектаклі Фінляндыя (сёлета ў Гродне тэатр з Лахці пакажа «Шкляны звярынец» Т. Уільямса) ды Нарвегія; да нас прыедуць таксама нацыянальны тэатр з Мангейма (Германія) з «Канферэнцыяй птушак» Ж.-К. Кар'ера ды тарунскі тэатр імя В. Хожыцы (Польшча) з «Арфеем» Л. Клерамбаульта. Дзяржаўны драматычны тэатр на Ліцейным з Санкт-Пецярбурга прывязе «Фарсы, альбо Новыя сярэднявечныя французскія показкі», Маладзёжны тэатр Латвіі з Рыгі «Дэмакратыю» І. Бродскага, Літоўскі нацыянальны тэатр драмы — «Боксае ягня» Ф. Байераса, тэатр «Эндла» з Пярну — «Ганчарню Эпп Пілларпарт з Пуньяба» П. Педаяса і П. Валака. Беларусь разам з Рускім тэатрам будзе прадстаўляць і Дзяржаўны тэатр-лабараторыя нацыянальнай драматургіі спектаклем «Ку-ку» М. Арахоўскага.

Новыя часы, новыя імёны... Класіка таксама міжволі набывае новыя аблічы, апранаецца ў новыя строі, зазнае іншыя трактоўкі ды спазнае — поспех ці няпоспех у гледачоў. «Балтыйская тэатральная вясна» не мае раз і назаўсёды вызначанай пэўнасці свайго, так бы мовіць, прызначэння — для гледачоў, крытыкаў ці пакупнікоў спектакляў (акцёры, на жаль, па-ранейшаму пазбаўлены магчымасці паглядзець на калегаў). Чым зробіцца яна ў хуткім часе, мабыць, нароўні з усімі ўдзельнікамі будзе не ў малой ступені залежаць і ад Беларусі, — няглядзячы на тое, што да фестывальных спатканняў раз на год мы быццам бы прызвычаіліся ўжо...

**Ж. Л.**



1985. Рыга. Гран-пры ў спектакля «Радавыя» А. ДУДАРАВА. В. ФІЛАТАЎ (Дзерваед), А. ДЗЯНІСАЎ (Дугін).



1987. Мінск. Гран-пры ў спектакля «Дзядзька Ваня» А. ЧЭХАВА. В. ПЯТКЯВІЧУС (Вайніцкі), Д. АВЕРАЙТЭ (Соня).



1991. Талін. Лепшы спектакль фестывалю — «Тутэйшыя» Янкі КУПАЛЫ. В. МАНАЕЎ (Мікіта Зносак).

Фота А. ДЗМІТРЫЕВА.

**НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ**

# Вось такая «КАЗКА...»

Летась у лістападзе на сцэне Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі адбылася прэм'ера спектакля «Асцярожна! Баба Яга!». Яна засведчыла нараджэнне новага тэатральнага калектыву — Дзіцячага музычнага тэатра-студыі «Казка». Яго заснавальнікамі сталі Дзіцячы фонд Беларусі і Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі. Новы тэатр пакуль не мае ні свайго памяшкання, ні моцнай матэрыяльнай базы, і прытуліўся ён пад дахам свайго заснавальніка — тэатра музычнай камедыі. І артысты, якія раней выступалі ў дзіцячым рэпертуары, утварылі акцёрскі касцяк новага калектыву, па-ранейшаму застаючыся артыстамі тэатра музкамедыі (супрацоўнічаюць з «Казкай» на дагаворных асновах, як і некаторыя салісты ДАВТа і студэнты кансерваторыі). Абавязковыя ўдзельнікі спектакляў — выхаванцы дзіцячай студыі, якая існуе пры новым калектыве.

Арганізатар і мастацкі кіраўнік «Казкі» — дырыжор тэатра музычнай камедыі Глеб Аляксандраў. Думка пра стварэнне дзіцячага музычнага тэатра нарадзілася яшчэ ў 1985 г., калі артысты музкамедыі разам з Г. Аляксандравым былі запрошаны на прагляд спектакля для дзяцей, які падрыхтавалі студэнты музычна-педагагічнага факультэта Мінскага педінстытута. Удзельнікі спектакля былі настолькі здольныя людзі, што захапілі-заахвоцілі і прафесіяналаў, якія не толькі падтрымалі ідэю студэнтаў, а і пачалі супрацоўнічаць з імі, выступаць у школах і дзіцячых садах. Убачыўшы вялікую патрэбу ў такой працы, шчыры водгук маленькіх гледачоў, яны зразумелі, што да мастацтва далучаць трэба змалку: як нельга навучыцца чытаць, не ведаючы алфавіт, так нельга без пэўнага выхавання і падрыхтоўкі разумець вялікае мастацтва, а тым больш — мець духоўную патрэбу ў далучэнні да яго.

І ў Міністэрстве культуры, і ў СТД рэспублікі ідэю Г. Аляксандрава — стварыць дзіцячы музычны тэатр — падтрымлівалі. Тым больш, што ў гэтым плане Беларусь ужо даўно адставала ад сваіх суседзяў: і ў Літве, і ў Эстоніі, і на Украіне, і ў Расіі дзіцячыя музычныя тэатры даўно існуюць. Але дзе ўзяць сродкі на ажыццяўленне ідэі? Разумеючы праблемы фінансавання, Г. Аляксандраў звяртаўся да кіраўнікоў буйных прадпрыемстваў па спонсарскую падтрымку. Толькі дзякуючы настойлівасці і адданасці сваёй ідэі Г. Аляксандраў з групай артыстаў-энтузіястаў дамогся станоўчага выніку. І вось у 1990 г. мінскі дзіцячы музычны тэатр быў зарэгістраваны як юрыдычная асоба. Такім чынам з'явілася магчымасць прыцягнуць спецыялістаў і пачынаць шырокамаштабную работу, бо дагэтуль артысты працавалі (прычым бясплатна) у вольны ад асноўнай працы час, не маючы рэпетыцыйнай залы.

Яшчэ да прызнання калектыву самастойным тэатрам група энтузіястаў на чале з Г. Аляксандравым пачала працу над спектаклем «Стойкі алавяны салдацік». Рэпеціравалі ў вольны час, у выхадныя дні. Пазней да іх далучыліся яшчэ некаторыя акцёры тэатра музкамедыі. Зразумела, пастаноўка «Стойкага алавянага салдаціка» не значылася ў планах тэатра музкамедыі, але калі ўсё было ўжо зроблена, дык яе залічылі ў рэпертуар менавіта тэатра музкамедыі.

Такім чынам, «Казцы» трэба было адзначыць сваё афіцыйнае нараджэнне новай работай. Вырашылі пачаць з увасаблення беларускага твора. Пачалі рыхтавацца да пастаноўкі дзіцячай оперы С. Бельцюкова «Драўляны ры-

# ФОРМУЛА ВЫХАВАННЯ



Ён нагадвае музыканта Рэнесанса: выканаўца, кампазітар, педагог, музычны асветнік, лектар, аўтар публікацый па пытаннях музычнага мастацтва, нарэшце, шырока эрудзіраваная асоба... Тая лёгкасць, з якой Ігар Алоўнікаў нясе нялёгкі цяжар сваіх такіх разнастайных талентаў, здзіўляе і захапляе.

Высокі прафесіяналізм выканаўцы, багаты ў стылявых і жанравых адносінах рэпертуар ужо даўно ацаніла і слухацкая аўдыторыя, і патрабавальная крытыка. Пра яго канцэртныя выступленні — піяніста, арганіста — не раз пісалі ў друку. Але І. Алоўнікаў — адзін з тых рэдкіх музыкантаў, для каго выканаўніцтва і педагогіка непадзельныя. Яго ўласнае бачанне методыкі навучання, педагагічныя прынцыпы фарміруюцца менавіта ў выканальніцкай сферы; тут узбагачаецца яго тэхнічны арсенал, а сты-



Снежная каралева — І. ЛІТВІН.

цар». Але, на жаль, па розных прычынах праца над спектаклем прыпынілася. Тады звярнуліся да калег з Санкт-Пецярбурга, у якіх ёсць вялікі вопыт работы з дзіцячым рэпертуарам. Кампазітар С. Плешак і рэжысёр Н. Чэрнікава адгукнуліся на просьбу, і за кароткі час была падрыхтавана прэм'ера «Асцярожна! Баба Яга!», з якой і выйшаў тэатр на сваё ўрачыстае адкрыццё.

Ставіўся гэты спектакль у рэкордна кароткі тэрмін, да таго ж па аб'ектыўных прычынах іграецца ён пад фанаграму, — таму, пры строгай ацэнцы, можна знайсці ў ім і не зусім ўдалыя моманты. Але дзякуючы высокаму ўзроўню выканаўцаў і ўдзелу дзяцей глядач ідзе на яго з ахвотай.

Наступны спектакль зноў дапамагалі падрыхтаваць калегі з Пецярбурга. На гэты раз, паверыўшы ў творчы патэнцыял маладога, нікому невядомага калектыву, згадзіліся супрацоўнічаць з ім прызнаныя не толькі ў нас, але і за мяжой пастаноўшчыкі. Гэта рэжысёр Ю. Аляксандраў і мастак В. Окунеў. Творчыя шляхі абодвух не раз перакрыжоўваліся ў Мінску. У тэатры оперы і балета Беларусі Ю. Аляксандраў ставіў «Дона Паскуале» і «Казкі Гофмана». У гэтым жа тэатры В. Окунеў ажыццявіў сцэнаграфію некалькіх спектакляў. А ў тэатры «Казка» яны ўзяліся за пастаноўку дзіцячай оперы С. Баневіча «Гісторыя Кая і Герды» (паводле Х.-К. Андэрсена, лібрэта Т. Калінінай). Не прайшло і трох месяцаў пасля першай прэм'еры, як адбылася наступная.

Нельга не адзначыць творчы рост калектыву: «Гісторыя Кая і Герды» — спектакль маштабны, з вялікай колькасцю дзейных асоб, багата аформлены. Акрамя салістаў тэатра і выхаванцаў дзіцячай студыі, у ім заняты хор і балет тэатра музкамедыі, а таксама салісты ДАВТа Н. Руднева, І. Ланюк, М. Качаноўскі. Высокая пастановачная культура спектакля. Абапіраючыся на такі прыдатны для творчасці матэрыял, як казачны свет Андэрсена і цудоўная музыка Баневіча, рэжысёр і мастак паказалі дастойны ўзровень сцэнічнага ўвасаблення гэтага матэрыялу.

Ажыццяўляючы сцэнаграфію, В. Окунеў глядзеў на сваю працу з пазіцыі дарослага чалавека, але нібыта дзіцячымі вачамі. У афармленні спектакля ён прытрымліваўся прынцыпу рэалізму, згадваючы свае дзіцячыя ўражанні ад кніжных ілюстрацый, калі тыя кніжкі, дзе малюнкі былі яркія, выразныя, лічыў добрымі, а тыя, дзе малюнкі былі невыразнымі і незразумелымі — дрэннымі. Таму ў афармленні спектакля няма абстрактных сімвалаў, усе элементы дэкарацый выпісаны дэталёва. Многа сумесных з рэжысёрам знаходак: гэта мігценне паўночнага ззяння, і амаль натуральная завіруха з іскрыстымі сняжынкамі, і нават палёт снежнай каралевы па начным небе. Гэта прываблівае і захапляе маленькіх гледачоў.

Высокі ўзровень пастаноўкі падымае на прыступку вышэй і выканаўцаў. Салісты атрымалі сур'ёзную школу і карысны вопыт працы над opернымі партыямі. Акцёры Л. Казючыц, Л. Лют, А. Арцем'еў, В. Барухін, В. Міціна працуюць нароўні з опернымі артыстамі. Заўважаецца творчы рост і аркестра, які дасюль вопыту працы над операй не меў. Тым не менш, аркестр у сваім звычайным складзе (толькі некалькі музыкантаў запрошаны з іншых калектываў) справіўся з нялёгкай для сябе работай. Думаю, заслуга ў гэтым перш за ўсё дырыжора Г. Аляксандрава.

Супрацоўніцтва з пецярбургскімі калегамі дало свой плён. У іх пераняты немалы вопыт. Але мастацкі кіраўнік «Казкі» памятае пра сваю першапачатковую задуму — паставіць беларускі твор. «Драўляны рыцар» С. Бельцюкова неўзабаве будзе ўвасоблены на сцэне, і да гэтай прэм'еры тэатр ставіцца з асаблівай адказнасцю. Супрацоўнічаць з дзіцячым тэатрам згадзіўся і кампазітар І. Лучанок.

І яшчэ адзін факт, які сведчыць пра перспектыўнасць справы, распачатай новым калектывам. Зацікавіўшыся ім, на абедзве прэм'еры прыязджаў англійскі тэатральны менеджэр Нік Уінтэр, прычым, апошнім разам ён прыехаў з англійскім кампазітарам Дарлам Рансуікам. Прызнаўшы творчы калектыў тэатра цікавым і шматабяцальным, Рансуік пажадаў супрацоўнічаць з ім. Маючы ў сваім распараджэнні спрактыкаванага менеджэра, у кароткі тэрмін удалося ажыццявіць гэту задуму — паставіць спектакль «Чараўнк». Гэта твор своеасаблівы, бо дзеці тут не толькі выканаўцы, але і паўнапраўныя стваральнікі. Рансуік напісаў музыку пралога і эпілога, а ўсе 6 сцэн дзеі прыдумалі самі дзеці — ад музыкі да сцэнаграфіі, звяртаючыся да скарбніц беларускай музыкі, складаючы вершы, ствараючы эскізы дэкарацый ды касцюмаў. Рэжысёр В. Цюпа такім чынам кіраваў гэтай стыхіяй, каб глядач мог пабачыць менавіта дзіцячую творчасць. Бо такая задума кампазітара. Адзіную «дарослую» ролю выконвае заслужаны артыст рэспублікі Г. Казлоў.

Вось такі ў агульных рысах творчы кірунак Дзіцячага музычнага тэатра «Казка». Шкада толькі, што яго мастацкаму кіраўніку даводзіцца багата часу адрываць ад творчых спраў для ўзгаднення розных арганізацыйных і адміністрацыйна-гаспадарчых пытанняў, бо адміністратара ў штаце пакуль няма...

Пажадаем жа маладому калектыву справіцца з часовымі цяжкасцямі, умацаваць свой поспех, зведаць творчы рост і парадаваць юных гледачоў новымі прэм'ерамі.

**Зоя ЛЫСЕНКА.**



Герда — Л. ЛЮТ, Кай — В. МІНГАЛЕЎ.



Сцэна са спектакля «Гісторыя Кая і Герды».

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

лявыя інтэрпрэтацыі набываюць пераканаўчасць і дасканаласць.

Вось ужо на працягу васьмі гадоў ён выкладае ў кансерваторыі і ў ліцэі пры БДК у класе спецыяльнага фартэпіяна. Тэрмін невялікі, але яго педагагічная сістэма за гэты час склалася цалкам. Пошукам у гэтай галіне, розным пытанням фарміравання прафесійных навыкаў у музыкантаў-пачаткоўцаў прысвечаны яго лекцыі для слухачоў Беларускага інстытута праблем культуры. Галоўная задача педагога, па перакананні І. Алоўнікава, у тым, каб выхаваць не вучня, які валодае толькі комплексам выканаўчых тэхнічных прыёмаў, а Музычную Асобу, здольную пазней сказаць сваё слова ў мастацтве.

Прафесійныя навыкі неабходна фарміраваць Духоўнасцю — такая яго формула выхавання вучня. Высокая, высакародная мэта. Але з чаго пачынаецца яе ажыццяўленне? Несумненна, з асобы самога педагога, з яго прафесіяналізму. У гэтым сэнсе І. Алоўнікаў універсал: валоданне кампазітарскай тэхнікай (ён вядомы як аўтар шматлікіх транскрыпцый), глыбокія веды ў сферы тэорыі і гісторыі музыкі, вялікі мастацкі кругагляд, — усё гэта дае яму магчымасць знаходзіцца на той высокай ступені мастацтва, на якой тэхналагічныя праблемы адступаюць перад наяўнай перспектывай сапраўднай творчасці. Да раскрыцця гэтай вялікай тайны майстэрства І. Алоўнікаў імкнецца далучыць і пачаткоўца, не баючыся доўгай, карпатлівай працы. Яго заняткі з вучнем падобныя да складанай, працяглай справы мастака або скульптара з іх паступовымі пошукамі патрэбных фарбаў, ліній, святлаценяў, форм, рэльефаў, з якіх спакваля праступае галоўнае: мастацкі вобраз.

Як наблізіць тое, што выконваецца, да сапраўднай аўтарскай задумы і якім бачыць гэты працэс І. Алоўнікаў? У любой галіне выканальніцтва існуюць усталяваныя правілы, прыёмы, свой тэхнічны комплекс, якім павінен валодаць музыкант. Пра канкрэтны ж твор на пачатковым этапе працы маецца нязначная інфармацыя. Нотны тэкст з яго гукавой і рытмічнай арганізацыяй, рэмаркі (тэмпы, дынаміка, педалізацыя) — своеасаблівае музычнае завяшчанне аўтара. Ігар Уладзіміравіч перакананы: каб рэалізаваць задуму кампазітара, выканаўцу неабходна мноства самых разнастайных звестак, слыхавых і тэарэтычных — пра мастацкія традыцыі эпохі, пра стыль, музычнае мысленне і асобу аўтара. Зазірнуць углыб задумы памогуць і розныя мастацкія аналогіі з творамі жывапісу, архітэктуры, літаратуры. Так працаваў незабыўны Г. Нейгаўз. Яго знакамітыя ўрокі сумяшчалі ў сабе многае: бляск імправізацый, цытаты з сусветнай паэзіі, між іншым прамоўленыя фразы на замежнай мове; яны былі напоўненыя тым водарам мастацтва, што настойваўся яшчэ ў дарэвалюцыйны час, у духоўнай повязі з еўрапейскай культурай. Падобную атмасферу імкнецца стварыць для сваіх вучняў І. Алоўнікаў, укараняючы знойдзенае ва ўласным выканальніцтве ў сферу навучання і ўзбагачаючы заняткі ў класе экстрактам разнастайных звестак, даступных яго магутнаму мастацкаму інтэлекту.

Але ў фарміраванні музыканта-выканаўцы роля педагога не павінна быць «самодовлеющей». Ігар Уладзіміравіч сказаў аднойчы: «Мы вучым студэнтаў, замест таго, каб яны вучыліся самі». Яго вопыт выканаўцы падказвае: досыць важныя і ўласныя пошукі музыканта-пачаткоўца, неабходна самаадукацыя, якая пашырае мастацкі кругагляд, але гэты працэс павінна накіроўваць чуйная рука педагога.

Ён шмат разважае пра стан нашай прафесійнай музычнай адукацыі. Пачатковаму этапу навучання музыцы, мяркуе І. Алоўнікаў, надаецца недастаткова ўвагі. А гэта ж — аснова асноў; адсутнасць прафесіяналізму на школьнай прыступцы нараджае складаныя праблемы, якія часам аказваюцца невырашальнымі на наступных этапах навучання. Між тым, школа — ССНУ — ВНУ — раўназначныя звенні ў прафесійнай адукацыі музыканта; калі б сувязь паміж імі была больш адладжаная і дасканалая, калі б існавала надзейная «чапляльнасць», многія складанасці ў сістэме музычнага навучання проста адсутнічалі б. Да таго ж, лічыць Ігар Уладзіміравіч, наша прафесійнае музычнае навучанне церпіць ад залішняй масавасці: яна неабходная на ўзроўні музычнага выхавання, але ў прафесійнай сферы наўрад ці прыносіць станоўчыя вынікі...

Усё, над чым працуе І. Алоўнікаў-педагог, хвалюе сёння многіх музыкантаў. А яго пошукі ў гэтай сферы актуальныя не толькі для нашага часу.

**Э. АХРЭМЧЫК,**
**загадчык лабараторыі**
**Беларускага інстытута**
**праблем культуры,**
**Л. ЛЯШЧЭВІЧ,**
**выкладчык**
**Маладзечанскага**
**музвучылішча.**

# ПАДАРОЖЖА Ў КУЛЬТУРУ

(Пачатак на стар. 5).

— Што вы хочаце — у нас чацвёрты паверх спусціўся на трэці, — сказала мне адна з субяседніц. Убачыўшы на маім твары неўразуменне, растлумачыла: — Раней у гэтым будынку (яна мела на ўвазе дом, самы вялікі ў Чэрвені, дзе месціцца мясцовая ўлада) чацвёрты паверх займаў райком партыі, а калі КПБ забаранілі, многія з апаратчыкаў няблага ўладкаваліся на трэцім паверсе, дзе знаходзіцца райвыканком. Былы другі сакратар райкома Глазуноў стаў старшынёй райвыканкома, сакратар райкома Краўцова — яго намеснікам, іншыя таксама не засталіся без пасад.

Зрэшты, справа не ў гэтым. Прынамсі, не толькі ў гэтым. Галоўнае, каб былыя «партайгеносэ» тэрмінова пазбаўляліся старых камуністычных «замашек». Упэўнены, не было б у Чэрвені такога канфлікту, калі б не дзейнічала Краўцова метадамі былога партыйнага кіраўніцтва, якое, ніколі не лічылася з думкай тых, хто стаяў ніжэй яго на сацыяльнай лесвіцы. Трэба было ёй сустрэцца з работнікамі культуры, шчыра пагутарыць, растлумачыць ім сваю пазіцыю мо і зразумелі б людзі. Я кажу пра гэта Надзеі Іванаўне, яна спачатку ўпарціцца, а потым згаджаецца, што ў нечым тут «не дапрацавала». А «недапрацоўка» гэта зыходзіць з неразумення сённяшніх рэаліяў жыцця. Так, яшчэ два-тры гады назад калектыў культработнікаў у такой сітуацыі і не пікнуў бы, моўчкі праглынуў бы такія да сябе адносіны. Сёння ж у людзей прачнулася пачуццё ўласнай годнасці, і вось, як бачым, калектыў адкрыта выступіў на абарону сваіх правоў.

Ёсць у гэтай гісторыі акалічнасць, якая асабліва абурыла культработнікаў. Габернік, якая мае ў Смілавічах добрую чатырохпакаёвую кватэру далі жытло і ў Чэрвені, бо ёй, маўляў, цяжка ездзіць на працу за дваццаць з нечым кіламетраў. Ларыса Паўлаўна, калі пра гэта зайшла гаворка, расказала, што нядаўна перажыла сямейную драму — разышлася з мужам пасля дваццаці гадоў сумеснага жыцця, што муж не хоча вызваляць кватэру, якую ў свой час Габернік дала школа. «Жыць з ім пад адным дахам я не магу», — гаварыла Ларыса Паўлаўна, і вочы яе былі поўныя слёз. Я шчыра ёй паспачуваў. Але не мог у гэты момант не думаць і пра тое, што многія жыхары Чэрвеня памногу год чакаюць, калі нарэшце надыдзе чарга на атрыманне кватэры. Сярод іх нямала і культработнікаў. Узяць хоць бы Інесу Сцяпанаўну Азяўчыкаву, шматгадовага дырэктара Чэрвеньскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы, якая туліцца ў маленечкім пакойчыку камунальнай кватэры разам з сям'ёй дачкі. Стаіць Азяўчыкава ў чарзе на атрыманне жылля гадоў пятнаццаць...

Радок са «Зварота» чэрвеньскіх культработнікаў: «За апошнія гады культура ў раёне знаходзіцца на апошнім месцы ў вобласці». Цікава, як яны разумеюць само паняцце — культура? Слоўнік дае такое тлумачэнне гэтага слова: «Культура — сукупнасць дасягненняў чалавецтва ў вытворчых, грамадскіх і разумовых адносінах». І тут жа — «Савецкая культура — нацыянальная па форме, сацыялістычная па змесце». Каб хто ведаў, што гэта азначае?

На самай справе, наша «культура» — адна з галін камандна-бюракратычнай сістэмы, якая жыве па ўласцівых гэтай сістэме законах. Як прамысловасць ці бытавое абслугоўванне, культура ўціснута ў структурныя рамкі кіравання: Міністэрства культуры, абласныя і гарадскія ўпраўленні культуры, раённыя аддзелы культуры.

Наша былая краіна была краінай паказчыкаў. Па паказчыках, часта высмактаных з пальца, меркавалі аб здабычы вугалю, выплаўцы сталі, вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Культура вымяралася (і вымяраецца) колькасцю клубаў, дамоў культуры, бібліятэк, калектываў мастацкай самадзейнасці, а таксама колькасцю «ахопленых» імі людзей (паспрабуйце гэта падлічыць).

Думаю, што чэрвеньскія культработнікі, складаючы свой «Зварот», кіраваліся менавіта гэтымі катэгорыямі. Сапраўды, у раёне вельмі слабая матэрыяльная база культасветустаноў. Напрыклад, з 15 сельскіх клубаў толькі 3 размешчаны ў тыпавых памяшканнях. Не хапае спецыялістаў. Зноў жа, з 15 загадчыкаў сельскіх клубаў толькі 2 маюць спецыяльную адукацыю — скончылі культасветвучылішчы, валодае музычным інструментам наогул толькі адзін чалавек. Сапраўды — блага. Але выкажу тут і адну крамольную думку. Я амаль упэўнены, што калі б усе загадчыкі клубаў і мелі спецыяльную адукацыю, узровень культуры ў «абслугоўваемых» вёсках наўрад ці змяніўся б. Трэба браць у гэтай справе зусім іншы пункт адліку.

У райаддзеле культуры я папрасіў паказаць мне які-небудзь сярэдні сельскі клуб. Едзем у вёску Калодзежы — гэта недзе кіламетраў 15 ад Чэрвеня. Гутару з загадчыцай клуба Галінай Пятроўнай Нябарскай. Расказвае, што раней працавала выхавацелькай у дзіцячым садку, а пару год назад перайшла на працу ў СК.

— І што вы робіце ў клубе?—пытаюся.

— А шмат чаго, — адказвае загадчыца. — Вось сёлета ўжо навагоднюю ёлку ставілі, каляды адзначылі, праведзены ў клубе сход мясцовых механізатараў, пасля якога школьная самадзейнасць дала канцэрт...

— А як сябе паводзяць людзі ў клубе?

— А што? — насцярожваецца Нябарская.

— Проста цікаўлюся. Ці смецяць, скажам...

— А то ж не, — пацiскае яна плячыма. — Абрыдла ўжо пасля кінасеансаў вымятаць семкі і featuresнае смецце.

— І п'яныя бываюць?

— І п'яныя, — кажа Нябарская. — Здараецца, што і паб'юцца, хоць па ўчастковага бяжы...

Калісьці ў вёсцы бадай адзіным «асяродкам культуры» была царква, дзе святар разам са словам боскім сеяў у душах прыхаджан і семя біблейскай маралі: не забі, не ўкрадзі... Гэта выхоўвала. З расказаў старых людзей, ды і з літаратуры ведаю, што з'яўленне ў царкве п'янага чалавека ўспрымалася, па сучаснаму кажучы, як ЧП. Адважыцца на такое мог самы нікчэмны чалавек.

Чытаў, што на Захадзе, скажам, у той жа Англіі, ролю своеасаблівых клубаў адыгрываюць пабы, па-нашаму — піўныя, куды вечарам, пасля працы, збіраюцца навакольныя жыхары, каб пасядзець за кубкам эля, падзяліцца навінамі, пачытаць газеты, пагаманіць з сябрамі і знаёмымі. Скажуць, у нас людзі таксама любяць пагаманіць са знаёмымі, таўкучы гразь ля бочкі з півам, а потым, набраўшы ў трохлітровы слоік мутнай вадкасці і расклаўшы тут жа на зямлі газету з кількай, прагна каўтаць проста з таго ж слоіка гэта так званае піва. Вось дзе не начавала культура! І тут пачынаеш міжволі думаць пра марнасць працы нашага афіцыйнага культуртрэгерства, што акапаўся ў сценах клубаў і тэатраў. Мо трэба было пачынаць адсюль, фігуральна кажучы, з піўнога ларка? Мо не было б тады паміж бытавой культурай і культурай афіцыйнай дыстанцыі такога памеру?

Сапраўдная культура выхоўваецца з «младых ногтей» у сям'і, у школе. У нейкую хвіліну я пафантазіраваў: вось і Габернік, настаўнік, педагог па прафесіі, «перакінутая» на ніву культуры, пачне тут сеяць нешта новае, пазбаўленае абрыдлай казёншчыны. Я нават спытаў у Ларысы Паўлаўны, ці прынесла яна ў «культуру» нейкія свае задумкі, сваю канцэпцыю? «Вядома, — адказала жанчына, — трэба перш за ўсё ўзмацніць працоўную дысцыпліну сярод культработнікаў, паклапаціцца аб матэрыяльнай базе ўстаноў культуры, вядома ж, зрабіць больш разнастайным рэпертуар аматарскіх калектываў...»

Я ўздыхнуў і развітаўся з новай загадчыцай аддзела культуры. У галаву прыйшоў невясёлы каламбур: культура, аказваецца, падзяляецца на аддзелы...

З тым жа настроем выйшаў я пасля, у Мінску, і з кабінета майго даўняга знаёмага, начальніка абласнога ўпраўлення культуры Валерыя Карлавіча Гедройца. І хоць расказваў ён мне пра «новыя» формы работы — эстэтычны ўсенавуч, стварэнне «народнага дома» і «дома фальклору» ў Вілейскім і Мядзельскім раёнах (дарэчы, у вобласці «робяць» культуру 6893 штатныя супрацоўнікі), пра перайменаванне адзінага ў вобласці культасветвучылішча ў вучылішча мастацтва і культуры, было зразумела — усё гэта перапевы старой песні.

Дарэчы, вельмі ахвочы да розных новаўвядзенняў у галіне культуры быў Юрый Міхайлавіч Міхневіч. Помню, колькі шуму было ўзнята міністэрствам, колькі ім было праведзена нарад і семінараў з нагоды чарговага «вынаходніцтва» — стварэння культурных комплексаў, у якія павінны былі ўваходзіць, акрамя Дома культуры ці клуба, яшчэ і кінатэатр, фотаатэлье, цырульня, лазня і г. д. Як і трэба было чакаць, нічога з гэтага не атрымалася, лопнула, як мыльная бурбалка.

Вось такія думкі прыйшлі да мяне з нагоды камандзіроўкі ў Чэрвень.

Культура, культура...

**Міхась ЗАМСКІ.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# Патрабуецца міф

## Да стварэння канцэпцыі нацыянальнай гісторыі

Штуршком да з'яўлення гэтых нататак стала гутарка за «круглым сталом», прысвечаная праблемам гісторыі Беларусі і яе выкладання ў навучальных установах рэспублікі. Мерапрыемства правяла 22 сакавіка камісія БНФ «Адраджэнне» па культуры і гісторыі.

Прасядзеўшы за «круглым сталом» усе чатыры гадзіны, пакуль адбывалася размова, вынес перакананне ў неабходнасці такіх сустрэч і адначасова шкадаванне аб адсутнасці выпрацаванай праграмы працы. У ходзе гутаркі выказваліся думкі, якія, цалкам, магчыма, сальюцца ў праграму дзеяння, неабходную людзям, зацікаўленым лёсам Беларусі і беларускай гістарычнай навукі. Вось некаторыя з іх: першачарговая задача гісторыкаў — стварэнне нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі (М. Біч); звярнуць увагу на архівы, стварыць нацыянальны архіў (А. Трусаў); пытанні не будуць вырашаны, пакуль у нас не будзе нацыянальнага беларускага ўрада (В. Голубеў); неабходна стварэнне ваеннай гісторыі (Г. Сагановіч); на падрыхтоўку падручнікаў патрэбны дзяржаўны заказ (С. Тарасаў).

Гутарка пакуль скончылася зваротам да існуючай улады. Зварот адобрылі ўсе прысутныя, якія такім чынам сышліся на ўсведамленні рашаючага значэння дзяржавы ў развіцці гістарычнай навукі і адукацыі (па меншай меры ў нашых умовах).

Жыццё паказвае, што ў любой краіне канцэпцыя нацыянальнай гісторыі існуе ў дзвюх узаемазвязаных (але не тоесных) частках: 1-ая — акадэмічная фундаментальна-навуковая і 2-ая — папулярная, або, інакш кажучы, для масавага спажывання. Апошняя характарызуецца яснасцю, прастатой, лёгкасцю для ўспрымання, выразнай патрыятычнасцю. Менавіта на яе аснове будуецца сістэма агульнай гістарычнай адукацыі ва ўсіх яе звеннях, выхоўваецца масавая гістарычная свядомасць. Возьмем за прыклад Летуву. Падчас навучання ў маскоўскай аспірантуры часта даводзілася спрачацца на гістарычныя тэмы з летувісамі. Я звярнуў увагу на тое, што маімі апанентамі ніколі не станавіліся спецыялісты-гісторыкі. Спрачаліся, даказвалі вялікасць Летувы, заваёву беларускіх земляў фізікі, юрысты, біёлагі, гэта значыць людзі, што засвоілі папулярную канцэпцыю гісторыі Вялікага княства Літоўскага. Не адно пакаленне летувісаў выхавана на гэтым міфе, прычым даволі далёкім ад сапраўднага стану рэчаў. Затое жыццяздольнасць летувіскай нацыі сумненняў не выклікае, у адрозненне ад беларускай. Прыклад з Летувой прыведзены яшчэ і таму, каб паказаць, што і ва ўмовах падобных да нашых можна нешта рабіць. На Беларусі гісторыкі аказаліся не падрыхтаванымі да свабоды, яны, за выключэннем М. Ермаловіча, не пісалі «ў стол». Як вынік, мы да гэтага часу не здолелі падрыхтаваць нават школьны падручнік.

Пакінем пакуль убаку развагі аб «акадэмічнай» канцэпцыі, хоць яна з'яўляецца асновай для фармавання папулярнай. Стварэнне акадэмічнай канцэпцыі — даволі працяглы працэс, які з'яўляецца галоўным чынам справай саміх навукоўцаў, свабодных ад прамога ўмешвання дзяржавы. Гэтая тэма патрабуе асобнай сур'ёзнай гаворкі.

Важнейшая задача на сённяшні момант — стварэнне агульнай схемы папулярнага варыянта канцэпцыі нацыянальнай гісторыі і ўвядзенне яе ў дзеянне. Карацей кажучы, тэрмінова патрабуецца міф. Уяўляецца, што гэта можна зрабіць і ва ўмовах часовай адсутнасці сапраўды нацыянальнай дзяржавы.

Актыўную ролю ў распаўсюджванні гістарычных ведаў адыгрывае навукова-папулярная літаратура, гістарычная белетрыстыка, сродкі масавай інфармацыі, але бадай самае важнае значэнне мае сістэма адукацыі. Даволі доўга давядзецца працаваць з той сістэмай і з тымі педагагічнымі кадрамі, якія ёсць. Вялікая армія выкладчыкаў сярэдняй і вышэйшай школы ўкладвае зараз у галовы сваіх навучэнцаў, усё, акрамя нацыянальнай канцэпцыі гісторыі. Неабходна давесці да яе новую канцэпцыю, прычым у дырэктыўнай форме. Многія такой дырэктыве проста ўзрадуюцца, асабліва звыклыя былыя выкладчыкі гісторыі КПСС і «навуковага камунізму», якія засталіся без справы.

Калі разважаць над канкрэтным планам працы, то можна прапанаваць такі варыянт. Камісія БНФ па культуры і гісторыі, узяўшы ініцыятыву ў свае рукі, стварае калектыў гісторыкаў-прафесіяналаў, які за самы сціслы час выпускае метадычныя распрацоўкі па трох галоўных раздзелах: феадальны перыяд, Беларусь у складзе Расейскай імперыі, савецкі час. Для гэтага ёсць пэўная навуковая база. У прыватнасці, можна выкарыстаць распрацоўкі М. Ермаловіча па феадальнай гісторыі (згладзіўшы некаторыя рэзкасці і падмацаваўшы слабыя месцы), працы іншых беларускіх гісторыкаў, работы рускіх дарэвалюцыйных даследчыкаў і г. д. Затым для абкаткі новай канцэпцыі збіраецца канферэнцыя з шырокім удзелам спецыялістаў. Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны ўхваляе распрацоўкі і спускае ў Міністэрства народнай адукацыі. Апошняе дасылае матэрыялы на месцы як дырэктыўнае ўказанне, абавязковае для выканання ў выглядзе ратапрынтных выданняў, публікацый у «Настаўніцкай газеце» і да т. п. Усе названыя мерапрыемствы патрэбна правесці да пачатку новага навучальнага года.

Канешне, падобны сродак стварэння папулярнай канцэпцыі, ці міфа, з'яўляецца экстрэмальным. З цягам часу набярэ моц беларуская гістарычная навука, створыцца нармальная сістэма гістарычнай адукацыі, якую можна ўявіць сабе ў выглядзе дрэва з пышнай кронай і магутнымі каранямі ў жыватворным грунце гістарычнай навукі. Аднак чакаць лепшых часоў мы не можам па той простай прычыне, што гістарычная самасвядомасць беларусаў знаходзіцца ў самай цеснай сувязі з захаваннем і ўзмацненнем існуючай беларускай дзяржаўнасці.

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

г. Мінск.

ФЕСТЫВАЛІ

## «Я люблю балет»

І Міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва пад такой назвай адкрыўся ў Мінску 15 красавіка. Яго дэвіз, «Праз характво — да згоды», найлепшым чынам адпавядае зместу насычанай разнаітай праграмы. Сярод удзельнікаў канцэртаў абвешчаны «зоркі» балета ды нават цэлыя калектывы з Германіі, Канады, Італіі, Нідэрландаў, Польшчы, Чэха-Славакіі, Швейцарыі, Японіі. Для паказу фестывальных праграм запрошаны харэаграфічныя вучылішчы з Алма-Аты, Ашхабада, Баку, Вільнюса, Варонежа, Ерэвана, Кіева, Кішынёва, Масквы, Пярмі, Пецярбурга, Рыгі, Ташкента, Тбілісі... Запланаваны паказальныя ўрокі (беларускага танца — у ансамблі «Харошкі», сучаснага танца — са швейцарскім педагогам А. Бернарам і інш.), а таксама гутарка за «круглым сталом».

Ладзяць гэтае свята Дзяржаўнае харэаграфічнае вучылішча Беларусі, Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм, дабрачынны фонд «Дзецям Чарнобыля», сумеснае прадпрыемства «САБА». Спонсары — Міністэрства культуры Беларусі, Прыорбанк, Міжнародная дабрачынная карпарацыя «Універс інтэрнэйшнл» (Масква), шэраг беларускіх прадпрыемстваў. 21 красавіка ў ДАВТе—урачыстае закрыццё, узнагароджванне лаўрэатаў ды заключны канцэрт.

С. Б.

## «Вясна» пачалася прэм'ерай



Першы канцэрт «Мінскай вясны»: у зале людна, сцэна па-святочнаму прыбраная... А пачатак — мінорны: сімфанічная паэма У. Будніка «Сказ пра Палессе», якая гучала ўпершыню, аказалася не традыцыйна-звыклымі вясёлкавымі абразкамі вясковага жыцця, а драматычным аповядам пра лёс «малой радзімы» кампазітара. Тужлівы голас віяланчэлі, воклічы трубы на фоне растрывожаных струнных, пагрозлівыя выбухі літаўраў літаральна паглыналі пастаральныя найгрышы ды праменьчыкі празрыстай лірыкі. І апошні акорд твора — як бязлітасная чорная кропка. Такі вось «Сказ пра Палессе»... Але вечар працягваўся. Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам В. Дуброўскага, які з годнасцю прадставіў музычную прэм'еру, выканаў затым разам з маладым беларускім піяністам А. Сікорскім (лаўрэат І прэміі леташняга Міжнароднага конкурсу імя Віёці ў Італіі) Трэці канцэрт С. Рахманінава. У другім аддзяленні гучала вечная музыка Шостай сімфоніі П. Чайкоўскага.

С. ВЕТКА.

Фота У. ПАНАДЫ.

## Непахісная Сафійка

Пяты год запар яна прымае ў сваёй унікальнай зале ўдзельнікаў Полацкага фестывалю старадаўняй і сучаснай камернай музыкі. Нягледзячы на смутны час, у Сафійскім саборы зноў выступяць «зоркі» сусветнай велічыні: Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам В. Палянскага, Ансамбль салістаў Вялікага тэатра, арганіст і кампазітар А. Янчанка, спявачкі сёстры Лісіцыян, вядучыя беларускія выканаўцы — ансамблі «Кантабіле» ды «Класік-Авангард» (з цудоўнай літоўскай вакалісткай Ю. Лейтайтэ), маладыя харавы калектыў «Унія» і інш. Першы канцэрт—сёння.

НАШЫ ГОСЦІ

## Шахцёры дапамаглі...

...І выхаванцы 1-ай музычнай школы Кемерава змаглі прыехаць у Мінск. Іхні канцэрт у Музычным ліцэі пры БДК уразіў дасведчаных слухачоў: харавы ансамбль, камерны аркестр, ансамбль скрыпачоў паказалі добрую вывучку, тонкі густ, нядрэнную ансамблевую ігру. Не кожная школа беларускай сталіцы мае такія ўмовы для заняткаў, якія маюць юныя музыканты з Кемерава, дзе гарадская ўлада аддала гэтай школе былы будынак гаркома партыі. Ці не прыклад для нашых дэпутатаў, якія клапоцяцца пра дзяльбу кабінетаў больш, чым пра будучыню культуры рэспублікі?.. На сустрэчы беларускіх дзяцей з іх сібірскімі гасцямі выступілі мастацкі кіраўнік дзіцячай філармоніі, што існуе пры кемераўскай школе, В. Радзіёнава і дырэктар школы Р. Арыкаў.

А. МІЛЬТО.

ТЭАТР

## Прысуджана, нададзена, уручана...

10 красавіка на пасяджэнні камісіі, якая збіраецца раз на тры гады, прысуджаны прэміі Міністэрства культуры і Саюза тэатральных дзеячаў Рэспублікі Беларусь у галіне тэатральнага мастацтва. Прэмія імя Л. Александроўскай будзе ўручана народнай артыстцы Беларусі Н. Гайдзе за выкананне ролі Джуліі ў аднайменнай пастаноўцы Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Прэмія імя І. Буйніцкага — народнаму артысту СССР Р. Янкоўскаму за ролю Швітэра ў спектаклі «Метэор» і Пятра І у спектаклі «Хрыстос і Антыхрыст» у Рускім тэатры Беларусі. У галіне сцэнаграфіі прэмію імя Е. Міровіча атрымаў заслужаны дзеяч мастацтваў Б. Герлаван за афармленне спектакляў «Страсці па Аўдзею» і «Тутэйшыя» ў Акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Прэмія імя Л. Мазалеўскай прыпала на творчую групу ў складзе рэжысёра А. Ляляўскага, мастака А. Фаміной і кампазітара У. Кандрусевіча за пастаноўку «Сымона-музыкі» ў Дзяржаўным тэатры лялек Беларусі. Прэмія ў галіне тэатразнаўства імя К. Крапівы ўручана доктару мастацтвазнаўства У. Няфёду за кнігі «Мікалай Кавязін. Жыццё і творчасць» і «Ігнат Буйніцкі — бацька беларускага тэатра».

Л. КУЗЬМІНА.

ЛІТКУР'ЕР

## Юбілей «Мастацкай літаратуры»

Грамадскасць сталіцы адзначыла 20-годдзе выдавецтва «Мастацкая літаратура». Вечар прайшоў у памяшканні тэатра імя Я. Купалы. Са словамі прывітання да калектыву звярнуліся міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь А. Бутэвіч, народны пісьменнік Беларусі В. Быкаў, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Паўлаў, А. Лойка, П. Місько, дырэктар выдавецтва «Беларусь» В. Дубоўскі, генеральны дырэктар Мінскага вытворчага паліграфічнага аб'яднання імя Я. Коласа В. Германаў.

Пра сённяшнія выдавецкія справы расказаў дырэктар «Мастацкай літаратуры» В. Грышановіч.

На вечары былі названы лаўрэаты прэмій, устаноўленых «Мастацкай літаратурай»: імя Уладзіміра Караткевіча — М. Ермаловіч, імя Максіма Гарэцкага — М. Хаўстовіч перакладчык «Шляхціца Завальні» Я. Баршчэўскага; імя Максіма Багдановіча — П. Вераб'ёў.

У святочным канцэрце гучалі творы беларускіх пісьменнікаў, быў паказаны ўрывак са спектакля «Тутэйшыя».

П. ГАРДЗІЕНКА.

●

Сумесна з рэспубліканскай аптова-рознічнай фірмай кніжнага гандлю «Белкніга» да юбілею выдавецтва праведзены рэспубліканскі конкурс на лепшага прадаўца беларускай кнігі. Яго пераможцамі сталі Я. Макарэвіч (г. Баранавічы), А. Шаток (г. Гомель), Г. Станевіч (г. Ліда), Р. Афанасьева (г. Віцебск), І. Мамолава (г. Магілёў), А. Чарняўская і І. Крэсік (г. Мінск).

М. КОТАЎ,
рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».

## З новымі сіламі

У Доме літаратара 6 красавіка адбыўся сход празаікаў. На ім абрана новае бюро секцыі прозы, у якое ўвайшлі А. Жук, У. Рубанаў, А. Ждан, С. Зайцаў, А. Асіпенка, А. Сульянаў, А. Казлоў, П. Місько, Я. Пархута, А. Федарэнка.

Старшынёю секцыі выбраны Алесь Жук, намеснікамі — Павел Місько і Анатоль Сульянаў, сакратаром — Андрэй Федарэнка.

На чарговым пасяджэнні секцыі прозы вырашана абмеркаваць першыя кнігі маладых празаікаў.

А. Ф.

## Смех — не грэх

На вечары «Свята гумару», што адбыўся ў Доме літаратара, прысутных «смяшылі» І. Васілеўскі, Г. Юрчанка, П. Сушко, Р. Яўсееў, І. Курбека. Гучалі вершы, эпіграмы, пародыі — тое, што хоць неяк дапамагае ў наш тлумны час пазбавіцца змрочнага настрою.

П. ГАРДЗІЕНКА.

ФІЛАТЭЛІЯ

## За першай — наступныя

У мінулым нумары «ЛіМа» мы паведамлялі аб выпуску першай паштовай маркі Рэспублікі Беларусь. У пятніцу ж, 10 красавіка, у аперацыйнай зале Мінскага галоўпаштамта праводзілася гашэнне другой беларускай маркі. Яна прысвечана Рыгору Раманавічу Шырме.

Як стала вядома, выдавецкі цэнтр «Расія» Міністэрства сувязі Расійскай Федэрацыі завяршае работу па выпуску яшчэ дзвюх беларускіх марак — «Герб Рэспублікі Беларусь» і «Сцяг Рэспублікі Беларусь». Мяркуецца сёлета выпусціць і марку «Старажытны герб Полацка», якой распачнецца серыя «Геральдыка гарадоў Беларусі». У верасні паўторна выйдзе першая марка «Крыж Ефрасінні Полацкай», праўда, на ёй з'явяцца словы: «1000-годдзе Беларускай праваслаўнай царквы».

УВАГА: КОНКУРС!

## «Небяспека — СНІД»

Міністэрства культуры, Міністэрства аховы здароўя, Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь абвяшчаюць адкрыты рэспубліканскі конкурс на стварэнне лепшага твора плакатнага мастацтва пад дэвізам «Небяспека — СНІД».

Галоўнай мэтай конкурсу з'яўляецца адлюстраванне сродкамі плаката глабальнай небяспекі СНІДу, цяжкага інфекцыйнага захворвання, з якім змагаецца чалавецтва.

Конкурс праводзіцца ў тэрмін з 10 сакавіка па 10 мая 1992 г. Удзельнікі конкурсу ў вызначаны тэрмін падаюць свае матэрыялы журы на адрас: г. Мінск, вул. Казлова, 3, Палац мастацтваў.

Арыгіналы плаката павінны быць наклеены на кардон, памерамі 60×90, 70×108, выкананы мастаком у тэхніцы, прымальнай аўтару (гуаш, тэмпера, фотамантаж).

Па тэхналагічных якасцях работа павінна адпавядаць умовам друку: без склеек, трэшчын, перагібаў.

Фотаплакаты прадстаўляюцца ў адрэтушаваным выглядзе.

На адваротным баку плакат пазначаецца дэвізам з шасцізначнай лічбы (вышыня знакаў — 1 см). Пад гэтым жа дэвізам прадстаўляецца запячатаны канверт, у якім павінны знаходзіцца звесткі пра аўтара і яго адрас.

Арыгіналы плаката, прадстаўленыя на конкурс, якія не адпавядаюць умовам конкурсу, журы не разглядае.

За адносна лепшыя плакаты ўстанаўліваюцца тры прэміі: адна першая — 4000 рублёў, адна другая — 3000 рублёў, адна трэцяя — 2000 рублёў.

МУЗЫКА

## Вынікі — бліскучыя!



Салісты беларускага балета К. Фурман ды В. Захараў.

«У мастацтве адбываюцца цяпер інтэграцыйныя еўрапейскія працэсы», — так ацаніў сённяшнюю сітуацыю галоўны балетмайстар ДАВТа Беларусі Валянцін Елізар'еў, вярнуўшыся нядаўна з Масквы, дзе праходзіў Першы незалежны міжнародны конкурс артыстаў балета імя С. Дзягілева. Ён быў арганізаваны «Дзягілеў-цэнтрам». Усё на конкурсе здавалася нязвыклым: і тое, што ён праводзіўся на сродкі прыватных асоб, і рэклама Расійскай таварна-сыравіннай біржы — генеральнага спонсара конкурсу, якая прамільгнула на ўсіх праграмах, буклетах і афішах; і, нарэшце, імянныя прэміі з салідными грашовымі прызамі. Няйначай, расійскія бізнесмены вырашылі адрадзіць былыя традыцыі мецэнацтва і не пашкадавалі грошай, каб стварыць свята сапраўднага мастацтва. 10 конкурсных дзён абышліся ў 10 мільёнаў рублёў. А свята сапраўды адбылося. На конкурс з'ехаліся прадстаўнікі СНД, Прыбалтыкі, Германіі, Іспаніі, Японіі, Вялікабрытаніі і іншых краін. У аснове конкурсных выступленняў былі творы з рэпертуару Дзягілеўскіх сезонаў.

«Узровень майстэрства ўдзельнікаў быў вельмі высокі, а таму і конкурсная барацьба атрымалася даволі жорсткай, — адзначыў В. Елізар'еў, які прадстаўляў нашу рэспубліку ў журы. — Першы тур праводзіўся па прысланых загадзя відэакасетах, без указання прозвішчаў канкурсантаў. Ужо адзін гэты факт сведчыць пра вялікую аб'ектыўнасць вынікаў. А яны для нас бліскучыя: усе шэсць прадстаўнікоў Беларусі сталі прызёрамі конкурсу. У старэйшай узроставай групе Веніямін Захараў удастоены прэміі імя С. Ліфара, Кацярына Фурман — прэміі імя І. Рубінштэйн. Навучэнцы Беларускага харэаграфічнага вучылішча Андрэй Мартынаў і Руслан Мінін сталі дыпламантамі конкурсу; Ірына Цымбал і Юлія Мітрафанава атрымалі стыпендыю імя С. Дзягілева. Адзначана і майстэрства нашых педагогаў. Заслужаная артыстка Беларусі Т. Яршова, якая рыхтавала К. Фурман і В. Захарава да конкурсу, удастоена дыплома лепшага педагога.

Гэтыя перамогі сцвярджаюць беларускае мастацтва на міжнародным узроўні. Нам жа яны дазваляюць спадзявацца на тое, што ў нашых бізнесменаў таксама калі-небудзь прачнецца жаданне падтрымліваць лепшыя творчыя калектывы.

Т. ВАЛАЧКОВІЧ.

ІНІЦЫЯТЫВА

## З фонду Міністэрства культуры

Для падтрымкі творчых ініцыятыў па рабоце з інвалідамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь устанавіла штогадовую прэмію — за падтрымку творчасці інвалідаў і стварэнне ўмоў для іх адпачынку. Уладальніку прэміі пералічваюцца грашовыя сродкі ў памеры 20 тыс. рублёў і ўручаецца спецыяльны дыплом. Сродкі прэміі выкарыстоўваюцца для заахвочвання асоб, якія правялі адметную работу па развіцці творчасці інвалідаў і арганізацыі іх плённага адпачынку. Пералічваюцца сродкі з фонду развіцця культуры і мастацтва МК Беларусі. Прэмія ўстаноўлена з мэтай зацікавіць розныя ўстановы, арганізацыі, прадпрыемствы і асобных грамадзян у грунтоўнай і сістэматычнай рабоце з інвалідамі. Маецца на ўвазе, прынамсі, забеспячэнне інвалідам аднолькавага з усімі карыстання аб'ектамі культуры, стварэнне сістэмы спецыяльных культурных паслуг, вылучэнне творчага патэнцыялу і развіццё самадзейнай творчасці інвалідаў, стварэнне спецыяльных праграм па эстэтычным выхаванні і інш.

Вылучэнне кандыдатаў на прэмію адбываецца па прадстаўленні з месц у абласныя і Мінскую гарадскую камісіі. Тэлефон для даведак: 29-67-89.

РЭПЛІКА

## Галубовіч і Супрун без... Чыгрынава

У адным з апошніх нумароў (за 4 красавіка) «Настаўніцкая газета» апублікавала праект Праграмы ўступных экзаменаў па беларускай літаратуры для паступаючых у ВНУ Рэспублікі Беларусь у 1992 годзе, распрацаваны дацэнтам Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага Аляксеем Рагулем. Хоць і падкрэсліваецца, што яна носіць рэкамендацыйны характар, а заўвагі і прапановы можна накіроўваць на адрас Міністэрства народнай адукацыі, аказваецца, праект праграмы ўжо абмяркоўваўся на секцыі выкладчыкаў беларускай літаратуры вышэйшых і сярэдніх спецыяльных педагагічных устаноў рэспублікі, дзе ён быў у цэлым ухвалены і адзначаны «як арыенцір на будучыню, які дапаможа выпускнікам сярэдніх школ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, усім абітурыентам авалодаць багаццямі беларускай літаратуры, якая павінна стаць асноўнай крыніцай самапазнання і развіцця нацыянальнай самасвядомасці народа».

Канечне, зарыентавацца загадзя няблага, каб жа толькі ў час гэтай самай арыентацыі нешта істотнае не прапусціць! А што небяспека такая ёсць, бачна адразу. Скажам, у праекце праграмы зусім не згадваецца творчасць Івана Чыгрынава (калі вядома не прымаць пад увагу, што часта стаіць пасля пераліку традыцыйнае і «інш.»). Затое школьнікі павінны ведаць, скажам, кнігу Леаніда Галубовіча «Споведзь бяссоннай душы» і творчасць Васіля Супруна. Нічога не маю супраць гэтых і іншых аўтараў, але... «Платон мне сябра, ды ісціна даражэй».

А. М.



Сустрэча ў рэдакцыі газеты «Ніва».

## Як беларусы зайцоў ловяць

Сама што прывыклі да гасціннай Гайнаўкі, але час імчыць і трэба заўтра ў Беласток на вечар Максіма Багдановіча, які ладзіўся ў будынку БГКТ. Надвячоркам да нас прыйшоў Кастусь Майсеня — прывабны, свойскі чалавек, каб раскязаць, як дабрацца нам да Бандароў і развітацца з намі, бо раніцаю ён мусіць ехаць паляваць на зайцоў. Не са стрэльбаю. Зайцы жывымі паедуць у Францыю. Пачаставаліся і развіталіся. Але раніцаю Майсеня нечакана пазваніў і паведаміў, што адмяніў паляванне і паедзе з намі ў Бандары, а калі мы не супраць, то пакажа нам краявіды прыпушчанскіх беларускіх вёсак. Якое супраць? — вялікі дзякуй! Падарожжа наша паказала, што ён не проста ведае гэтыя вёскі, але і клапоціцца пра дабрабыт і культуру іх насельнікаў не на словах, а на справе. Да прыкладу, ён пабудаваў сто грамадскіх крамаў, а цяпер будуе Гайнаўскі беларускі музей. Яго хвалюе дабрабыт гэтага краю. На штучным вадасховішчы, якое праглынула аж пяць беларускіх вёсак (палітыка па сціранні беларускасці ў дзеянні), знайшоў і ўпарадкаваў мясцінку для рыбакоў. Але найбольш здзівіў, калі нечакана мы апынуліся на тым самым загадкавым заечым паляванні, ад якога ён раніцай адмовіўся. Нам неяк было ніякавата, што дзеля нас чалавек ахвяраваўся такой радасцю, а выявілася, што ён вырашыў гэтую радасць падарыць і нам. Зноў яму вялікі дзякуй!



Мастачка Тамара ТАРАСЕВІЧ.

Паляванне — відовішча надзвычайнае: вопытныя знаўцы кіруюць расстаноўкай сетак у патрэбных месцах, а загоншчыкі — чалавек 40—50, найбольш падлеткі і хлопцы і дзяўчаткі, азартна выконвалі сваю работу. Расцягнуўшыся ланцугом па полі, стараліся шумнуць гэтак, каб і мёртвы б заяц даваў лататы. К нашаму прыезду былі ўжо касавокія трафеі. На прывітанне прафесара Сабалеўскага, можна сказаць, каралеўскі шарак гэтак зычна закугакаў, што аж сэрца разрывалася. Нам сказалі, што на гэтых прасторах са стрэльбаю не палююць, адно толькі сеткамі ловяць. Бывала, што 30 і больш зайцоў трапляла, але гэта раней было. На жаль, як і ўсюды цяпер. Прыемна і радасна было пабываць у беларускамоўным асяроддзі паляўнічых і загоншчыкаў, пачаставацца жытнёўкай хатняй вытворчасці. Але паперадзе — Бандары, тыя самыя Бандары, якія далі не толькі Беласточчыне, а і вялікаму свету такіх людзей, як Алесь Барскі (Баршчэўскі) — паэт, прафесар, грамадскі дзеяч і наш знакаміты літаратар Уладзімір Казбярук.



Белая Вежа.

Дворышча Баршчэўскіх — дворышча натуральнай гаспадаркі. А менавіта гэта адзін з асноўных паэтычных матываў Алеся. Дворышча прасторнае, з немалой хатай і гэткімі ж гаспадарчымі пабудовамі, з гусямі, курамі, вераб'ямі і залівістым брахуном, маўляў, слухай, гаспадыня, не дарма корміш. Сустрэла нас добразычліва меншая з сясцёр Алеся Надзея — цяперашняя гаспадыня падворка. Сціплая беларуская жанчына. Ужо на сёмым дзесятку, а яшчэ працаўніца. Па ўсім відно, што выводзілася з дужага і працавітага роду Баршчэўскіх.

## Вечар Максіма Багдановіча

пачаўся ўрачыста ў будынку праўлення БГКТ. Нават з ганаровым прэзідыумам. Пра Максіма Багдановіча прыгожа і пранікнёна сказаў слова Алесь Барскі. А ў канцы прачытаў верш, які напісаў да яго юбілею.

А пасля... І хто толькі пасылае на такія вось мерапрыемствы з Гарадзенскага універсітэта падобныя калектывы? Рускамоўныя, з нейкім танным анекдатычным матэрыяльчыкам. Нам было сорамна, бо ведаем шмат добрых аматарскіх гуртоў, у тым ліку на Гарадзеншчыне, якія б там выступілі належным чынам. Відаць, спрацавала дзяляцтва.

Пасля была дзелавая сустрэча ў Алеся Барскага ў Варшаве (пра яго рыхтуецца артыкул адным з членаў ЧТК). А праз колькі гадзін — дарога ў Менск.

**Уладзімір МАМОНЬКА,**
**Яўген АДАМОВІЧ.**



Такіх зайцоў ловяць на Беласточчыне.

Фота Ул. КРУКА.

# Зямля чакае гаспадара

(Пачатак на стар. 3).

нага дэпутата рэспублікі, члена парламенцкай апазіцыі Л. Зданевіча. Галоўную прычыну вельмі малой эфектыўнасці гэтых законаў ён бачыць у адсутнасці адпаведнага механізму іх ажыццяўлення. «Механізм гэты,—падкрэсліў прамоўца, — павінен быў быць закладзены ў саміх законах. Так робіцца ва ўсіх цывілізаваных краінах». Прамоўца давёў, што ў Вярхоўным Савеце існуюць сілы, якія ўсяляк супраціўляюцца ўстанаўленню менавіта такіх механізмаў. Аграрнае лобі, што складаецца з дэпутатаў — старшынь калгасаў і дырэктараў саўгасаў, былой партыйнай наменклатуры, робіць усё, каб імем вышэйшага органа дзяржаўнай улады пакінуць у вёсцы ўсё без змен. А калі яны, улічваючы час, усё-такі гавораць пра новыя формы гаспадарання, тое ж фермерства, дык хутчэй для адводу вачэй, каб замаскіраваць свае сапраўдныя планы і мэты. Невыпадкова Зямельны кодэкс, прыняты Вярхоўным Саветам, прадугледжвае калектыўную ўласнасць на зямлю.

Л. Зданевіч крытыкаваў прыхільнікаў ідэі выдачы калгаснікам зямельных паёў, бо гэта, па сутнасці, мала што зменіць у калектыўнай форме гаспадарання. Ідэя гэтая мае далёкі прыцэл — затрымаць селяніна ў рамках калгаса. І яшчэ — узброіць яго псіхалагічна супраць фермераў, якія, маўляў, хочуць спакусіцца на ягоную зямлю. Зямля, наогул, павінна быць у свабодным продажы. І яе павінен мець права купіць і вясковец і гараджанін. Спекуляцыю ж зямлёй можна прадухіліць шэрагам спецыяльных заканадаўчых актаў.

Дарэчы, спрэчкі пра гэта працягваліся і ў час перапынку. У зале збіраліся групы дэлегатаў, адкуль чуліся гучныя эмацыянальныя воклічы. У адной з іх немалады каржакаваты мужчына з чырвоным ад веснавога загару тварам, размахваючы рукамі, даводзіў, што пятнаццаць, дваццаць, нават пяцьдзесят гектараў зямлі не дадуць фермеру як след разгарнуцца. Трэба мець не менш трохсот гектараў, каб увесці севазварот, а толькі ў такім выпадку можна разлічваць на высокія ўраджаі, а значыць, на таварную вытворчасць сельгаспрадукцыі. З ім пагаджаюцца, што фермер, ці той жа арандатар на 15—20 гектарах вымушаны займацца вырошчваннем монакультуры, што вядзе, акрамя ўсяго іншага, да выраджэння зямлі.

У другой групе мне давялося пачуць спрэчку па больш глабальных пытаннях: прадаваць ці не прадаваць зямлю грамадзянам замежных краін. Меліся на ўвазе краіны, вядома, заходнія, капіталістычныя (учарашнія сёстры-рэспублікі як замежныя дзяржавы псіхалагічна пакуль што большасцю людзей не ўспрымаюцца). «Распродавать родину не позволим!» — даводзіў адзін. «Сам не гам, і другому не дам?» — парыраваў яму другі, тлумачачы, што замежныя інвестыцыі ў тую ж зямлю нічога, акрамя карысці, не прынясуць. Узровень сельскагаспадарчай вытворчасці ў заходніх краінах на некалькі парадкаў вышэйшы за наш, і іх вопыт, іхняя тэхналогія, якія б яны перанеслі на нашу глебу, далі б вялікі плён. «Усё роўна нельга іх сюды пускаць, — стаяў на сваім першы, — а па вопыт можна ездзіць за мяжу». «Ездзіць, ездзіць начальства за мяжу па вопыт, — з'едліва ўстаўляе нехта, — дзесяцігоддзямі ездзіць. За нашы кроўныя. Ды з чым туды прыязджае, з тым і вяртаецца. Калі не лічыць трантаў, якія яно адтуль прывозіць»...

З кожнай гадзінай з'езд набіраў абароты. Здаецца, не засталося ніводнай праблемы ў жыцці нашай шматпакутнай вёскі, якую б не закранулі ў сваіх выступленнях дэлегаты.

Асаблівае ўражанне пакінула прамова намесніка старшыні БСП, членкора АН Беларусі І. Нікітчанкі, які заклікаў з'езд даць палітычную ацэнку сітуацыі, што сёння склалася ў вёсцы. Ён намаляваў дужа змрочную карціну стану сельскагаспадарчай вытворчасці ў рэспубліцы. Рэзка ўпала яе прадуктыўнасць. У мінулым годзе ў параўнанні з пазамінулым недабрана 23 працэнты малака і 18 працэнтаў мяса. Сёлетні год пагражае яшчэ большымі стратамі. Па прагнозах прамоўцы, к канцу года ўдвая скароціцца спажыванне мяса (57 кг супраць 115 на душу насельніцтва ў 1991 г.).

Усё гэта вынік глыбокага крызісу, які выспяваў у калгасна-саўгаснай сістэме дзесяцігоддзямі. Выйсце адно — не марудзячы, праводзіць у жыццё зямельную рэформу, ліквідаваць усе перашкоды на шляху прыватызацыі зямлі, сялянскай партыі выяўляць усе выпадкі сабатажу ў арганізацыі фермерства. «Трэба даваць рашучы адпор тым, хто спрабуе ўскласці віну за палітычны і эканамічны крызіс на быццам бы дэмакратычную ўладу ў рэспубліцы, сказаў прамоўца. — Але ўлада і сёння, фактычна, знаходзіцца ў руках тых, хто валодаў ёю ў гады таталітарнага рэжыму. Амаль усе кіраўнікі Саўміна ў свой час прайшлі школу ЦК КПБ і жывуць ідэямі тых шчаслівых для сябе часоў. Камуністамі без партбілетаў з'яўляецца большасць кіраўнікоў абласнога і раённага ўзроўняў. З імі дэмакратычнага грамадства нам ніколі не пабудаваць»...

З'езд разгледзеў і прыняў аднаўленую праграму Беларускай сялянскай партыі, унёс змены ў яе статут, выбраў кіруючыя органы. Старшынёй рады БСП зноў абраны Я. Лугін.

**М. ЗАМСКІ.**



Супрацоўнікі часопіса «Маладосць» выказваюць глыбокае спачуванне загадчыку аддзела мастацкага афармлення Віктару Казлову з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Галіне ВАСЮКОВАЙ з прычыны напаткаўшага яе гора—смерці брата.

# КАЛІ РЭАЛЬНАСЦЬ — ФАНТАСТЫКА, ЧЫТАЙЦЕ «ФАНТАКРЫМ»...

Што такое фантастыка? На маю думку, гэта, па-першае,— частка літаратуры і даволі вялікая. Амаль у кожным жанры ёсць фантастычныя творы, нават у паэзіі. «Тятя, тятя, наши сети притащили мертвеца»,— што гэта, калі не фантастыка?

Як і ўсякая літаратура, фантастыка выконвае сацыяльную ролю. Яна можа быць прадбачаннем, прагнозам альбо перасцярогай. Яна дапамагае адаптавацца да непазбежнай і малазразумелай будучыні. Бо фантастыка, па вельмі дакладным азначэнні Вячаслава Рыбакова, «гэта адзін з найбольш інтэлектуальных і бударажачых як уяўленне, так і пачуццё адказнасці станаў літаратуры...»

Яна стварае не толькі тэхнакратычныя і сацыяльныя, але таксама і псіхалагічныя мадэлі будучыні і сучаснасці. Яна пашырае нашы ўяўленні аб сусвеце і ўласнай душы. Вялікія пісьменнікі-псіхолагі, гэткія, як Гогаль і Дастаеўскі, пераходзілі ў яе вобласць, паказваючы душэўныя таямніцы і бездані.

Фантастыка — гэта адзін з элементаў агульнай культурнай карціны. У нашым грамадстве — гэта частка культуры, якая развівалася ў абставінах таталітарызму. Як і любая літаратура, фантастыка пераносіла ўплыў, уціск, дэфармацыю з боку дзяржавы. Ідэалагізацыя сюжэтаў, звужэнне тэм да разраду чыста тэхнакратычных, альбо чыста прыгодніцкіх, няспынны нагляд цэнзуры прывялі да зніжэння ўзроўню масавай фантастыкі і да яе адставання ад фантастыкі сусветнай. На шчасце, заставаліся вяршыні, такія, як, напрыклад, браты Стругацкія.

Любая **сумленная** літаратура была небяспечнай і нежаданай дзеля ўлады. Яна паказвала грамадству люстэрка, у якім з максімальнай нагляднасцю было бачна, што колькі не называйся развітым ды сацыялістычным, а «рожа крива». Сацыяльная фантастыка была небяспечнай удвая, бо яна мела максімальную свабоду ў выбары сюжэтаў, свабоду, не скаваную межамі часу і верагоднасці.

Кухаркі, якія кіравалі нашай дзяржавай, хацелі мець даступную ім літаратуру.

Калі брыгадзір Вася любіць даярку Маню,— тут няма пытанняў, гэта рэалізм. А калі ў дадатак і Маня кахае Васю — гэта сацыялістычны рэалізм. Таму што жыццесцвярджальна! А калі фантаст піша аб панаванні рэптылій, то каго ён мае на ўвазе? А што, калі вышэйшае партыйнае кіраўніцтва?

Фантасты пішуць аб невідочным, не карэлюемым са звычайнасцю: аб зорках, аб паралельных светах. Альбо, пад выглядам паралельных,— аб свеце нашым.

Былі фантасты, якія **выконвалі** сацыяльны заказ улады, атрымлівалі зялёнае святло. І па старонках савецкіх утопій разгульвалі бадзёрыя касманаўты, акадэмікі і калгаснікі з ружовымі шчокамі. Фантасты, ангажыраваныя ўладай, малявалі мадэлі камуністычнага раю, але гэта былі расфарбаваныя муляжы, накшталт фанерных самалётаў. Аднак жа цяжкасці нагляду — не самая галоўная прычына ганенняў, Была прычына больш важная і глыбокая. Тое, што з сучаснасцю не ўсё добра, мы і так кожны дзень назіралі, ходзячы ў краму, але ж будучыня заставалася для многіх, як жонка Цэзара, па-за падазрэннямі.

Не думаю, што толькі з дапамогай бізуна магчыма было мільёны людзей прымусіць дзесяцігоддзямі, праз сілу, не шкадуючы сябе, рабіць абсалютна бяссэнсавую працу. Неабходны быў пернік на гарызонце. Там павінна была «маячыць» «светлая будучыня». Успомнім Маякоўскага: «Под старою телегою рабочие лежат...» І абыходзіцца без нараканняў. А чаму? Таму што «через четыре года здесь будет город-сад». А інакш бы, магчыма, пачалі наракаць — чаму гэта мы пад калёсамі, чаму не ў катэджах жывём?..

Паколькі утопія была ідэалагічным забеспячэннем сістэмы, правадыры разумелі, што ёю ніяк нельга рызыкаваць. Адсюль імкненне забараніць усякую фантастыку, акрамя ідэалагічна «празрыстай». Наша краіна дала багацейшы матэрыял для антыутопій, але друкаваліся яны за мяжой. На шчасце, фантастыка захавала нейкі выхад да чытачоў: дзейнічаў самвыд, клубы фантастаў, выдаваліся аматарскія часопісы і распаўсюджваліся на ксераксе замежныя выданні.

Усё гэта дазволіла вырасці новаму пакаленню фантастаў, свабодных ад ідэалагічных догм і падпарадкавання сістэме.

І вось падаспела «перабудова», а з ёй адносная свабода выдавацца і выдаваць. Цэнзурныя сківіцы расшчапіліся, і фантасты ў розных гарадах і рэспубліках пачалі марыць аб выданні прафесійных часопісаў. У Маскве і Ленінградзе нават называліся тэрміны выхаду першых нумароў. І нарэшце, такі часопіс з'явіўся. У снежні мінулага года ў Мінску ЛВА «Эрыдан» выпусціла **першы** ў цяпер ужо былым Саюзе літаратурна-мастацкі і публіцыстычны часопіс фантастыкі «Фантакрым МЕГА».

За кароткі час мінчанам удалося стварыць складанае па кампазіцыі і па ўзроўні паліграфіі, вельмі добра афармленае выданне. Афармленнем «Фантакрыма» кіруюць беларускія мастакі Канстанцін Вашчанка і Валерый Рулькоў, якія залучылі для работы ў часопісе даволі моцныя мастацкія сілы. Замежныя выдаўцы, якія прысутнічалі на прэзентацыі «Фантакрыма», адзначылі, што ягонае афармленне адпавядае добраму еўрапейскаму ўзроўню. Часопіс выходзіць тыражом 100 тысяч экземпляраў. Ён стаў падпісным выданнем з перыядычнасцю раз у два месяцы.

Безумоўна, у з'яўленні «Фантакрыма» вялікая заслуга выдаўцоў, якія паспяхова вырашылі вельмі складаныя ў нашай разбуранай краіне праблемы з паперай, друкарняй і рэалізацыяй.

Трэба адзначыць, што ў асяроддзі маскоўскіх і ленінградскіх фантастаў сустрэлі часопіс даволі раўніва. Урэшце, іх можна зразумець, бо не вельмі прыемна і нават трохі крыўдна, калі нейкі правінцыйны з іх пункту гледжання Менск першым перасек фінішную рысу. Але, будучы аб'ектыўным, нельга не прызнаць, што часопіс з'явіўся невыпадкова і не на пустым месцы. Некалькі год існавала старонка фантастыкі ў газеце «Знамя юности». Перыядычна выходзілі спецыялізаваныя, прысвечаныя фантастыцы нумары часопіса «Парус». А галоўнае, на Беларусі вырасла цэлая плеяда фантастаў, творы якіх шырока і з цікавасцю чытаюцца і дастаткова высока цэняцца на міжрэспубліканскім рынку. Беларуская школа шырока прадстаўлена ў часопісе, але не па прычыне рэгіянальнай арыентацыі, а дзякуючы высокаму літаратурнаму ўзроўню твораў.

Літаратурная частка часопіса мае шырокі спектр. Гэта і вядомыя пісьменнікі, якія ўжо звярнулі на часопіс увагу, і цікавыя дэбютанты. Шырока друкуюцца пераклады замежных класікаў і «зорак». Прычым, яны атрыманы легальна, а не гэткім звыклым для нас пірацкім шляхам. Часопіс мае кантакты з замежнымі аўтарамі і іх літаратурнымі агентамі, што дазваляе публікаваць дастаткова новыя творы, напісаныя ў 87—90-х гадах, атрымаўшы аўтарскую згоду. Так, напрыклад, у першым нумары за 1992 год будзе надрукавана апавяданне Тэры Бісона «Мядзведзі адкрываюць агонь», якое ў 1991 г. атрымала дзве вельмі прэстыжныя міжнародныя прэміі «Старджона» і «Хьюга».

Першыя нумары часопіса болей нагадвалі літаратурны альманах з невялікай нелітаратурнай часткай. Але рэдкалегія разумее, што чытачу цікавыя не толькі літаратурныя творы, але і «калялітаратурнае», «каляфантастычнае» асяроддзе. Яму цікавыя меркаванні крытыкаў аб тым ці іншым творы, і таксама неабыякава, што думаюць пісьменнікі наконт той ці іншай з'явы.

У часопісе фарміруецца крытыка-публіцыстычны раздзел, з'яўляюцца пісьменніцкія інтэрв'ю. У рубрыцы «Кінатаўр» расказваецца аб цікавых з'явах у фантастычным кінематографе. Рубрыка «Зорны атлас» знаёміць чытачоў з зоркамі фантастыкі, іх жыццём і творчасцю, «Фантыкі» — з новымі творамі.

Рэдакцыя мае намер трымаць чытача ў курсе новых напрамкаў фантастыкі і знаёміць з яе гісторыяй. Плануецца з'яўленне крытычных артыкулаў і рэцэнзій. Урэшце, аб планах часопіса я вырашыла пагаварыць з яго галоўным рэдактарам Яфімам Леанідавічам Шурам. І высветлілася шмат чаго цікавага. Рэдакцыя лічыць сваёй галоўнай мэтай — **фарміраваць** фантастыку як напрамак літаратуры. Прасачыць сувязь фантастыкі з навукай, тэхнікай, мастацтвам, жывапісам. Часопіс і далей будзе залучаць да супрацоўніцтва вядомых і найбольш цікавых фантастаў, і ў той жа час мае на мэце адкрываць новыя імёны. Пры гэтым якасць прозы была і застаецца асноўным крытэрыем адбору. У часопісе неадменна будзе і паэзія, неабавязкова аб іншапланецянах, а проста паэзія з большай доляй умоўнасці, чым у другіх выданнях. Рэдакцыя будзе знаёміць чытачоў з мастакамі свету, якія працавалі ў жанры, блізкім да фантастыкі, такімі, напрыклад, як Босх і Далі.

Цяпер «Фантакрым» ужо не адзіны ў краіне СНД прафесійны часопіс фантастыкі, і гэта прымушае думаць аб сваёй літаратурнай «нішы» і аб сваім чытачы. Рэдакцыя лічыць, што ёй патрэбна зваротная сувязь з чытачамі, і збіраецца ўлічваць іх пажаданні.

**Таццяна ПАЛЯКОВА.**

**АД РЭДАКЦЫІ**

Мы надрукавалі допіс Т. Палярковай, не зважаючы на тое, што часопіс «Фантакрым МЕГА» з'яўляецца рускамоўным і справе адраджэння пакуль што нічым не паслугоўвае. Але тым не менш літаратары-фантасты — нашы сучаснікі, і іх творчасць — складовая частка літаратурнага працэсу на Беларусі. Спадзяёмся, з цягам часу аўтары «Фантакрыма» звернуць увагу і на праблемы адраджэння і выяўлення беларускай духоўнасці.

## СЛЕД НЕ ЗГУБІЎСЯ

**22 сакавіка споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння паэта, выдаўца і педагога Эдзюка Будзькі. Генадзь Кахаоўскі, рыхтуючы для «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» матэрыял пра яго, зазначыў, што Эдуард Адамавіч, нарадзіўшыся ў Будславе Мядзельскага раёна, некаторы час вучыўся ў Рыжскім політэхнічным інстытуце, супрацоўнічаў з «Нашай Нівай», «Дзянніцай», «Нашай будучыняй», сам выдаваў газету «Светач».**

**Яшчэ раз лёс звёў Эдзюка Будзьку з Латвіяй у 1921 годзе, калі ў Даўгаўпілсе (Дзвінску) 25 сакавіка ўзнікла беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына», Будзька быў запрошаны ў Дзвінск як чалавек з вопытам арганізацыі ў Будславе беларускай гімназіі. Такую ж гімназію задумалі стварыць і ў Дзвінску.**

**Каб падрыхтаваць кадры беларускай інтэлігенцыі для будучай культурна-асветнай працы, 1 снежня 1921 года ў Дзвінску былі заснаваны беларускія аднагадовыя настаўніцкія курсы, дзе Э. Будзька і пачаў працаваць. Першы подпіс Эдуарда Адамавіча можна сустрэць на дакуменце, які пайшоў з Дзвінска ў Рыгу ў створаны пры Міністэрстве асветы Латвіі Беларускі аддзел разам з заявай 44 бацькоў: «Перасылаючы пры гэтым просьбу бацькоў беларускіх дзетак аб адчыненьню ў м. Дзьвінску беларускай гімназіі, Т-ва падтрымлівае просьбу бацькоў і просіць Беларускі Аддзел аб яе задавальненьні.**

**Старшыня (подпіс)**

**За сакратара Будзько 25.01.1922 г.»**

**У Рызе ў 1932 годзе выйшла кніга К. Езавітава «Беларускае культурна-асьветнае Т-ства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі». Там змешчаны і партрэты людзей, што самаахвярна працавалі на ніве адраджэння беларусаў Латвіі. Гэта Ян Харлап — першы старшыня таварыства, Ігнат Дварчанін — лектар першых курсаў беларусазнаўства, Ян Краскоўскі — дырэктар гімназіі, Максім Гарэцкі — выкладчык настаўніцкіх курсаў... На старонцы 23 чытаю: «Эдвард Будзько, 3-ці сакратар Т-ва «Бацькаўшчына», 2-гі кіраўнік Дзяржаўных Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў». Цікава, што Паўліна Мядзёлка, зямлячка Э. Будзькі, была 4-м сакратаром таварыства, да 1925 года выкладала ў гімназіі.**

**Нядоўга мядзельскі паэт пражыў ў Даўгаўпілсе. Занядужаў, вярнуўся на радзіму. Потым выехаў у Канаду. Памёр там 14 жніўня 1958 года.**

**Прапаную яго здымак з езавітаўскай кніжкі, каб мы змаглі ўгледзецца ў натхнёнае аблічча яшчэ аднаго адраджэнца, след яго не згубіўся.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12